# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ
БЕЛАРУСКАЙ
КУЛЬТУРЫ





№ 6-7 (21-22) 1927 г. ЧЭРВЕНЬ - ЛІПЕНЬ




МЕНСК.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ**

**№ 6-7 (21-22) Чэрвень—Ліпень 1927**

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ



ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1927




В. Самцэвіч.

# Вывучэньне вёскі—неадкладная задача краязнаўчых організацый.

Яшчэ зусім нядаўна, на нашай памяці вёска жыла далёка ня так, як яна жыве цяпер. Шмат якія вёскі расьсяліліся цяпер на хутары і на пасёлкі, дзе жыцьцё ўжо ідзе інакш, чым ішло раней у самай вёсцы. Вёска з яе звычаямі і традыцыямі ўсіх уцягвала ў адно жыцьцё, прымушала ўсіх жыць і гаспадарыць аднолькава старымі спосабамі. Зараз зьнішчаецца цераспалосіца, паляпшаецца тэхніка сельскай гаспадаркі, ствараецца новы тып земляроба-культурніка.

Социяльна-экономічныя, нацыяльныя і рэлігійныя асаблівасьці кожнае групы накладвалі свой характэрны адбітак на быце ня толькі паасобных вёсак, але і на быце паасобных груп аднае і тае-ж вёскі. Так, напр., мяшчанска-шляхецкія элемэнты вёскі выдзяляліся з „мужыцкай“ масы і сваёй вопраткай, і сваімі звычаямі, і сваімі хатнімі ўмовамі жыцьця. Мяшчанска-шляхецкія сем'і цягнуліся да местачковай і гарадзкой культуры, пераймалі матар'яльную і духоўную культуру гарадзкога мяшчанства. „Мужыцка“-сялянскія групы насельніцтва трымаліся сваіх вясковых парадкаў і звычаяў. І толькі моладзь, якая ўхадзіла на адходжыя промыслы, на фабрыкі, на чыгункі, вярнуўшыся да сваіх хат, уносіла элемэнты быту рабочае клясы. Горад з двух бакоў рабіў свой уплыў на насельніцтва вёскі і руйнаваў яе ўстоі: частка насельніцтва пролетарызавалася і ўспрыймала ідэалёгію і культуру рабочае клясы, другая частка падпадала пад уплыў і ішла па шляху дробна-буржуазнага мяшчанства. Усё гэта з кожным годам яскравей выяўлялася, пачынаючы з пачатку XX сталецьця.

Абрадавая і бытавая поэзія: песьні, гульні, скокі найбольш захоўваліся ў вясковай сялянскай гушчы. Гэтая поэзія паступова, з кожным годам вымірае. Адначасна з гэтым рэволюцыя і новае савецкае будаўніцтва ўносіць новыя мотывы ў поэзію вёскі. Сучасныя рэволюцыйныя песьні, песьні новага быту выцісkаюць поэзію мінулага.

Народная мэдыцына: травы, зельле, шэпты, замовы і г. д. застаецца яшчэ досыць популярнай на вёсцы з прычыны слабага абхопу вёскі мэдыцынскай дапамогай і нізкага культурнага ўзроўню насельніцтва. Але і тут мы маем пералом у поглядах сялян. Культура пашыраецца, народ усвойвае матар'ялістычны сьветапогляд і пакрыху далучаецца да культуры і навукі. Рэлігійныя забабоны вымірають.

Наогул трэба сказаць, што вёска перажывае момант, калі нязвычайна хутка вымірае стары ўклад яе жыцьця і нараджаецца новы лад, новыя формы гаспадаркі і быту, нарастае новая ідэалёгія, новая поэзія вёскі. У гэты момант зьяўляецца вельмі неабходным вывучэньне вёскі ў яе пераходным становішчы. Для будаўніцтва гаспадаркі на новых

асновах трэба знаць усе экономічныя ўмовы, становішча сельска-гаспадарчай тэхнікі, культурнасьць насельніцтва, а таксама і тыя традыцыі, якія маюць месца ў тэй ці іншай вёсцы. Важна знаць, якія ўзаемаадносіны і супярэчнасьці былі паміж паасобнымі групамі насельніцтва вёскі і ў чым яны выяўляліся. Звычаёвае права, культурны рост вёскі, бытавыя зьмены—усё гэта такія факты, якія неабходна вывучыць.

Усебаковае вывучэньне вёскі дасьць багаты фактычны матар'ял для гісторыка і этнографа.

Мы думаем, што вывучэньне гэта павінна ісьці ў двух кірунках: 1) вывучэньне паасобных момантаў і фактаў цэлага шэрагу вёсак, напр.: „Формы зямлякарыстаньня", „Сельска-гаспадарчая тэхніка", „Народная мэдыцына на вёсцы", „Соцыяльна-экономічныя супярэчнасьці" на вёсцы ў тым, ці іншым раёне ці акрузе і 2) монографічнае апісаньне найбольш тыповых вёсак.

Часта зараз краязнаўчыя гурткі і нават раённыя Т-вы не знаходзяць для сябе працы, а між тым апісаньне сваёй вёскі было-б магчымай, даступнай і вельмі карыснай працай, маючай каштоўнасьць для кожнага, хто будзе займацца вывучэньнем экономікі, гісторыі і быту нашай вёскі. Паміж іншым трэба падкрэсьліць, што наша вёска зусім да гэтага часу не вывучалася ў шырокім маштабе. Наша вёска, быт сялянства—нават у нашай літаратуры не знайшлі больш-менш поўнага адбітку. Краязнаўчым організацыям трэба ўзяцца безадкладна за вывучэньне нашай вёскі ў яе мінулым і сучасным.

Пры вывучэньні нашага краю трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на вывучэньне вёскі, яе насельніцтва, гаспадаркі, быту. Гэта мае вялікае значэньне ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. Каб будаваць новую вёску, трэба ведаць вёску сучасную і вёску ў мінулым.

---



Д-р З. К. Магілеўчык.

# Да пытаньня сучаснага стану гарадоў БССР.

*(Агульная санітарная характарыстыка).*

Санітарная культура і дабрабыт залюдненых месц характарызуюцца больш за ўсё добра наладжанай вадазабясьпекай і выдаленьнем нячыстот. Калі гэтыя пытаньні паставіць у адносінах да гарадоў БССР, дык яны зьяўляюцца пытаньнямі дня, як неадкладная задача палепшаньня гарадзкога дабрабыту, асабліва прымаючы пад увагу рост гарадоў і прамысловасьці ў іх.

Аб цэнтральнай вадазабясьпецы можна казаць толькі адносна наступных гарадоў: Менску, Віцебску, Магілева, Мазыра. Праўда, ёсьць і ў іншых гарадох нешта падобнае да вадаправодаў, як, напр., Полацак, Бабруйск, Ворша, але гэта нельга лічыць цэнтральнай водазабясьпекай, бо карыстаньне імі мае індывідуальны характар асобных груп дамоў, устаноў і г. д.

У гарадох якія ня маюць цэнтральнай падачы вады, насельніцтва карыстаецца студнямі і адкрытымі вадазборамі—рэкамі, якія працякаюць праз тыя ці іншыя гарады—З. Дзьвіна, Бярэзіна, Дняпро і інш.

Студні пераважна капаныя, з драўлянымі зрубамі альбо бэтоннымі і толькі нязначная колькасьць сьвідраваных—„абэсінскіх". З прычыны адсутнасьці дакладнага вучоту студняў, пэўных лічбаў аб іх па асобных гарадох даць немагчыма. Крыніцамі цэнтральных вадазбораў зьяўляюцца: у Менску „бруклінскія" студні (вада з верхніх ваданосных пластоў глебы) і сьвідраваныя—„артэзыянскія, у Віцебску—„артэзыянскія", у Магілеве—„артэзыянскія", у Мазыры—рака Прыпяць.

Даўжыня вадаправоднае сеткі, паводле матар'ялаў дасьледваньня сан. організацыі ў 1926 г., выяўляецца ў наступным: Менск—20. 170 с., Віцебск—17.500 саж., Магілеў—4.750 саж., Мазыр—3.720 саж.; дамаўладаньняў далучаных да Віцебску—каля 70%, Магілеў—каля 30%, Мазыры—60%; агульны расход вады на душу ў сярэднім складае 3 вядры ў суткі.

З памянёнага відаць, што з цэнтральнай падачы вады забясьпечаны галоўным чынам цэнтральныя часткі гарадоў, а ўскраіны карыстаюцца студнямі і адкрытымі вадазборамі.

Апрача насельніцтва, цэнтральнай вадаправоднай вадою карыстаюцца прамысловыя прадпрыемствы і лазьні. Сярэдні сутачны расход гэтае вады выяўляецца ў Менску—каля 300.000 в. у суткі, у Віцебску—250.000 в., Магілеве—59.800 в., Мазыры—25.000 в.

Пераходзячы да санітарнае ацэнкі гарадзкога забясьпечаньня ва-

дою, трэба адзначыць, што сучаснае становішча і ўсе яго хібы вынікаюць з мінулага. Пры беднасьці гарадоў і пры быўшых бюрократычных гарадзкіх управах, наладжваньне цэнтр. падачы вады, якая-б забясьпечыла насельніцтва здаровай вадой, ня мела належнага пашырэньня і посьпеху. Годы-ж імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнаў і, у выніку іх, гаспадарчая разруха ў значнай меры пагоршылі і тое, што было. Рамонты не рабіліся, дагляд быў дрэнны.

Толькі з часу мірнага будаўніцтва Савецкай Беларусі справа гэта пачала наладжвацца ва ўсіх гарадох і больш конкрэтна выяўлена ў 1926 годзе.

За гэты час наладзілі санітарны і тэхнічны нагляд за цэнтральнай падачай вады і наогул за крыніцамі вадакарыстаньня,—праводзіцца лябораторны контроль за якасьцю вады і наогул вядзецца навукова-дасьледчая праца па гэтай справе (Мэдсекцыя ІБК, санітарная організацыя), пашыраецца сетка існуючых вадаправодаў; у гарадох, якія ня маюць цэнтральнай падачы вады, паляпшаюцца студні і г. д.

Мерапрыемствы па асобных гарадох выяўляюцца ў наступным:

1. *Менск.*—Абноўлены насосы; дзеля здабычы лепшае вады і павялічэньня колькасьці яе высьвідраваны дзьве „артэзыянскія“ студні (раней была адна „артэзыянская“ і 5 „бруклінскіх“), паглыблены „бруклінскія“ да лепшага ваданоснага пласту глебы; адна „бруклінская“ студня зусім выключана, з прычыны нядобраякаснае вады ў ёй; увесь час робіцца прачыстка труб вадаправоднай сеткі, якія захрасьлі рознымі адкладамі (жалезавыя водарасьлі, окісь жалеза і г. д.).

2. *Віцебск.*—Абнаўленьне рухавікоў, перакладка магістралі, пашырэньне вадаправоднае сеткі дзеля забясьпекі ўскраіны і г. д.

3. *Бабруйск.*—Пачата сьвідраваньне „артэзыянскіх“ студняў і будаваньне ваданапорнае вежы для цэнтральнай падачы вады. Да гэтага году горад карыстаўся рачной вадой і студнямі.

4. *Полацак.* — Ад вадаправоду, якім карыстаецца электрычная станцы, праведзены магістралі па вуліцах і зроблены вадаразьбіральныя краны.

5. Распрацавалі плян для далейшага пашырэньня існуючай цэнтральнай падачы вады і будаваньня новых у гарадох, якія ня маюць да гэтага часу вадаправодаў, гэта будзе рабіцца па чарзе паводле асноўных адзнак,—залюдненасьці, росту гарадоў, пашырэньня прамысловасьці іх і г. д.

Ня гледзячы на цэлы шэраг мерапрыемстваў, толькі што адзначаных, сучасную вадазабясьпеку нашых гарадоў нельга лічыць здавальняючай.

Яшчэ трэба шмат сродкаў, часу і новых палепшаньняў як з тэхнічнага, так і з санітарнага боку, каб паставіць яе на належную вышыню. Расход вады ў 3 вядры на душу ў гэтым ліку і патрэбы прамысловасьці складае ўсяго толькі палову мінімальнай санітарнай нормы. Апрача таго часта бываюць перабоі ў падачы вады, з прычыны недастачы яе ў цэнтральных вадазборах і няпоўнай спраўнасьці вадаправоднае сеткі (Менск, Віцебск). Вадаправодная сетка, якая ўжо існуе, вымагае дасканалага прагляду, рамонту і ачысткі.

Вадаправодная вада, якая набіраецца з верхніх ваданосных пластоў глебы і адкрытых вадазбороў, не зьяўляецца ў санітарных адносінах добраякаснай (Менск, Мазыр).

Значная забруджанасьць глебы гарадоў, дзякуючы адсутнасьці каналізацыі і неналаджанаму ўдаленьню нячыстот, аб чым будзе сказана

ніжэй, адбіваецца на якасьці вады тых вадазбораў, якія знаходзяцца ў межах забруджваньня зон аховы крыніц цэнтральных вадазбораў і ачышчальных пабудаваньняў (біолёгічных фільтраў, прыстасаваньняў для хлёраваньня вады і г. д.). Адкрытыя вадазборы ў межах гораду забруджваюцца як сьцёкам нячыстот з абшараў гораду, так і іншымі спосабамі. Сан.-гігіенічныя аналізы вады падкрэсьліваюць небясьпеку падобных умоў вадазабясьпечаньня. Так, па Менску характарыстыка забруджваньня вадаправоднае вады выяўляецца ў павялічэньні прысутнасьці аміяку і азоцістае кіслаты пры наяўнасьці каленій (мікробаў) ад 1.100 да 2.000 у адным куб. сан. і іншымі адзнакамі забруджваньня. Падобны малюнак даюць і студні, якія знаходзяцца ў межах забруджанае глебы.

Пераходзячы да характарысткі ўдаленьня нячыстот і адкідаў сьмецьця па гарадох, трэба адзначыць, што агульнагарадзкой каналізацыі ніводзін горад БССР ня мае. Пытаньні аб каналізацыі ў даваенны час ставіліся, але яны так і заставаліся толькі на паперы.

Дзяржава ня гэтую агульную справу аховы здароўя сродкаў не давала, а прыватны капітал тым больш ня йшоў насустрач, ня бачачы для сябе ад гэтага асаблівай карысьці. Іншая справа пабудаваць дом і ў час эксплёатацыі яго нажываць вялікія проценты.

У 1926 г. пытаньне аб каналізацыі гарадоў перад гарадзкімі Саветамі буйных гарадоў БССР і вышэйшымі органамі Савецкай улады паўсталі, як неадкладная мера аховы здароўя насельніцтва. З гэтага-ж году можна бачыць конкрэтнае выпаўненьне гэтае задачы. Першыя практычныя мерапрыемствы ў гэтай справе пачаліся ў г. Менску. Вызначаны сродкі, праведзена падгатоўчая праца і пачаты непасрэдна каналізацыйныя работы. Адносна іншых гарадоў таксама справа гэта прадугледжана ў агульна-плянавым будаўніцтве гарадоў, у залежнасьці ад іх об'ектыўных ўмоў жыцьця.

Як-жа зараз абстаіць справа ўдаленьня нячыстот. Трэба сказаць, што як раней, так і цяпер гэтая справа знаходзіцца ў вельмі дрэнных санітарных умовах. Замест агульна-гарадзкой каналізацыі, у буйных гародах (Менск, Віцебск, Магілёў і інш.), больш буйныя дамаўладаньні карыстаюцца дамовай каналізацыяй з сыстэмай глыбокіх усмактваючых ям.

Схэма дамовае каналізацыі наступная: у кватэры цёплы клёзэт, нячыстоты спускаюцца вадой па трубах, якія праходзяць па дварэ праз няглыбокія адстойныя ямы—„біолёгічны фільтр" і ўрэшце трапляюць у ўсмактваючыя ямы. Будаваньняў гэтае сыстэмы зьверху ня відаць, усё знаходзіцца ў зямлі, закрыта і нават засыпана зямлёй. Уся сыстэма вельмі прымітыўна і казаць аб якой-небудзь ачыстцы нячыстот ня прыходзіцца, апрача асаджэньня некаторай часткі плотных матэрый. Такі спосаб удаленьня нячыстот зьяўляецца асноўнай пагрозай забруджваньня глебы, вады і паветра.

Справа ў тым, што глыбокія ўсмактваючыя ямы капаюцца з тэй мэтай, каб нячыстоты лёгка ўсмактваліся глебай, дзеля чаго прыходзіцца шукаць адпаведных пластоў яе. Такімі пластамі якраз зьяўляюцца ваданосныя пласты. Глыбіня „усмактваючых ям", як і студняў, розная, бывае да 12—15 саж., у залежнасьці ад месца капаньня іх.

Нячыстоты ўсмактваюцца да таго часу, пакуль яма не заплыве, пасьля чаго капаецца новая яма і г. д. Зразумела, што тыя нячыстоты



якія ўсмактваюцца ваданоснымі пластамі глебы, трапляюць у студні, якія знаходзяцца на глыбіні гэтых пластоў. Сыстэма дамовае каналізацыі ў вялікіх гарадох, як напр. Менск, так забрудзіла глебу, што для мінэралізацыі гэтага бруду, пры поўным адпачынку глебы, патрабуецца доўгі час. Калі-б зрэзаць паверхню глебы цэнтральных вуліц г. Менску, дык гэты зрэз будзе падобны да разрэзанага галяндзкага сыру. У Менску ёсьць такія двары, што няма нават месца, дзе можна было-б выкапаць новую яму. Крыху лепш у гэтых адносінах абстаіць справа ў іншых гарадох, менш залюдненых.

Некаторыя ўстановы, як напр., больніцы маюць больш дасканалы тып індывідуальнае каналізацыі, хоць і падобны на дамовую.

Большая частка домаўладаньняў карыстаюцца звычайнымі клёзэтамі з выграбнымі ямамі, з якіх нячыстоты вывозяцца асанізацыйнымі абозамі. Гэты спосаб у даваенны час слаба быў наладжаны, такім і цяпер застаецца. Папершае, выграбы за рэдкімі выключэньнямі маюць непранікаючыя сьценкі і дно, г. зн., што і тут нячыстоты ўсмактваюцца верхнімі пластамі глебы і забруджваюць яе. Падругое,—вываз нячыстот неакуратны,—слаба наладжана і неўпарадкавана асанізацыйная справа. Дрэнна наладжана справа арганізацыі загарадных звалачных месц і асанізацыйных палёў, за выключэньнем г. Магілева, дзякуючы чаму, нават, тыя нячыстоты, якія вывозяцца з цэнтру, часта не трапляюць туды, куды трэба.

Цяпер калі падагулім усё вышэйсказанае адносна ўдаленьня нячыстот з нашых гарадоў, дык ні ў якім разе нельга сказаць, што каб хоць прыблізна гэта справа была наладжана.

Калі падлічыць усе нячыстоты, якія даюць нашы гарады, і, паводле санітарнага дасьледваньня, уявіць сабе справу ўдаленьня іх, дык можна сьмела сказаць, што каля 1/3 нячыстот застаецца на абшары гарадоў, што з кожным днём пагаршае санітарнае становішча іх,—забруджваецца глеба, вада і паветра, асабліва ў буйных гарадох.

Дрэнна наладжаная справа ўдаленьня нячыстот і вадазабясьпекі перш за ўсё адбіваецца на хваравітасьці насельніцтва страўна-кішачнымі хваробамі, якія ў нашых гарадох вышэй сярэдніх даных хваравітасьці па БССР, што можна бачыць з табліцы:

**Інфэкцыйныя страўна-кішачныя хваробы на 10.000 насельніцтва*).**

| | 1924 г. | | | 1925 г. | | | 1926 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бруш. тыф. | Эпід. гастра-энтэр. | Крываўка (дызэнтэр.). | Бруш. тыф. | Эпід. гастра-энтэр. | Крываўка. | Бруш. тыф. | Эпід. гастра-энтэр. | Крываўка. |
| 1. Гарады БССР . . | 13.5 | 15,4 | 61,1 | 20,6 | 23,6 | 5,2 | 11,2 | 14,4 | 5,5 |
| 2. Сельскія мясцовас. БССР . . . . . | 11,1 | 15,7 | 16,6 | 13,3 | 18,1 | 12,7 | 10,5 | 11,9 | 8,9 |

*) Меншая хваравітасьць на брушны тыфус у нашай вёсцы, у параўнаньні з гарадамі, яшчэ не адзначае сабой санітарнага дабрабыту водазабясьпекі і вадакарыстаньня ў ёй. У даным выпадку трэба мець на ўвазе: 1) што ня ўсе хворыя пападаюць рэгістрацыі, 2) дзякуючы раскіданасьці вёсак,—эпідэміі ня так хутка перакідваюцца з аднае вёскі ў другую. Затое, калі здарыцца хоць адзін выпадак гэтае хваробы на вёсцы, дык ён, у большасьці выпадкаў, зьвівае там сталае гняздо, пакуль не перахварэе ўся вёска.

Вось чаму, прымаючы яшчэ пад увагу нязначную залюдненасьць нашых вёсак, даныя хваравітасьці ў агульнай масе ўсяго сельскага насельніцтва менш выяўляюцца, чымся ў гарадох.

| | 1924 г. | | | 1925 г. | | | 1926 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бруш. тыф. | Эпід. гастра-энтэр. | Крываўка (дызэнтэр.). | Бруш. тыф. | Эпід. гастра-энтэр. | Крываўка | Бруш. тыф. | Эпід. гастра-энтэр. | Крываўка |
| 3. Гарады і сел. мясц. БССР разам . . | 11,4 | 12,6 | 20,7 | 14,0 | 18,6 | 12,0 | 10,6 | 12,2 | 8,5 |
| 4. РСФСР „ . . | 12,0 | — | 27,7 | 12,2 | — | 24,8 | — | — | — |
| 5. Украіна „ . . | 14,3 | — | 17,4 | 12,3 | — | 8,8 | — | — | — |
| 6. СССР „ . . | 12,3 | — | 25,0 | 11,9 | — | 21,3 | — | — | — |

Не даючы асаблівых тлумачэньняў адносна прыведзенае табліцы, можна сьмела сказаць, што санітарны стан вадазабясьпекі і глебы ў нашых гарадох зьяўляецца небясьпечным.

Падагульваючы ўсё разам, трэба сказаць, што палепшаньне вадазабясьпекі нашых гарадоў і наладжаньне справы ўдаленьня нячыстот зьяўляецца неадкладнай задачай, якая стаіць перад нашымі ўстановамі і грамадзкасьцю. Зробленыя захады ў гэтым кірунку зьяўляюцца толькі пачаткам наладжваньня гэтае справы. Казаць, што вось праз гады дватры будзе пабудавана каналізацыя ў нашых гарадох—ня прыходзіцца. Гэтая справа, як казалася вышэй, вымагае сродкаў і часу. Конкрэтна зараз пытаньне можна так паставіць, упарадкаваць існуючую сыстэму ўдаленьня нячыстот: наладзіць асанізацыйную справу, звалачныя месцы, сачыць за адпаведным будаваньнем дваровых клёзэтаў, сьмяцьцёвых скрынак, сваячасовым вывазам нячыстот, наладзіць справу ачысткі і ўдаленьня нячыстот з плошчаў, рынкаў і іншых месц агульнага карыстаньня і г. д.

У далейшым будаваньні сыстэмы дамовае каналізацыі з „усмактваючымі ямамі“ трэба забараніць, як асноўную пагрозу ў санітарных адносінах. Гэтыя агульныя мерапрыемствы, якія не вымагаюць асаблівых затрат і то ў значнай меры дапамогуць аздараўленьню ў нашых гарадох глебы, вады і паветра.

Што-ж тычыцца вадазабясьпекі, то апрача вышэйпамянёных мерапрыемстваў, неабходна зьвярнуць увагу на рамонты тэхнічных установак цэнтральнай вадазабясьпекі, пашырэньне вадаправоднае сеткі, рамонт і прачыстку існуючых, устанавіць санітарную зону аховы цэнтральных вадазбораў, палепшаньне студняў і г. д.

Апрача гэтага, побач з узмацненьнем экономічнага становішча нашае гаспадаркі, неабходна прымаць больш шырокія мерапрыемствы (вадаправод, каналізацыя) па адзнаках санітарнага недабрабыту асобных гарадоў, залюдненасьці—экономічнага і культурнага разьвіцьця іх.

Усе мерапрыёмствы па ахове здароў'я ў нашых гарадох і нагогул залюдненых месцах павінны грунтавацца на навуковых даных дасьледнае працы сучаснага стану іх. Гэты бок у нас пакуль што мала высьветлены. Вывучэньнем гэтае справы ў першую чаргу павінны заняцца санітарныя організацыі разам з краязнаўчымі.






Л. Цьвяткоў.

# Некалькі слоў аб менскіх татарах.

Аб менскіх татарах мы ня ведаем якой-небудзь друкаванай працы,—ані гістарычнай, ані этнографічнай.

Між тым татары ў Менску жывуць ужо некалькі вякоў. Ужо адна назва „Татарскі канец“ у Менску пераносіць нас у далячыню мінуўшчыны.

Але сказаць што-небудзь вычарпаюча-пэўнае аб тым, калі, як і чаму зьявіліся тут татары, пакуль што немагчыма.

Няма докумэнтальных крыніц.

Першая вестка аб менскіх татарах сустракаецца ў прывілеі караля Жыгімонта III менскім мяшчанам 26 мая 1606 г., адкуль відаць, што ў той час татары менскія не падлягалі мейскай мяшчанскай юрысдыкцыі і Майдэборскаму праву, дзеля чаго на іх не пашыраліся мяшчанскія правы і льготы [1]).

Другі вядомы нам докумэнт дадае новую рыску ў гэтым пытаньні.

1617 г. 26 студзеня кашталян менскі Пётра на Лагойску Тышкевіч па даручэньні караля Жыгімонта III даходзіў у Менску зроблены апошняму даказ на менскіх татар.

Нейкія асобы, прозьвішчаў якіх, на жаль, няма ў докумэнтах, пасьведчылі, што, няпраўна захапіўшы пляц Менскай Ускрасенскай царквы, менскія татары пабудавалі на гэтым пляцы сваю мячэць.

З пільнасьцю ўзяўся за гэтую справу Тышкевіч.

Татары ня толькі аднастайна паказалі, але і докумэнтамі падмацавалі свае словы, што яны гэты пляц вышэйназванай Ускрасенскай царквы набылі шляхам „добрае замены“ ад ускрасенскага папа Сьцяпана.

Татары прадставілі належны ліст на гэтую замену, а да гэтага і пісьмовыя зацьвярджэньні яго, якія мелі менскія татары ад ужо памёршых мітрополітаў: Міхайлы Рагозы (1590—1599 г. г.) і Іпата Пацея (1599—1613 г. г.), а таксама і ад тагачаснага мітрополіта Язэпа Веляміна Руцкага.

Разгледзеўшы па даручэньні караля гэтую справу, Пётра Тышкевіч знайшоў правы татар давядзенымі і выдаў ім у Менску 26 студзеня 1617 году свой ліст, у якім апраўдвае татар ад выказанага супроць іх абвінавачаньня.

---

[1]) Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Минск. 1848 г., стар. 108.

У тым-жа годзе гэты ліст быў запісаны ў актавыя гродзкія кнігі Менскага замку (8 верасьня 1617 году).

Прынёс для запісу гэты акт менскі татарын Саліман Зецкевіч [1]).

Прыведзены докумэнт сьведчыць, што ў Менску татары бязумоўна былі ў канцы XVI сталецьця, што яны пабудавалі мячэць сваю ў Менску ў часы мітрополіта кіеўскага Міхайлы Рагозы, які быў на гэтай пасадзе з 1590 па 1599 г.

Прымаючы пад увагу, што мячэць павінна была будавацца ў сувязі з нейкімі надзвычайнымі абставінамі, напрыклад, з пасяленьнем у гэты час у Менску татар (гэта нам якраз і здаецца больш за ўсё верагодным), мы лічым, што маем тут перад сабою мажлівую дату зьяўленьня татар у Менску і засяленьня імі „Татарскае Слабады“.

Але-ж гэта ўсё-ткі толькі *мажлівая,* а не бясспрэчная дата.

Такім чынам, пытаньне аб часе зьяўленьня ў менску татар пакуль што застаецца адчыненым.

Трэба дадаць да гэтага, што паміж менскіх татар існуе паданьне, быццам яны паходзяць з крымскіх ваеннапалонных.

Не затрымліваючыся на гістарычных лёсах менскіх татар, мы ставім заданьнем азнаёміць чытачоў „Нашага Краю“ з сучаснасьцю гэтае часткі менскага насельніцтва.

Папершае, трэба адзначыць, што менскія татары ў шмат якіх абставінах свайго жыцьця кіруюцца „коранам“, які яны называюць „куран“.

„У сям'і Смайкевічаў ёсьць коран 1725 году. Ёсьць у іх і „Ай-Кітаб“ 1812 г. (гэтую дату атрымаў профэсар Раўрэбэ, перавёўшы на наша летазьлічэньне 1230 год мусульманскае эры, бо прыняў пад увагу розьніцу ў колькасьці дзён паміж усходнімі месячнымі і нашымі сонечнымі гадамі).

Менскі паасобнік корану 1725 г. мае пры арабскім тэксьце падрадковы пераклад на беларускую мову з значнаю колькасьцю полёнізмаў.

Ай-Кітаб—гэта зборнік легенд і паданьняў, здаецца, таксама перакладзеных або наогул большаю часткаю ці нават цалкам запазычаных з розных крыніц. У паасобніку 1812 году ёсьць толькі тэкст на беларускай мове, даволі чыстай, бяз прыметнага чужаземнага ўплыву.

Аўтару гэтых радкоў удалося, знайшоўшы вышэйпамянёныя кнігі, адразу-ж зьвярнуць на іх увагу вядомага сэмітолёга, профэсара Б. Д. У. Раўрэбэ.

Прагледзеўшы гэтыя кнігі, мы прышлі да выніку, што і ў часе так званага беларускага заняпаду наша мова жыла яшчэ нават у якасьці літаратурнай, толькі ня ў хрысьціянскага насельніцтва, а сярод мусульман.

Карыстаючыся арабскімі літарамі, можна добра перадаваць беларускія гукі: *ць, ц, дзь, дз, дж,* а для *ч* і *п* ужываюцца нейкія адмены арабскіх знакаў (падобныя якім можна знайсьці ў пэрсаў ды туркаў).

Гэты факт—карыстаньне мусульманскіх пісьменьнікаў беларускаю моваю,—высьвятляе наогул стан асыміляцыі, якой падлягала татарская нацменшасьць, калі яна пачынала жыць паміж беларускага народу.

Менскія татары найбольш адрозьніваюцца ад суседзяў у рэлігійных адносінах. На гэта зьвярнуў увагу яшчэ Шпілеўскі ў сваім апісаньні Менску, якое друкавалася ў часопісе „Современник“ за 1854 год.

---

[1]) Там-жа. Стар. 168-169, № 93.

Шпілеўскі апісвае драўляную мячэць у Менску. У ёй два аддзелы: для мужчын і для кабет, паміж імі краты; унутры няма ніякіх аздоб, апроч бальдахіну для муллы ў мужчынскім аддзеле; падлога заслана зялёным сукном, а пры сьценах ёсьць зэдлікі для багамолаў.

Апроч таго, ёсьць яшчэ нешта падобнае да перадпакою, дзе татары пакідаюць абуткі, бо няможна ўваходзіць у мячэць у ботах.

Фотографічны здымак з старое мячэці захоўваецца ў сям'і Смайкевічаў; мячэць была сфотографавана ў самым пачатку XX сталецьця, перад тым, як яе замянілі новым ды без параўнаньня лепшым цагляным будынкам.

Цяцер у мячэці ёсьць і мінарэт, а даўней муэзьзін склікаў парафіян на малітву, стоячы на ганку мячэці. На сьвята Байраму мусульмане ў некаторых мясцовасьцях, як здаецца, склікаюцца на вуліцах, што дасьледчык гісторыі і быту беларускіх татар А. Мухлінскі хацеў-бы тлумачыць яўрэйскім уплывам.

У Менску татар ня шмат і кажуць, што такога звычаю ў іх няма. Прынамсі менскія татары мне сказалі, што яны гэтага ня помняць.

Ніякага ізоляваньня жанчын ад мужчын у нашых татар няма. Аб „чадрах" не засталося нават і ўспаміну. Цікава, што ў „ходжаў" (пілігрымаў у сьвятыя месцы) вучыліся паарабску і дзяўчаты і хлапцы разам; аб гэтым мне гаварылі старыя татары.

Наагул пагляд на рэлігію лібэральны. У сям'і Смайкевічаў ёсьць, напрыклад, статуэткі, а нябожчык мулла Мустафа Смайкевіч ды парафіяне былі нават сфотографаваны. А гэта сурова забараняецца мусульманскім законам.

З рэлігійных наказаў мусульманскае навукі ў быце менскіх татар захавалася далёка ня ўсё. Вось што гаворыць аб гэтым іх старэйшае пакаленьне.

Супольная мусульманам і яўрэям забарона ўжываць мяса іншых сысуноў, апроч жвачных—парнакапытных, іншых рыб, апроч лускаватых, прымаецца яшчэ пакуль што пад увагу. „Але", гавораць татары: „як ужываньне жытняга хлеба зьяўляецца патураньнем асаблівым умовам пазьнейшага часу, таксама ня вельмі цяжкім грахом лічыцца і ўжываньне каніны. Мы яе не ямо не дзеля грахоўнасьці такое ежы, а ўпрост дзеля яе нясмачнасьці". Сьвіньняў-жа, самоў, мянтузоў татары есьці ніколі не згаджаюцца.

Жывёлу рэжуць спосабам, падобным да яўрэйскага, толькі дзеля большае пэўнасьці пасьля першага грунтоўнага сьмяротнага разрэзу праводзяць нажом яшчэ ўзад ды зноў уперад, робячы такім парадкам тры рухі. Пры гэтым гавораць паарабску: „У імя бога ўсемагутнага".

Купляюць, аднак-жа, і трэфнае мяса (апроч сьвініны).

Паколькі Магамэт, забараніўшы віно, нічога не сказаў аб гарэлцы, ад гэтае апошняе адмаўляюцца далёка ня ўсе татары. На вясельлях у іх рэдка калі пануе бязумоўная цьвярозасьць.

Пятнічны адпачынак у мусульман падобны да суботняга ў яўрэяў і нядзельнага—у некаторых протэстанцкіх старонках, заселеных англасаксамі.

Менскія татары зусім не згаджаюцца з гэтым рэлігійным наказам: яны і пішуць і лічаць грошы ў пятніцу.

Нашы татары вельмі даўно адмовіліся ад полігаміі дзеля таго, што толькі гэтаю цаною ім можна было атрымаць дазвол на мяшаныя

шлюбы. Праўда тое, што ўрад Рэчы Паспалітае потым (у часе клерыкальнае рэакцыі) усё-ткі забараніў татарам жаніцца з хрысьціянкамі, але нашы мусульмане тады зусім ня мелі ахвоты варочацца да гарэмнага быту, бо ўжо былі прывыкшы да моногаміі.

Даўнейшае імкненьне татар да мяшаных шлюбаў лёгка было-б растлумачыць, калі-б мы прынялі гіпотэзу аб пахаджэньні нашых мусульман ад крымскіх ваеннапалонных, бо ваякі звычайна не бяруць сваіх жонак з сабою ў паход.

Няпрыхільнасьць да полігаміі выяўляецца часам даволі яскрава. Калі адзін немясцовы мусульманін пасяліўся з дзьвюма жонкамі сярод менскіх татар, усе суседзі выкпівалі яго, як нейкага вар'ята.

Штодзенныя (пяць разоў у дні) малітвы з абмываньнямі цяпер ужо далёка ня ўсе могуць і хочуць выконваць.

Маладзіковыя сьвяты (падобныя да яўрэйскіх), пост Рамазан, найвялікшае сьвята Байрам захоўваюцца, але не заўважаецца значнага іх уплыву на ўвесь ход жыцьця, як гэта мы бачым на Ўсходзе.

Духаўнікі (муллы) залежалі адміністрацыйна ад Сымфэропальскае духоўнае ўправы, яшчэ раней—ад Бэндэрскага муфтыя.

Гэта—апошнія ўспаміны аб паўднёвым пахаджэньні нашых татар.

Духавенства большаю часткаю бывала бяз вышэйшае духоўнае асьветы, але, каб атрымаць годнасьць муллы, трэба было ўсё-ткі пасылаць у Сымфэропаль пэўную тэолёгічную працу. Выбраны парафіянамі мулла зацьвярджаўся на пасадзе Сымфэропальскаю духоўнаю ўправаю.

Вопратка духаўнікоў падобна да ўсім вядомае расы праваслаўнага духавенства.

Унутранасьць мячэці нагадвае сынагогу („школу"). Простыя лавы, катадра; замест абразоў, якія мы бачым у праваслаўных і каталікоў, вывслоўі з корану. Гэтыя выслоўі мы знаходзім і ў пакоях у татар. Той, хто бываў у крымскіх або казанскіх татар, з вялікім падзівам заўважыць у нашых мусульман, побач з гэтымі выслоўямі, фотографічныя здымкі, малюнкі ды нават статуэткі розных пастушкоў і рыбакоў.

Татарскае насельніцтва гораду Менску чыста суніцкае; шыітаў (якіх шмат, напрыклад, у Азэрбайджане) у нас зусім няма.

Пабачым, як складаюцца для татар матар'яльныя ўмовы жыцьця.

Шпілеўскі ў 1854 годзе лічыць у Менску 400 душ татар.

Паводле паказаньняў перапісу 1897 году, усяго татар у Менску было 1.146 чалавек; з гэтага ліку самастойныя сродкі ўтрыманьня мелі 373 мужчыны і 66 кабет, а ў якасьці членаў сям'і запісаны 251 мужчына і 456 кабет.

Паводле перапісу 1923 году, усяго татар было 1.045 чалавек (значыцца, лік іх зьменшыўся на сто адну асобу). Мужчын было 474, а кабет 571. Лік кабет нават павялічыўся, але вельмі значна зьменшылася колькасьць мужчын. Абставіны ваеннага часу бязумоўна згралі тут пэўную ролю.

У Шпілеўскага і ў выніках перапісу 1923 году мы не знайшлі падзелу татарскага насельніцтва па профэсіях.

Вынікі таго перапісу, які вядзецца цяпер, у канцы 1926 году, будуць нам вядомы толькі ў наступным 1927 годзе.

Таму мы можам тут прывесьці толькі даныя перапісу 1897 году, даволі падрабязныя і вельмі цікавыя.

Тады менскія татары, паводле сваіх заняткаў, падзяляліся наступным спосабам.

**Табліца статыстычных даных аб менскіх татарах паводле вынікаў перапісу 1897 году.**

| № | Профэсіі, заняткі і г. п. жыхароў і наагул іх сродкі ўтрыманьня. | | | Склад іх сям'і. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Мужчын. | Кабет. | Мужчын. | Кабет. |
| 1 | Адміністрацыя, суд і паліцыя . . . | 28 | -- | 8 | 25 |
| 2 | Грамадзкая і станавая служба . . . | 1 | — | — | 2 |
| 3 | Прыватная юрыдычная праца . . . | 1 | — | 2 | — |
| 4 | Збройныя сілы . . . . . . | 122 | — | — | — |
| 5 | Навучальна-выхаваўчая праца . . . | 3 | — | 4 | 9 |
| 6 | Лекарская ды санітарная праца . . . | — | 1 | — | — |
| 7 | Служба ў дабрачынных установах . . . | 1 | 1 | 3 | 3 |
| 8 | Прыватная служба, падзённая праца і г. п. . | 72 | 22 | 54 | 129 |
| 9 | Даходы з капіталаў і нярухомасьці, грошы ад бацькоў ды сваякоў . . . . . | 18 | 15 | 21 | 48 |
| 10 | Сродкі ад дзяржаўнага скарбу, грамадзкіх устаноў і прыватных асоб . . . . | 7 | 3 | 2 | 5 |
| 11 | Земляробства (ральніцтва) . . . . | 59 | 10 | 104 | 160 |
| 12 | Жывёлагадоўля . . . . . | 2 | — | — | — |
| 13 | Праца ў руднях і капальнях . . . . | 3 | — | — | — |
| 14 | Апрацоўка валакністых матар'ялаў . . . | — | 4 | — | 1 |
| 15 | Апрацоўка жывёлавых продуктаў . . . | 2 | — | 1 | 3 |
| 16 | Апрацоўка дрэва . . . . . . | 1 | 1 | 2 | 6 |
| 17 | Апрацоўка мінэральных матар'ялаў (кераміка) . | 2 | — | — | 8 |
| 18 | Апрацоўка расьлінных і жывёлавых харчовых продуктаў . . . . . . . . | 1 | — | 1 | 4 |
| 19 | Выраб адзеньня . . . . . . | — | 2 | — | — |
| 20 | Будаўніцтва і рэмонт памяшканьняў . . | 3 | — | 8 | 7 |
| 21 | Праца на чыгунцы . . . . . | 16 | — | 9 | 16 |
| 22 | Возьніцкі (фурманскі) промысел . . . | 5 | — | 1 | 6 |
| 23 | Праца на пошце, тэлеграфе і тэлефоне . . | 5 | — | 12 | 10 |
| 24 | Гандаль наагул без дакладнейшага азначэньня . | 3 | — | — | — |
| 25 | Гандаль сельска-гаспадарчымі продуктамі (апроч збожжа) . . . . . . . | — | 1 | — | 2 |
| 26 | Гандаль прадметамі хатняга ўжытку . . | 5 | — | 6 | — |
| 27 | Гандаль у разнос і развоз . . . . | 5 | — | 2 | 1 |
| 28 | Асобы, у якіх заняткі ня вызначаны . . | 5 | 1 | 7 | 6 |
| 29 | Асобы, якія не далі вестак аб сваіх занятках , | 2 | 5 | 3 | 5 |

Апроч вайскоўцаў, якія ў большай сваёй частцы займаюцца ваеннаю профэсіяй толькі тымчасова, а складаюць найбольшую катэгорыю—122 чал., мы павінны зьвярнуць увагу на 72 мужчыны і 22 кабеты, што знаходзяцца на службе ў прыватных асоб. Далей ёсьць вялікая група, якая займаецца ральніцтвам—59 мужчын і 10 кабет. Ня мала таксама служылі ў розных урадовых установах. Мы прывыклі думаць, што сярод татар ёсьць шмат гарбароў і фурманоў (аб гэтым гаворыцца нават і ў некаторых старых крыніцах). У 1897 годзе апрацоўкаю продуктаў жывёлавага пахаджэньня займаліся толькі 2 мужчыны, пры якіх жылі 3 кабеты і 1 мужчына, а возьніцтвам (фурманствам) займаліся 5 мужчын (пры іх запісаны 1 мужчына і 6 кабет).

Такім парадкам, відавочна, што даўнейшы падзел татарскага насельніцтва паводле заняткаў значна ўжо зьмяніўся ў XIX сталецьці. Цікава, што з тых людзей, якія маюць занятак каля мячэці, ніхто не запісаны. Гэта тлумачыцца тэю акалічнасьцю, што ў нашых татар даходы ад гэтых заняткаў былі вельмі малыя—таму прыходзілася мець яшчэ і іншыя крыніцы для існаваньня; пад гэтымі рубрыкамі, мабыць, і запісваліся людзі, якія абслугоўвалі мячэць. Цікава яшчэ і тая абставіна, што карчмарства ды простытуцыя зусім не адзначаны сярод татарскага насельніцтва нашага гораду. У вастрозе ў 1897 годзе нікога з татар ня было.

Непрацоўныя даходы мелі 18 мужчын ды 15 кабет (пры 21 мужчыне і 48 кабетах у сем'ях. Татарскае насельніцтва гораду Менску, як мы бачылі, складалася ў канцы XIX сталецьця пераважна з людзей вытворчае працы і, часткова, з асоб, што займаюцца інтэлігентнымі профэсіямі, непрацоўнага элемэнту было мала.

У гэтым сэнсе і цяпер мы маем тое-ж самае становішча.

У культурных адносінах мы заўважаем наступную зьяву. Штогод павялічваецца процант асоб, пісьменных паэўропейску (г. зн. пабеларуску ды парасійску; некаторыя, асабліва пры польскай окупацыі, добра вывучыліся і папольску).

Затое значна зьменшыўся процант пісьменных паарабску. Запраўды, чым трэба тлумачыць тую акалічнасьць, што існавалі беларускія Ай-Кітабы ды нават кораны, пісаныя арабскімі літарамі? Чаму іх ня пісалі ані лацінкаю, ані кірыліцаю? Таму, што ў лацінцы бачылі нахіл у каталіцкі бок, а ў кірыліцы—у праваслаўны. Татары згубілі ўжо сваю татарскую мову. Але, пасылаючы дзяцей у хрысьціянскія школы, можна было атрымаць ужо зусім непажаданую нечаканасьць—дзеці прымалі хрысьціянства. Пасьля некалькіх падобных прыкладаў татары больш ужо не пасылалі дзяцей ў школы каталіцкія, праваслаўныя і г. п.; гэтак было даволі доўга.

Толькі ўжо ў XIX сталецьці—у самым яго канцы—большая колькасьць татар вучыцца ў сьвецкіх школах. Прыватныя арабскія школы „ходжаў“ яшчэ трымаюцца і ў гэтай эпосе. Але з плыньню часу „ходжы“ маюць ужо ўсё менш ды менш вучняў і вучаніц.

Увесь чыста быт татар (не гаворачы ўжо аб іх мове, правільнай, беларускай), падпадае пад значны ўплыў суседзяў. Сяброўскія адносіны паміж мужчынамі і кабетамі, адсутнасьць рэлігійнага фанатызму, вольныя думкі адносна наказаў мусульманскае веры і г. д.—былі ўжо намі адзначаны.

З чыста татарскага мастацтва засталося ня шмат рэчаў. Гавораць аб нейкіх шафах з разьбою, з усходнімі ўкрасамі, ды можна бачыць вялікія люлькі, даволі прыгожа зробленыя.

Песьні, прыказкі і г. п.—тыя-ж самыя, што і ў беларусаў.

Вельмі цікавым зьяўляецца пытаньне, ці ня было адваротнага ўплыву на беларусаў з боку татар.

Акад. Я. Т. Карскі некаторыя вельмі звычайныя беларускія словы выводзіць з татарскае мовы. Напрыклад: андарак, небажа́, баламут, барыш, бугай, бусел, вогер, гарбуз, гой-дацца, дуда, дурань, ёлуп, кабан, кайданы, каліта, канчук, капкан, каптан, капшук, каўпак, качан, курган, люлька, пасталы, рахманы (слова сэміцкае, якое перайшло ў татарскую мову з арабскае, хаця яно ёсьць і ў яўрэяў), тавар, торба, тутун, харч, чарга, шапка ды інш.

Беларускія татары гэтак хутка згубілі сваю мову ў выніку бязупынных зносін з беларусамі. Аднак, можна думаць, што гэтыя бязу-

пынныя зносіны паміж двума народамі павінны былі пакінуць нейкі сьлед ня толькі ў татарах, але і ў беларусах.

Трэба прыняць пад увагу і тую абставіну, што Рэч Паспалітая амаль што ўвесь час свайго існаваньня праводзіла ў барацьбе з татарамі; бывалі ў яе і саюзьнікі сярод татар. Такім парадкам наўрад ці можна ўжо татарскія словы ў нашай мове тлумачыць уплывам нашых татар. Тым больш перашкод ёсьць для таго, каб выявіць уплыў нашых менскіх татар на менскую беларускую гутарку. Калі і можна будзе знайсьці тут нешта пэўнае, дык праўдападобна, што ў колькасных адносінах гэта будзе вельмі нязначным.

Невялікая група менскага насельніцтва (меншая, чымся 1%)—татары—зьяўляюцца, аднак-жа, у пэўнай меры цікавым прадметам вывучэньня з этнографічнага погляду.

Антрополёгічна—гэта мяшаная раса: славяна-монголы; з боку мовы—нагэтулькі славянізаванае племя, што, чытаючы паарабску, татары вымаўляюць словы з беларускім акцэнтам (таксама, як яўрэіашкіназы, чытаючы гэбрэйскія словы, надаюць ім германскае вымаўленьне).

З боку быту мы ўжо паказалі моцны эўропейскі ўплыў на нашых татар.

Трэба вывучыць дакладна асаблівасьці гэтае нацыянальнае групы. Тады можна будзе адказаць на пытаньне аб яе магчымай будучыні.

Ці будзе яна нейкаю нацыянальнаю меншасьцю з паасобнымі сваімі запатрабаваньнямі і вымаганьнямі, як народ з выразнымі характэрнымі рысамі?

Ці мо' гэта будзе толькі адменаю адзінага беларускага племеньня; тады, поруч з беларусамі праваслаўнымі ды каталікамі, зьявілася-б трэцяя група—беларусы-мусульмане?

У кожным разе гэтае пытаньне цяпер разьвязаць канчаткова яшчэ зарана.

Патрэбны папярэднія досьледы. Узбудзіць цікавасьць да падобных дасьледзін—якраз і зьяўляецца мэтаю гэтага артыкулу.





Проф. П. Салаўёў.

# Значэньне і сэнс фэнолёгічных назіраньняў.

На II-м Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе задавалася, між іншым, пытаньне, якое мы ставім зараз і якое бязумоўна павінна быць асьветлена, каб не стварылася няправільнае ўяўленьне, што фэнолёгічныя назіраньні зьяўляюцца некаю панскаю выдумкаю, якая не сумяшчаецца з неабходнымі практычнымі задачамі будаваньня соцыялізму. Перш за ўсё цытую старонку з кніжкі „Начатки краеведной работы“ Н. Байсутава (1926), якая раздана ЦБК усім краязнаўчым організацыям. Тут мы чытаем:

„Имеют-ли какой нибудь практический смысл фенологические наблюдения? Да, имеют, можем сказать мы вполне утвердительно. И прежде всего это имеет большое значение для сельского хозяйства. В опытных наших сельско-хозяйственных учреждениях при постановке вопроса о правильности сроков посева того или иного вида злаков и др. сельско-хозяйственных растений ныне, вместо связывания надобных сроков с календарными датами, устанавливают эти сроки сообразно явлениям окружающей природы. Так, например, на опытном поле Тимирязевской сельско-хозяйственной академии *сроки посева овса испытывались применительно к срокам цветения дико растущих трав, при чем найлучший срок совпадал со сроком цветения одуванчика.* Этот же срок подтверждается многолетними наблюдениями одного из любителей. Так устанавливается органическая связь явлений, которая и окажется в дальнейшем руководящей“.

Другім цікавым прыкладам такога самага характару зьяўляецца фэнолёгічны бюлетэнь мінулага году Н. Смірнова, які адносіцца да назіральняў над жытам. Аўтар піша:

„Значительный практический интерес представляет из себя вопрос о времени, протекающем между началом цветения и началом жатвы озимой ржи, так как его разрешение дает возможность заранее учесть время, когда население того или другого района будет иметь хлеб нового урожая“.

Зводка назіраньняў паказала, што ў губэрнях Ленінградзкай і Пскоўскай, а таксама ў большай частцы УССР і ў губэрнях Арлоўскай, Варонеской, частцы Пензенскай і Тамбоўскай і ў некаторых іншых мясцох тэрмін паміж красаваньнем і першым жнівом быў меншы за 40 дзён; на рэшце прасторы эўропейскай часткі СССР гэты тэрмін быў большы за 40 дзён, прычым ён падаўжаецца ў кірунку паўночнага ўсходу, даходзячы месцам да 60 і больш дзён. Параўнаньне ат-

рыманых даных з данымі папярэдняга году паказвае, што гэты тэрмін цяпер наогул быў бадай усюды больш працяглы, як тады. Разам з тым выяўляецца, што на паўднёвым усходзе час высьпяваньня жыта наогул карацейшы, як у цэнтры на поўначы, прычым розьніца можа даходзіць да 30 і больш дзён.

Расійскае таварыства аматараў сьветазнаўства, рассылаючы свае першыя програмы, такім чынам асьвятляла закранутае намі пытаньне: „Смысл и значение фенологических наблюдений состоит в том, чтобы установить их закономерность и выяснить причины аномального хода этих явлений и тем получить возможность характеризовать данный биоклимат и иметь надежное средство предугадывать ход данного сезона в отношении темпа развития природы. *Поэтому то фенологические наблюдения, как и метеорологические, имеют большое практическое значение*. Д. Н. Кайгородов приводит ряд установленных им соотношений: прилет черных стрижей указывает на приближение теплого воздушного течения, массовый прилет кукушек говорит о прекращении весенних заморозков и наступлении прочного тепла, прилет белых трясогузок—скорое наступление вскрытия рек, прилет деревенской ласточки-касатки—наступление времени для яровых посевов. Один из наблюдателей (И. В. Костоловский, Рыбинск. у.) сообщает народный перифраз ласточки-касатки: улетели — молотили, прилетели—па-а-а-шут. Подобная же примета существует у крестьян Орловской г., утверждающих, что жаворонки смолкают при первом скрипе телег с сжатым хлебом. На этих примерах лучше всего видна взаимная связь, существующая между фенологическими явлениями и сельско-хозяйственными работами. Поэтому запись и проверка подобных народных примет также очень важна“.

Надзвычайна важнымі зьявамі зьяўляюцца пэрыодычныя вандраваньні птушак (прылёты і адлёты), якія, побач з іншымі сэзоннымі зьявамі ў пэрыодзе, могуць паслужыць матар‘ялам для верных прадказаньняў, што, вядома, надзвычайна важна для практычнага жыцьця.



# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

А. Немцаў.

## Замоскі сельсавет

*Асіпавіцкага раёну, Бабруйскай акругі.*

Замоскі сельсавет знаходзіцца ва ўсходняй частцы Асіпавіцкага раёну, займае прастору ў 14.791 дз. (16.161,5 гэкт.) і зьяўляецца па велічыні другім сельсаветам у раёне.

Паверхня яго роўная, трошкі прыпаднятая па краёх; сярэднюю ўпадзіну, па якой працякае Сіняўка („Блінка“, таксама „Млынка“), зай-




маюць Лучыцкія балоты; вышыня паверхні над узроўнем мора 60-70 сажн. (140—149 мэтр.).

Усяго балот па сельсавеце лічыцца 3.400 дз., што складае, прыблізна, чвэрць усяе паверхні сельсавету.

З іх буйнейшыя: 1) Лучыцкае балота плошчаю ў 270 дз.—месцамі парасло лазою, месцамі махавое балота; 2) балота пад Татаркаю плошчаю—у межах Замоскага сельсавету—420 дз.; яно працягваецца далей у Карыцянскім сельсавеце; 3) балота пад Дубавым прыбл. у 200 дз.; на гэтым балоце ў 1926 г. пачаліся працы па асушцы яго.

На паверхні сустракаюцца вялікія і малыя камяньні; наогул іх

больш ёсьць у заходняй частцы сельсавету (ля паляны Агулы, Ясенца, Гарожкі).

Прыблізна пасярэдзіне сельсавет перасякае маленькая рэчка Сіняўка (Блінка), якая ў 1914 годзе пракопана глыбей і такім чынам утварыўся абсушальны канал з галінамі ў бакі. Агульная даўжыня яго (да мяжы раёну)=17,7 кілм. і ў бакі ён дае невялічкія канавы, даўжыня якіх (усіх), прыбл., 14 клм.

Гэты канал на 20-м клм. ад пачатку р. Сіняй упадае ў апошнюю, прыблізна, на ўсходняй мяжы сельсавету.

Усходнюю частку сельсавету ў кірунку з SW на N0 перасякае рака Сіняя; у Замоскі сельсавет уваходзіць яе частка ад злучэньня Сініцы з Сіняй да ўпадзеньня Сіняўкі (Блін) у апошнюю пр. 6,35 клм.

Дно Сіняўкі пяшчанае; у р. Сіняй—глейкае. Глыбіня як канавы, так і р. Сіняй невялікая—1$^1/_2$-2 арш.; толькі пад чыгуначным мастом



Даліна р. Сіняй у Замоскім с/с.

ёсьць глыбокія—параўнальна—месцы ў 2-2$^1/_2$ саж.; вясною ў разьліў—глыбей. Замярзае Сіняя ў канцы лістапада, уздымаецца ў пачатку-сярэдзіне сакавіка. У вясну-ж разьліваецца і канава Сіняўка—залівае сенажаць (дзесяц. 200) (у 1927 г. 7 сакавіка лёд адышоў ад берагоў, а 12 ён ужо быў пад вадою).

На абшарах сельсавету сустракаюцца крыніцы з чыстай смачнай вадою; у большасьці яны прыпадаюць на сенажаці (Лучыцы, М. Гарожка), хаця ёсьць і ў лясох (Гарожа).

Глеба сельсавету—ападзоленая супесь, а ў паўднёва-зах. частцы—супяшчана-пяшчаная. Пяскоў налічваецца 2.000 дз. Яны нярухомыя, у некаторых месцах зарастаюць травой.

Лясы (узр. 20—40 г.) пакрываюць усходнюю частку сельсавету. Дзяржаўныя лясы належаць да Брыцалавіцкага лясьніцтва; лясоў мясцовага значэньня налічваецца 845 дз., з іх буйнага лесу—кавалкамі—542 дз.; хмызьняку ў сельсавеце 1.755.25 дз. Пароды дрэў, якія сустракаюцца ў лесе, наступныя: хвоя, алешына, дуб, ясен, клён, ліпа, арэшына, вербалозіна (у балоце), вярба (у сухім месцы), лаза, рабіна, каліна, чарэмшына, елка, крушына.

У лясох сустракаюцца грыбы: баравікі, красначы (подосиновик),

суравежкі, бабкі, махавікі, апенькі (на альховых і бярозавых пнёх), лісічкі, масьлякі, рыжкі, зялёнкі, таўстухі, панчохі, смаршчкі (вяселікі)—гэта ядобныя; з неядобных—мухамор і іншыя „воўчыя грыбы“.

З лекавых расьлін сустракаецца валяр‘яна, ад сухотаў карыстаюцца аднагадовымі хваёвымі парасткамі.

З фарбоўных расьлін—мучан.

У лясох здараюцца пажары, прычынаю якіх зьяўляецца неасьцярожнасьць з агнём.

З карысных выкапняў сустракаецца паўсюды гліна чырвоная і ў некаторых месцах яна выступае на самую паверхню; у нізкіх Лучыц-

кіх мясцох—шэрая (блакітна-зялёнаватая); сустракаецца крамень (па 15 фунт.).

Плошча сельсавету ў 1924 годзе (яна была тады менш—частка сучаснага сельсавету ўваходзіла ў склад Асіпавіцкага местачковага сельсавету: м. Асіпавічы, Хрaшчы, Гарохавае, Прудок) лічылася ў 7.072,25 дз. і разьмяркоўвалася такім чынам: ральлі—1.308 дз.; лясоў мясц. знач. 1.606,5 дз.; сенажаці 741,25 дз.; пяскоў—$1.602^{5}/_{8}$ дз., балот $1.455^{5}/_{8}$ дз., выгану, садоў і гародаў—215,25 дз.

Цяпер у сельсавеце лічыцца ўсяго 14.791 дз.;

Паводле ўсесаюзнага перапісу на 1 студзеня 1927 г., у Замоскім сельсавеце налічвалася 3.394 чал., з якіх мужч. 1.639 ч., жанчын 1.755 ч. (52%); усіх паселішчаў 33, з іх: вёсак—12; хутар.—6; засьц.—2.; чыгун. будынкаў па лініі—7; пасёлкаў—2; лясн. паселішч—2; станц.—1.; усяго гаспадарак—726.

У 1924 г. па сельсавеце (ён быў, як ужо было сказана, меншы) лічылася 2.669 чал., з якіх мужч. 1.236 ч. (46%) і жанчын 1.433 (54%); двароў тады было 485.

Насельніцтва разьмяркована па паселішчах такім чынам:

| № | НАЗВА ПАСЕЛІШЧА. | Род паселішча | Напрамак ад Асіпавіч. | Аддегласьць ад Асіпавіч. | Насельніцтва ў 1924 | Насельніцтва ў 1925 | Насельніцтва ў 1926 г. Лік гаспад | Мужч. | Жанч. | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Малая Гарожка . | в. | NO | 8 к. | 396 | 410 | 89 | 217 | 234 | 451 |
| 2 | Агула . . | „ | NOO | 6 „ | 64 | 54 | 10 | 23 | 29 | 52 |
| 3 | Брыцалав. лясн. . | л. п. | NO | $8^{1}/_{4}$ к. | | 21 | 4 | 6 | 5 | 11 |
| 4 | Лясная варта . | „ | NO | 11 „ | | | 2 | 4 | 8 | 12 |
| 5 | Ясянец . . | в. | NO | 7 „ | 70 | 64 | 11 | 34 | 25 | 59 |
| 6 | Паляна . . | з. | NO | 6 „ | 38 | 38 | 5 | 17 | 16 | 33 |
| 7 | Вял. Гарожа . | в. | NOO | 12 к. | 433 | 401 | 90 | 182 | 214 | 396 |
| 8 | Ліцьвінава . | „ | O | 5 „ | 89 | 80 | 18 | 44 | 38 | 82 |
| 9 | Замоша . . | „ | O | $4^{1}/_{2}$ к. | 497 | 489 | 33 | 67 | 62 | 129 |
| 10 | Булгары (пяшч.). | „ | O | $6^{1}/_{2}$ „ | 94 | 90 | 17 | 49 | 47 | 96 |
| 11 | Замоскія . . | х. | O | 6 „ | | | 70 | 153 | 165 | 318 |
| 12 | Красный Октябрь | п. | NOO | 9 „ | | | 7 | 20 | 16 | 36 |
| 13 | Лучыцкія . . | х. | O | 8 „ | 491 | 475 | 94 | 225 | 227 | 452 |
| 14 | Дубавое . . | в. | SO | 9 „ | 98 | 101 | 22 | 51 | 43 | 94 |
| 15 | Брадзішча . | „ | SOO | 8,5 „ | 93 | 83 | 20 | 42 | 47 | 89 |
| 16 | Засялечча . | „ | SOO | 10,5 „ | 175 | 175 | 42 | 82 | 99 | 181 |
| 17 | Казарма 285 в. . | чыг. | SOO | | | 5 | 2 | 3 | 4 | 7 |
| 18 | Будка 193 в. . | „ | SOO | | | | 1 | 1 | 4 | 5 |
| 19 | Поўказарма . | „ | SOO | | | 4 | 2 | 3 | 5 | 8 |
| 20 | Будка 191 в. . | „ | SOO | | | 3 | 1 | 3 | 3 | 6 |
| 21 | „ 190 в. . | „ | SOO | | | 5 | 1 | 3 | 5 | 8 |
| 22 | Татрака . . | ст. | SOO | 12,5 к. | 18 | 16 | 6 | 17 | 6 | 23 |
| 23 | Барысавы ляскі . | х. | SOO | 12,5 к. | 16 | 17 | 4 | 9 | 12 | 21 |
| 24 | Яжымасьць . | з. | SOO | 14 „ | 37 | 30 | 7 | 16 | 17 | 33 |
| 25 | Май . . | п. | NOO | $12{,}^{1}/_{2}$ „ | — | — | 1 | 2 | 3 | 5 |
| 26 | Гарохавае . | х. | SSW | 3 „ | 35 | 34 | 5 | 11 | 12 | 23 |
| 27 | Гамзуніха . | „ | SO | 5 „ | 23 | | 3 | 10 | 10 | 20 |
| 28 | Асіпавічы. . | в. | SO | 1 „ | 614 | 632 | 132 | 274 | 342 | 616 |
| 29 | Хвашчы . . | х. | S | 2 „ | 20 | 20 | 3 | 11 | 7 | 18 |
| 30 | Прудок . . | в. | SO | 3 „ | 123 | 114 | 25 | 53 | 50 | 103 |
| 31 | Будка № 188 . | чыг. | O | | | 5 | 1 | 1 | 2 | 3 |
| 32 | „ № 189 . | „ | O | | | 2 | 1 | 8 | 1 | 9 |
| | | | | | | | 726 | 1.639 | 1.755 | 3.394 |

Пераважная большасьць паселішч знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы с/с—бліжэй да ракі Сіняй; радзей заселена паўднёва-ўсходняя частка і яшчэ радзей—сярэдзіна і паўднёва-заходні кут. Найвялікшы лік двароў і насельніцтва маюць вёскі: Асіпавічы (132 дв.—616 чал.), Гарожа (90 дв.—396 ч.) і Мал. Гарожка (89 дв.—451 чал.). У апошні час назіраецца імкненьне да разьбіўкі на хутары, што ўжо зроблена ў многіх вёсках: Замоша мела 94 двары—цяпер 33; в. Асіпавічы—196 дв.—цяпер 132 і гд.

### Гаспадарка.

Усяго гаспадарак у сельсавеце за 1926 год налічвалася 681; з іх 17 не сялянскага тыпу. Сярэдняя забясьпечанасьць зямлёю—$2^1/_2$ дз. Дарэволюцыйнае аблічча ў адносінах падворна-цераспалоснага зямлякарыстаньня захавалася да сучаснага моманту.




Кэраннае зямляўпарадкаваньне яшчэ не праведзена ні ў адной вёсцы (за недахопам зямлябудаўнічых сіл). Да гэтага часу перадана сялянству з Брыцалавіцкага лясьніцтва 235 дз. (б. ч. пад лесам); царкоўнай зямлі 26,52 дз.

Нельга казаць, каб трохпалёўка захавалася ў чыстым выглядзе; правільней гэта будзе пярэстапольле, якое пануе наогул па ўсім раёне.

Саха ўжо ня ўжываецца; рабочая сіла—конь (калісьці тутака аралі і на валох). Лік с.-гаспадарчых прылад у сельсавеце такі (паводле даных с/с):

Плугоў—640 (3-е месца ў раёне).
Барон (жал. зуб.)—659.
Сох—4.
Малацілак—13.
Саламарэзак—12.
Арфы—12.
Сані—480.
Вазы на ж. ходзе—31.
„ на др. ходзе.—415.
Барон драўл.—25.

(Гэтыя лічбы трошкі ня сходзяцца з статыст. данымі РВК). Такім чынам на кожную гаспадарку ня прыходзіцца па 1 плугу; малацілак, саламарэзак і арф прыходзіцца па у сярэднім на 57 гаспадарак.

Замена існуючых цяпер с.-гаспадарчых прылад новымі не прыкмячаецца; тлумачыцца гэта вялікім коштам машын і беднасьцю гаспадарак. Некаторыя з гэтых прылад (арфы, малатарні) робяцца ў сельсавеце саматужнікамі (Замоша), прычым малатарня абыходзіцца ў 300 руб., арфа ў 50 руб. (за працу бярэцца: з малатарні 50 руб., з арфы 15 р.).



Разьмеркаваньне пасеваў.

Выпадкаў пераходу з трохпалёўкі на чатырохпольле быў толькі адзін (у Засялеччы); зроблен ён быў пад кіраўніцтвам агронома.

Галоўнымі культурнымі расьлінамі ў сельсавеце зьяўляюцца: жыта, авёс, бульба; менш сеюць ячмень, лён, проса, пшаніцу. Плошча пасеву

гэтых расьлін—паводле агрономічных даных—за 1926 г. разьмяркоўваецца гэткім чынам:

| РАСЬЛІНА. | Лік дзесяцін (пасеў). | % ад агульнай пл. засеву. | УВАГА. |
|---|---|---|---|
| Жыта (азім. і яр.) . | 640,2 | 33,9 % | Па Ярашэвічу—у Замоскай воласьці ў сяр. ад. агул. пл. =44,4 % |
| Авёс . . . | 325,7 | 17,5 % | |
| Бульба . . . | 226,5 | 12,2 % | Па Ястрэмскаму—у б. воласьці ў сярэднім ад агул. плошчы=8,5 % |
| Пшаніца (аз. і яр.) . | 122,2 | 6,5 | |
| Лён . . . | 95,5 | 5,1% [6,6 % з каноп.] | Па Ястрэмскаму для б. воласьці=2,9 % (з каноплямі). |
| Ячмень . . . | 88,0 | 4,7 % | Па Ястрэмскаму для б. воласьці=8,7 % |
| Канюшына . . | 73,0 | | |
| Гарох . . . | 62,0 | | |
| Грэчка . . . | 61,5 | 3,3 % | |
| Лубін . . . | 60,5 | | |
| Выка . . . | 49,5 | | |
| Каноплі . . . | 27,1 | 1,5 | |
| Проса . . . | 25,3 | | |
| | 1.857 дз. | | |

Калі прыняць даныя Ярашэвіча і Ястрэмскага па б. Замоскай воласьці ў сярэднім і для сучаснага сельсавету, дык мы бачым зьменшэньне ў 1926 годзе плошчы жыта на 9,5%; ячменю—на 4%; павялічэньне назіраецца ў тэхнічных расьлінах: бульбы на 3,5%, лёну і канапель на 3,5%. У апошнія часы ў Замоскі сельсавет пранік лён-даўгунец і пачынае ўсё больш пашырацца.

Ураджай бывае ў сярэднім невялікі:

жыта з дзес. . . = 30 п. (491 клг.)
авёс „ . . = 30 п. (491 клг.)
бульба „ . . = 500 п. (8.190 кг.)
грэчка „ . . = 15 п. (245,7 кг.)
ячмень „ . . = 30 п. (491 клг.)
проса „ . . = 30 п. (491 кгл.)
пшаніца „ . . = 22—30
лён [насеньне] . . = 15 п. (245,7 кг.)
„ [валанн.] . . = 20 п. (327,6 кг.)

Пасевы лубіну ў апошнія гады прынялі досыць шырокі разьмер; па плошчы ён прыблізна=плошчы грэчкі, гароху. Сэрадэля распаўсюджана зусім мала; у большасьці яна падсяваецца пад азімае жыта. Першыя пасевы лубіну зьявіліся ў часе імпэрыялістычнае вайны; насеньне яго было набыта з панскіх маёнткаў.

Пярэстапольле трэба тлумачыць вузкапалосіцай, мала-і дальнязямельлем. Правільных севазваротаў не назіраецца.

Гной вывозіцца, галоўным чынам, пад жыта, бульбу, ячмень і

пшаніцу; пад апошнія 3 расьліны гной вывозіцца перад іх сяўбою; ідзе яго на дзесяціну ў сярэдн. 1.500—2.000 пуд. (24—33 тоны).

Насеньне падрыхтоўваецца да сяўбы ачысткай на арфах; калі апошніх няма, дык на таку. Ёсьць запатрабаваньні да лепшай ачысткі насеньня, з прычыны чаго тыя зерняачышчальныя абозы, якія знаходзяцца пры агропункце, ня могуць задаволіць сялян. Сяўбы радавымі сявалкамі няма, бо няма гэткіх сявалак. Першая радавая сявалка ў раёне была набыта ў восень 1925 г. Асіпавіцкім с.-г. крэдытным т-вам; пасеў ёю дэмонстраваўся толькі ў аднэй гаспадарцы.

Задзелваюцца пасевы звычайна боранамі. Дагляд бывае толькі за бульбай, лёнам і пшаніцай; бульбу полюць і акучваюць.

Лён полюць 2 разы; вырываюць у канцы ліпня (пасьля жыта), сушаць дома на плоце, на кольлях, абіваюць пранікамі галоўкі і сьцелюць у полі, дзе ён ляжыць 7—9 тыдняў (на поплаве—7 т., на сухім месцы—9 т.). Некаторыя мочаць 3 тыдні, а пасьля ён ляжыць столькі-ж; прадуць калаўротамі.

Збор ураджаю праводзіцца ручным спосабам.

Малоцяць у гумнах на таку пры дапамозе малатарань з коннымі прыводамі, а ў выпадку іх адсутнасьці—цапамі (таксама—калі трэба мець салому „ў кулёх").

На рынку збываецца больш бульба, жыта—мала; свайго хлеба сельсавету не хапае. Калі ўзяць для вылічэньня за аснову вышэйданыя лічбы, тады маем гэткі збор зярнёвых расьлін: жыта 19.206 п. (30 п.×640,2=19.206 п.), аўсу 9.771 п. (30 п.×325,7=9.771 п.), грэчкі 922,5 п. (15 п.×61,5=922,5 п.), ячменю 26.40 п. (30 п.×88=26.40 п.), проса 759 п. (30 п.×25,3=750 п.) і пшаніцы 3.666 п. (30 п.×122,2), а ўсяго= =36.964,5 п.; такім чынам, на 1 чалавека ў гэтым сельсавеце прыходзіцца 36.964,5 п. : 31.74=11,7 пуд. зярна (199,55 кіл.).

Па хлеб езьдзяць у Слуцак; выручае таксама і Асіпавіцкае ЕПО.

Ад засух церпіць ярына; у 1926 годзе град пабіў 30 дзес. пасеваў; пасевы звычайна (ня ўсе) страхуюцца.

*Гародніцтва* мае характар натуральна-спажывецкі; гароднікаў-гаспадароў няма.

Агульны лік зямлі пад гародамі=59 дз. (даныя с.-с.); з гародніны першае месца займае капуста шэрая (і белая), потым ідуць буракі, моркаў, агуркі (яны ўдаюцца „як да году"). Памідоры разводзяцца слаба.

Сеюць табаку свайго насеньня, але-ж мала: 1-2 градкі; ураджаі слабыя.

На продаж гародніна ідзе рэдка і ў малым ліку.

*Садоўніцтва* таксама ня мае прамысловага характару; агульная плошча садоў=39 дз. (даныя с.-с.). Віды садовіны: антонаўка, салодкія („жытнікі"), шлапак, пепенка; для груш насеньне бяруць з Пухавіч.

За садовымі дрэвамі даглядаюць: бывае і абрэзка, і абкопка, і пабелка. Калі гаспадар сам ня ўмее глядзець за садовымі дрэвамі, ён у свой час прывозіць да сябе з Асіпавіч даглядальнікаў. 1926 год лічыўся ўраджайным на садовіну: з дрэва ў іншых мясцох здымалі да 20 пуд. Выкарыстоўваецца садовіна ў большасьці гаспадаром; рэдка калі яе частка ідзе на продаж.

Ёсьць спробы вырашчваць „валоцкі" гарэх. Гаспадар (Сымон

Міхайлаў Чаропка з Замоша) вельмі глядзіць за ім; ён расьце—але-ж плоду не дае.

Пасьля вайны, зьвярнуўшыся да хаты з палону, сяляне паляпшалі сваю гаспадарку (Засялечча, Замоша). У Замошы такі селянін Сьцяпан Рамнёў працаваў на гародзе „пагерманьску“; разводзіў больш агуркі.

*Пчалярствам* займаюцца дзе-ні-дзе выпадкова, і ніякага прамысловага значэньня яно ня мае. Пасек у сельсавеце няма; няма таксама рамовых вульлёў—звычайна ўжываюцца калоды.

### Жывёлагадоўля.

Усе пароды як буйнога, так і дробнага быдла—мясцовыя. Лік жывёлін значна паменшыўся ў час вайны, цяпер узрос амаль што да даваеннага ўзроўню.

Жывёлагадоўля задаваляе патрэбы толькі гаспадарак.

Лік жывёлы паводле даных сельсавету гэткі (за 1926 г.).

| | | |
|---|---|---|
| Коняй | = 688 | шт. |
| Кароў | = 1.476 | „ |
| Валоў | = 6 | „ |
| Сьвіней | = 897 | зарэгістравана, што складае па думцы с.-с. 40% усяго ліку сьвін. |
| Авец | = 2.085 | шт. |
| Курэй | = 1.920 | „ |
| Гусей | = 483 | „ |
| Коз—няма. | | |

Калі лічыць, што ў сельсавеце ёсьць 681 гаспадарка, дык у сярэднім на кожную гаспадарку прыходзіцца па 1 кані, 2 каровы, 3 аўцы. Лік зарэгістраваных сьвіней (897) складае, па думцы с.-с., 40% усяго ліку іх; такім чынам усяго сьвіней трэба лічыць каля 2.250 шт., што дае на 1 гаспадарку 3 сьвіньні.

Племяннога быдла вельмі мала, ёсьць у Засялеччы бык швіцкай пароды. Паводле даных статыстычных у Замоскім с.-с. ёсьць: бык голяндзк. пароды—1, карова голяндзк. пар.—1. Звычайна-ж парода свая, мясцовая.

*Буйнога раг. быдла* ўсяго налічваецца 1.477 гал.; % маладняку ў агульным ліку жывёлы—23,4 (з іх 16,3% да 1 году). Сярэдняя вага каровы мясцовай пароды—12 пуд. Карова дае ў год ад 40 да 60 вёд. малака. Звычайна дояць кароў у вёсцы 1 раз у дзень; на хутарох—3 разы. У большасьці каровы спыняюць дачу малака за 3-4 і нават 5 месяцаў да ацёлу.

Выпадкаў правільнага кармленьня рагатага быдла не назіраецца; бывае ледзь больш багатае кармленьне (павялічэньне сільных кармоў—нормы не захоўваецца).

Улетку жывёлы пасьвяцца па пашы; дома яны—за выключэньнем надта рэдкіх выпадкаў—не падкармліваюцца, толькі ў восень, калі убіраюць бульбу, даюць яе трошкі і карове.

Узімку жывёла корміцца 3 разы ў дзень: зранку даецца сена з яравой саломай; у поўдзень—параная мякіна або сьмецьце з бульбай і невялікім лікам мукі. Увечары тое самае, што і зранку. Даюцца ўволю таксама і памыі, якіх досыць зьбіраецца за дзень.

У хляве карова стаіць прыблізна поўгода—часам больш, часам менш, у залежнасьці ад пагоды.

Хлеў не адзначаецца сваім упарадкаваньнем. Звычайная будыніна, якая на зіму трошкі ўцяпляецца—робяць зьверху насьціл з дошчак або жэрдак, а на яго кладуць салому.

Спэцыяльных кармушак няма; сена даюць у скрыні, мякіну—у цэбры.

Цялё пад каровай бывае ў сярэднім 4 тыдні; потым яму даюць пойла—муку з вадой. У статкі гоняць праз 1 (на хутарох)—2 (на вёсцы) гады.

З хвароб тутака сустракаецца: інфэкцыйная хвароба вачэй, крывавая мача, тэлепоніт.

Рагатую жывёлу трымаюць дзеля малака і гною. Малако часткаю збываецца на рынку ў Асіпавічах, часткай ідзе сабе; скуру вырабляюць на боты. Ніякіх іншых апрацовак матар'ялу ад кароў не назіраецца.

Трэба заўважыць, што % маладняку да буйнай рагатай жывёлы—паводле агрономічных даных—у 1926 г. па ўсім Асіпавіцкім раёне=33,9 і па Ястрэмскім—у былой Замоскай воласьці ён=40,1%.

*Коняй* налічвалася ў 1926 г. па ўсім сельсавеце 688 шт. Гэта свае „гарбаценькія", пароду якіх, бадай, і не знайсьці. У дарэволюцыйны час коняй культурных парод ня было; цяпер сустракаецца помесь з ардэнамі „ардыны". Паводле статыстычных даных у сельсавеце ёсьць усяго 4 племянныя кабылы.

Ужо з 2-га месяца жарабёнку даецца пойла з аўсянаю мукою, а 5—6 м-цы яго забіраюць ад маткі і кормяць асобна.

З 3-х гадоў яго пачынаюць скарыстоўваць для працы; з чатырох гадоў ён ужо сталы конь. Служыць ён гадоў 16—20.

Каня трымаюць у хлеве разам з рагатай жывёлай—адгароджваюць ад яе толькі пераборкай з жэрдак, дашчок. У летні час днём коні падкармліваюцца на выпасах, ноччу—на пашы. Узімку каню даецца сена, запаранае мякінай і „балтушкай" (пойла з мукою).

З конскіх хвароб сустракаецца афрыканскі сап, мыт, гемоглебінэмія.

*Авец* паводле даных сельсавету налічваецца 2.085 шт.; лік іх павялічваецца. Найменшы лік авец у гаспадарцы—2, найвялікшы—6; іх разьводзяць дзеля атрыманьня шэрсьці і аўчыны. Адзначаюцца малою продукцыйнасьцю; культурных парод няма; % авец у параўнаньні з буйным рагатым быдлам—141,3. З раньняй вясны пастух гоніць іх у поле і канчае пасьвіць, калі выпадзе сьнег.

Узімку іх кормяць сенам, якога выходзіць прыблізна 20 пуд. у год.

Звычайна авечкі стаяць разам у хлеве з буйным рагатым быдлам—у кутку. Калі дзе ёсьць аўчарня асобная, дык яна будуецца без вакон і падлогі,—халодная.

Стрыгуць авец 2 разы ў год: у вясну і ў восень; вясной з авечкі бяруць ½ ф. шэрсьці, у восень—1 ф. Злучка найчасьцей бывае ў жніўні; ягнёнак звычайна бывае адзін, рэдка 2, продукты выкарыстоўваюцца: шэрсьць на вопратку, мяса і тлустасьць—у страву.

З хвароб пашырана матыліца—кашаль ад сырасьці на балоце; здараецца і апой.

*Сьвіней* у 1926 г. паводле даных сельсавету трэба лічыць 2.250 шт.; % сьвіней да буйнога рагатага быдла = 116 (паводле Ястрэмскага гэты % у былой Замоскай воласьці=115,9).

Парода мясцовая; характарызуецца нізкім ростам, плоскім тулавам, гарбатай сьпіной і зьвіслым задам; вагі ў сярэднім 3 пуды.

Зьмяшчаецца сьвіньня паасобку ад іншай жывёлы—маладыя і старыя сьвіньні разам. Століь у сьвіным хлеве ў большасьці адсутнічае; хлеў цёмны, не забаронены ад холаду. Пры пошасьці догляд за сьвіньнямі зусім дрэнны: здохла сьвіньня—купіў парася і зноў у той самы хлеў, не ачысьціўшы апошняга, а тамака і новае парасё здохла; бывае, што гіне ўвесь прыплод.

Улетку сьвіньні на пашы; апроч гэтага, ім даецца зялёны корм, у відзе сечкі з мукою; узімку—бульба з мукою.

Адкармліваць сьвіньню звычайна пачынаюць з жніўня да каляд (5-6 м-цаў); у гэты час ёй даецца вараная бульба з мукой; адкормленая сьвіньня важыць 7—9 і рэдка 12 пуд.

Прыводзіць сьвіньня ў сярэднім 6-8 парасят. На продаж сала амаль што ня ідзе. Сялянства—маючы на ўвазе гной—лічыць, што сьвіньня ўсё-ж такі дае ў гаспадарцы прыбытак.

З хвароб сустракаецца чума, сэпсыцэлія.

*Куры* (1920) і *гусі* (483) (даныя с.-с.) зьяўляюцца дапамогай у гаспадарцы; продукты птаства—яйкі і жывая птаха—збываецца на рынку ў Асіпавічах.

На адкорм гусям даюць авёс, бульбу, гарох. Палепшаных парод не сустракаецца.

*Сенажаць,* агульны лік якой 1.014,8 дз., ёсьць балотная і сухадольная; знаходзіцца ў сярэднім у 3-4 (да 7) вярстах ад жыльля. У апошнія гады пачынае ўжывацца травасеяньне. На лугох зразаюць куп‘ё, карані. З кармовых траў сеюць выку, сэрадэлю [малая]. У сярэднім дзесяціна дае 60-70 пуд. [Гарожа—300 п.]; добрую атаву іншыя скошваюць, а іншыя зусім яе не гадуюць.

Свайго сена сельсавету не хапае; але-ж ёсьць асобныя гаспадары [Лучыцы], якія прадаюць.

### Заняткі. Прамысловасьць.

На падставе таго, што глеба бедная, неўрадлівая, сяляне прымушаны займацца дадатковымі заняткамі апроч земляробства.

З прычыны адсутнасьці глыбокай ракі—рыбацтва няма; праўда, ёсьць рыбаловы, якія ходзяць лавіць рыбу ў раку Сьвіслач, але-ж гэтая лоўля ня носіць прамысловага характару. Раней у Сіняй і Сьвіслачы было больш рыбы, былі бабры, якія давалі прыбытак частцы насельніцтва; цяпер гэты промысел зьнік, бо зьніклі бабры гадоў 25 таму назад.

Па рацэ Сіняй даўней сплаўлялі плыты, яна злучаецца з р. Птыччу праз Радуціцкі канал; цяперака гэты канал, як і сама Сіняя, так абмялелі, што ў іншых месцах не праедзеш і на чоўне. Ловяць у Сьвіслачы, а іншы раз і ў Сіняй акунёў, шчупакоў, платву; ловяць тапчанамі, сеткай.

Паляўнічых прамыслоўцаў няма. Наогул з зьмяншэньнем лясоў зьнік і зьвер. Ходзяць на паляваньне цяпер толькі на зайцоў, лісоў. Сярэдні гадавы прыбытак паляўнічага—15-20 зайцаў, пара лісаў, некалькі вавёрак. Скура зайца каштуе 60—70 к., вавёркі тое самае. Норак, лісоў сустракаецца многа. Скуркі прадаюць перакупшчыкам-яўрэям. Апроч пералічаных жывёл, сустракаюцца выпадкова куніца, гарнастай, дзікія козы; ваўкоў многа; з птах—цецярукі (ур. Ліпнікі).

Саматужная прамысловасьць нlanguageразьвіта; рэчы рэдка дзе выраб-ляюць па заказу (Замоша — малатарні); у большасьці—90%—на свае патрэбы. Робяць: колы, драбіны, сані, сядзёлкі, бочкі, калоды для пчол, жлукты, бёрды (перасыпаюць у Ліцьвінаве), грабёнкі, скрыні, лаўкі,




сталы, зэдлікі, тапчаны; з асіны—гонты, кошыкі, пляцёнкі; з саломы—капялюшы, маты, з гліны—цэглу-сырэц, чарапіцу, судзьдзё; з жалеза—лемяшы, падковы.

Паводле даных сельсавету, лічыцца саматужнікаў:

1) Шаўцоў—8:

Гарожа—2; Замоша—1; Ліцьвінава—1; Асіпавічы—1; Прудок—1; м. Гарожка—1; Лучыцы—1.

2) Краўцоў—7:

м. Гарожка—1; Булгары (Пяшчанка)—1; Лучыцы—2; Засялечча—2; Асіпавічы—1.

3) Кавалёў—7:

Асіпавічы—2; Замоша—1; м. Гарожка—1; Прудок—1; Лучыцы—1; Засялечча—1.

4) Сталяроў—6:

Засялечча—2; Замоша—1; Ліцьвінава—1; Лучыцы—1; Асіпавічы—1.

Паводле статыстычных даных, апроч пералічаных, ёсьць яшчэ: 2 бондары; 1—кажэўнік; 2—аўчыньнікі; 1—абаднік.

Зусім выпадковымі заработкамі зьяўляюцца: перавозка лёду для леднікаў, праца ў жалезкоме, у арцелях, на новай чыгунцы.

Прамысловых прадпрыемстваў ёсьць некалькі. Вёска Замоша—лесапільня і млын, на якіх працуюць 19 рабочых. Ён адчынены ў 1920 годзе, належыць і эксплёатуецца Лучыцкаю арцельлю ўзаемадапамогі. Завод гэты стаіць пры Сіняўцы, паміж Ліцьвінавым і Замошам. Ён мае паравы рухавік у 20 кон. сіл, з цыркуляркі, 1 пастаў; ёсьць крупарушка і сукнавалка.

Памяшканьне завод мае дрэннае; машына вельмі часта рамантуецца. Гадавая вытворчасьць лесапілкі--764 куб. мэтр., млыну і крупадрушкі—1.558 тон (паводле даных РВК). Праца ідзе ў 2 зьмены;

зарплата—ад 25 да 100 руб. у м-ц. Рабочыя—мясцовыя. У царкву з рабочых ніхто ня ходзіць; але-ж рэдка наведваюцца і ў клюб—толькі ў час спэктакляў.

*В. „Малая Гарожка“* („Наўгарожка“)—лесапільня. Адчынена ў 1926 годзе Лучыцкаю арцельлю ўзаемадапамогі.

Мае 10 рабочых, 2 цыркуляркі, рухавік у 9 кон. сіл памяшкаецца ў канцы в. Гарожка пры ўваходзе ў лес. Гадавая вытворчасьць—1.019 кб. м.

В. „Гарожа“ — смалярня, адчыненая ў 1926 г. гр. Айзіковічам. Знаходзіцца зараз-жа за в. Гарожа.

Гарожа на беразе лесу ў прыгожай мясцовасьці. Мае 3 рабочых; тут-жа робяць і бочкі на смалу; рабочыя жывуць пры смалярні.

Гадавая вытворчасьць—40 печаў: вугалю 1.500 п., шпігінару—400 п., смалы 1.000 пуд.

На здымку з правага боку „самавар“ для варкі смалы, якая тут-жа наліваецца ў бочкі.

Ля смалярні ў канаве ёсьць крыніца з вялікай колькасьцю вады, якою карыстаецца смалярня (нават узімку).

*В. Замоша*—цэмэнтна-бэтонны завод. Гэта, уласна кажучы, ня ёсьць завод—працуюць у звычайнай хаце ўлетку. Належыць арцелі ўзаемадапамогі па вырабе цэмэнтна-бэтонных матар‘ялаў. Гадавая вытворчасьць: кругоў—1.200 шт., чарапіцы—22.000 шт., комінаў і каньков—400 шт.

## Дарогі.

Увесь сельсавет з SO часткі на NW перасякае Заходняя чыгунка (б. Лібава-Роменская), пабудаваная ў 1872 годзе. У межах с.-с. знаходзіцца толькі адна (цяпер зачыненая) станцыя Татарка, якая атрымала сваю назву ад в. Татаркавічы, што ляжыць ад станцыі на NO—у межах Сьвіслацкага раёну; раней з гэтай станцыі грузілі лес.

У 8-мі вярстах ад ст. Татарка ў кірунку на Асіпавічы ляжыць разьезд (цяпер таксама замежны), з якого грузілі лес; апошні падвозілі ў раз‘езд па вузкакалейцы („конка“), якая захавалася да гэтага часу.

Адносіны насельніцтва да будоўлі чыгункі былі ня зусім добрыя; галоўнае, чым яны былі нездаволены,—гэта пастаяннымі штрафамі за быдла, якое трапляла на палатно чыгункі.

З мінулага 1916 г. пачалося будаваньне новай чыгункі Асіпавічы-Магілеў-Рослаў; гэта чыгунка праходзіць таксама праз Замоскі с.-с. і дае заробак мясцоваму і прышламу насельніцтву.

З усіх сялян, працуючых на новай чыгунцы, 75% падае на мясцовае; больш за ўсё працуюць сяляне Гарожы, Гарожкі і Замоша. У сярэднім прыходзіцца па 30—35 рублёў у м-ц заработку. З набліжэньнем вясеньняга часу прыкмячаецца спад сялян ад чыгункі ў сувязі з працай на полі.

Агульная даўжыня грунтавых дарог у Замоскім с.-с.—110 клм. Становішча іх нельга назваць здавальняючым; шмат іх праходзіць праз балацістыя мясцовасьці і мае гаці (грэблю); найвялікшая грэбля перад в. Брадзішча—3/4 клм.

З дрэнных дарог трэба адзначыць дарогу з Лучыц у Татарку па паўночнаму боку чыгункі,—праз балацісты лес; таксама—Засялецкая грэбля; дарога ўздоўж палатна чыгункі з Замоша ў Асіпавічы; дарога ля Гарохавага балота.

У вясну дарогі гразкія; улетку падсыхаюць—становіцца суха.

На ўсходняй мяжы с.-с. праходзіць шлях Холуй-Татаркавічы праз Брыцалавічы.

У абыходзе сані, абшыванкі (сані, у якіх берагі абіты дошкамі, лубам), калёсы. З самаходам насельніцтва знаёма з 1914 году; першы самалёт убачылі ў восень 1916 году—вельмі дзівіліся на „дзіковіну“—тутака старыя ўспаміналі, што калісьці казалі, што „будуць людзі лятаць у паветры і гаварыць за 100 вёрст“.

## Насельніцтва.

Насяляюць Замоскі с.-с. беларусы. Паводле перапісу на 1-ае студзеня 1927 г. у с.-с. было насельніцтва 3.394 чал., з якіх 1.639 мужчын (48,3%) і 1.785 жанч. (51,7%). У 1924 г. налічвалася ў с.-с. 2.669 чал.—1.236 м. і 1.433 жан.; у 1925 г.—2.767 чал.

Ва ўсім с.-с. ёсьць адна сям'я яўрэяў і 31 сям. палякаў. (Агула і Ясянец).

Тыпы паселішч—вёскі і хутары.

Хаты звычайна ў адзін пакой з сенцамі, з 3-ма—4-ма вокнамі. Печ звычайна справа ці зьлева каля дзьвярэй. Асьвятленьне газавае; лучнікоў ужо няма—ад іх засталіся ў іншых месцах сьляды—дзіркі ў столі.

Сьцены голыя, ледзь у чырвоным куце ў некаторых абклеены шпалерамі. У іншых сьцены аздоблены фотографіямі альбо выразамі з часопісаў.

Вокны маленькія; у сярэднім сьвятла плошча—ў хаце—1/12.

Сярэдняя вышыня вакна—1 мэтр.; шырыня—0,7 м.; плошча аднаго вакна—1×0,7—0,7 к. м. плошча ўсіх вакон—0,7 кв. м.×4—2,8 кв. м.; сьвятла плошча=2,8 : 34,1— акругі—1/12.

Хаты будуюцца ў сярэд. 6,2 м.×5,5 м.×2,7 м-эт. Пры абсьледаваньні ўзята 9 плянаў хат; такім чынам, плошчу трэба лічыць у 34,1 кв. мэтр, што дае на аднаго чалавека (сярэдні лік сям'і—5 чал.) 6,8 квад. мэтр.; аб'ем=92,0 кб. мэтр., што дае на 1 чалавека 18,4 куб. мэтраў.

З агульнай плошчы хаты трэба адняць плошчу якую займае печ, даўжыня якой у сяр.—1,5 м., шыр. ў сяр.—1,2 м., а плошча яе—1,8 кв. м.; такім чынам, ня лічачы мэблі, карысная плошча ў хаце=34,1 кв. м.—1,8 кв. м.—32,3 кв. м.




Але-ж ужо пачынаюць мяняцца трошкі будыніны; вось, напрыклад, плян хаты і сядзібы селяніна з в. Замоша. А. Чаропкі: хата пабудавана ў 1923 годзе на „гарадзкі манер“.

Саламяныя стрэхі сустракаюцца на гумнах (усе) і рэдка на жылых хатах.

Студні будуюцца і ў двары і па вуліцы: глыбіня іх у сярэднім 3 саж.; таўшчыня слою вады—1 с., найвялікшая ў вясну—2 с.; найменшая бывае ўлетку і зімою; бывае што вада ў студнях высыхае.

Студняў у сярэднім прыходзіцца адна на 4 двары (прыклад: Булгары 17 дв.—9 ст.; Лучыцы 7 дв.—4 ст.; м. Гарожка 89 дв.—27 ст.;

Гарожа 90 дв.—10 ст.; х. Май 8 дв.—3 ст.; на 211 дв. прыходзіцца 53 ст.).

У невялікім ліку ў с.-с. ёсьць лазьні. Гэта маленькая хатка без вакон—замест вакна—дзірка, якая зімой затыкаецца анучай; у куце ляжаць каменьні; якія накальваюць, а потым кідаюць у цэбар з вадою, чаму і награецца вада. Мыюцца на падлозе на саломе і разьдзяюцца тут-жа—узімку, а ўлетку—на дварэ ля лазьні.

Мала дзе ёсьць лазьні, плян якой дан на гэтым малюнку.

Гэтая лазьня складаецца ўжо з 2-х частак: сенцаў і лазьні. Мыюцца ў ёй на калодзе; ля сьценкі нават ёсьць і паліца, каб папарыцца. (Да слова: дзірка ў сьценцы 3 вяр.×5 вяршк).

Плян сядзібы і хаты с. А. Чаропкі (хата пабудавана ў 1923 г.)




Плян сядзібы сял. в. Замоша Ян. М. Чаропкі.



Плян хаты з х. „Май".






Плян хаты і сядзібы ся. вёскі Гарожа - Патапейкі

Калі ўзяць тыя-ж вёскі, што паказаны трошкі вышэй, то яны маюць наступны лік лазьняў: Булгары—2 лазьні; Лучыцы—1; Майі;— м. Гарожка—6 л.; в. Гарожа—4 лазьні; такім чынам, на тыя-ж 211 двароў маем 13 лазьняў, што складае на адну лазьню 16 двароў. Зразумела, што ня прыходзіцца казаць аб адсутнасьці ў лазьнях сьвету, закураных сьценах, брудзе і г. д. Ня дзіва, што лазьня ў большасьці дапамагае распаўсюджаньню наскурных хвароб.

З надворнага боку свае будынкі насельніцтва аздабляе рознымі ўзорамі - на ваканіцах, брамах. Рэдка сустракаецца хата, у якой ня было-б якіх-небудзь малюнкаў над вокнамі. Для прыкладу успомнім некалькі малюнкаў, замалёваных вучнямі, членамі краязнаўчага гуртку Маронам і Доўнарам.

Даход гадавы гаспадаркі (бяз жывёлы) складаецца такім чынам (з 5-ці замоскіх гаспад.—сярэдняе):

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| жыта | — 84 п. | [1376 к.] | лёну | —4 п. | [65 к.] | грэчкі | —10 п. [163,8 к.] |
| аўсу | — 95 п. | [1556 к.] | капусты | —6 п. | [98 к.] | агуркоў | — 5 п. (82 кіл.] |
| пшаніцы | — 16 п. | [ 262 к.] | буракоў | —4 п. | [65 к.] | | |
| ячменю | — 20 п. | [ 327 к.] | бручкі | —3 п. | [49 к.] | | |
| бульбы | —200 п. | [3276 к.] | рэдзькі | —2 п. | [32,7 кіл]. | | |

Харчаваньне ў тыдзень на аднаго чалавека:

[сярэдняе—з 6 сямей на 30 чал. у тыдзень]

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| гарбаты | =1²/₅ зал. | [6 гр.] | малака | =3 кв. |
| цукру | =¹/₅ фун. | [82 гр.] | масла кар. | =¹/₅ф. [82 гр.] |
| сала | =0,9 хунт. | [369 гр.] | яек | =1 яйка |
| мяса сьвін. | =1,1 „ | [451 гр.] | круп | =1 ф. [0,4 кіл.] |
| гародніны | =3,5 „ | [1,84 к.] | масла посн. | — |
| бульбы | =14,6 „ | [5,98 к.] | хлеба белага | — |
| хлеба чорнага | =7 „ | [2,87 к.]. | | |

Увага. Гарбату п'юць у сярэднім 5 раз у тыдзень; замяняюць яе ліпавым цьветам; улетку ня п'юць.

Яда звычайна аднолькавая як у бедных, гэтак і ў заможных—у апошніх больш дадаткаў прысмак; у сьвяты яда трошкі лепшая—больш ядуць сала і мяса.



Плян лазьні

Ядуць:

*Боршч* кіслы: капуста, буракі з затаўкаю, сьвінінаю, баранінаю.

*Крупнікі:* пярловы, ячменны з мясам, крышаны—бульба з капустаю, морквою з затаўкаю ці з мясам; крупнікі розныя з малаком.

*Кашы:* картапляная, грэцкая, прасяная, аўсяная, ячменная, дранка бульбяная з салам ці малаком. У посны час—баршчы, крупнікі з грыбамі, з рыбаю, каша з алеем, смажаным з цыбуляю; а салодкія з макам, мёдам, малаком—макавым, канапляным, талакно, кісель аўсяны, іншы раз журавінны з сытою [мёд з вадою] альбо малаком.

*Блінцы:* аржаныя, грэцкія, ячныя і „паркалёвыя" з „марымоньскай" [пшанічнай] мукі.

*Каўбасы:* яешня звычайная і з мукою—„грыбок".

*Аладкі:* з рознай мукі і паліўкай.

*Галушкі:* мучныя з паліўкаю.

*Узвар:* салодкі [кампот].

*Мяса:* усякае тушанае.

Аздобныя пшанічныя *пірагы* пякуць толькі к вялікадню. *Сухарыкі* і *пернічкі* таксама рэдка.

*Грыбы:* большай часткай сушаць; соляць толькі рыжкі.


Згары вакна в. Агула
Згары вакон в. В. Гарожа
Згары вакна в. В. Гарожа

*Капусту:* шаткуюць, пераціраюць сольлю, кменам, яблыкамі, журавінамі, морквою. Горшую кладуць галоўкамі, лісьце шэрае сякуць, соляць, апарваюць узварам [гарачая вада і соль] і квасяць.



Згары вакна в Мал. Гарожка



Згары вакна в Мал. Гарожка



Згары вакна в Ясянец



в Асіпавічы

## Брамы



в Ясянец.



в Вял Гарожа



в. Вял Гарожа



Збоку крышы. страхі



в. Мал Гарожка

*Гуркі:* прыпраўляюць укропам, вішнёвым лістам, аграставым лістам і соляць.

*Сала:* звычайна соляць; шынкі, каркавіны, лапаткі, галавізну і каўбасы копцяць на вяндліну.

*Ягады:* чарніцы, суніцы, маліны сушаць толькі на лекі, бо мала іх зьбіраюць. Журавіны мочаць к вясьне. *Квас* робяць хлебны.

*Сок* бярозавы п'юць: ставяць увесну кадушкі і зьбіраюць яго.

Пасудзіна купленая (амаль уся): шклянкі, імбрычкі, сподачкі, лыжачкі; талеркі, міскі, падміскі, нажы, відэльцы, лыжкі драўляныя (свайго вырабу).

Адзежа сялян.—*Мужчын:* звычайная парцяная сарочка сіняга альбо чорнага калеру, белая; падвязваюць поясам; штаны парцяныя і лапці з пяньковымі аборамі, у лапцях—суконкі. У сьвяты: чорныя штаны, крамная сарочка, лапці (часьцей боты).

*Жанчыны:* у будні дзень—зрэбны андарак, крамны кафтан і лапці з белымі анучамі і чорнымі аборамі, на галаве—паркалёвая хуста. У сьвяты: крамная спадніца, блузка і боты.

*Дзеці* носяць крамную хусту, спадніцу і кафтан. У халодны час—кажухі і саматканыя сьвіты. Жалобнай адзежы сяляне ня носяць.

Выхаваньне дзяцей наогул дрэннае, праўда, у заможных за дзяцьмі больш догляду. Вопратка ў дзяцей узімку слабая; летам да глыбокай восені босыя, а зімой часта бачыш, як карапуз 6-7 гадоў скача з аднэй хаты ў другую босы. Хварэюць часта; хваробы да году—малочніца, зубніца, вогнік; старэйшы ўзрост—адзёр, воспа, дыфтэрыт; вельмі рэдка—каўтун. Пакуль ня пойдзе ў пастухі, дзіця праводзіць узімку час у хаце, а ўлетку—з аднагодкамі ў полі; догляду тамака ніякага—здараюцца няшчасныя выпадкі. З шасьці гадоў хлапец становіцца пастушком і спацырує па палёх у зрэбных штанох, старой сьвітцы, шапцы, з торбачкай. Свой час яны праводзяць, як ім падабаецца, забаўляюцца ў розныя гульні: у коні, цурбалку, у клясы, у нырца, ваякі. Некаторыя гульні (у стрэльбу) часткова маюць уплыў вайны. Дзяўчаты ладзяць карагод, гуляюць у ката і мышку.

Падлетак ужо дапамагае ў працы дарослым: пасе быдла, коні; сушыць, грабе сена і ў восень карчуе сенажаць, здымае садовіну, дапамагае пры малацьбе; увесну—скародзіць, барануе, падчышчае сад, сее бульбу.

Дзяўчаты паліваюць, полюць гарод, гатуюць сьвіньням зельле, даглядаюць за малымі дзяцьмі, зьбіраюць гародніну, капаюць бульбу, трэплюць лён, прадуць, вучацца ткаць.

У школу ходзяць ня ўсе дзеці школьнага ўзросту; прычыны: сямейныя ўмовы і нядбайнасьць бацькоў.

Узімку селянін працуе ў хаце па гаспадарцы, возіць дровы; улетку ў яго шмат працы, бо палявая праца не чакае. Працоўны каляндар селяніна гл. на стар. № 36.

Цяпер яшчэ насельніцтва рэлігійнае; ня было яшчэ ў с.-с. ніводнага вясельля ці хаўтур без папа: пасьля рэгістрацыі—адразу ў царкву, дзе і плацяць папу за вясельле ў сярэднім 3 рублі. Праўда, у рэлігійныя сьвяты ў царкве толькі старыя—моладзь ужо ад гэтага адышла; тутака значную ролю адыгралі хаты-чытальні. Сэктанцтва няма.

Дзе-ні-дзе захаваліся яшчэ старыя звычаі: калі прадаюць каня—былы гаспадар адразае волас з хваста, калі прывозіць гаспадар парасё, уносіць яго праз вакно—і пад печку (каб вялося); каб не ўцякло

| М-цы | ПРАЦА МУЖЧЫН | Тэрмін | ПРАЦА ЖАНЧЫН | Тэрмін |
|---|---|---|---|---|
| Студзень | Езьдзяць у заработкі, перавозяць сена з сенажаці | Увесь м-ц | Прадуць; даглядаюць за гаспадаркаю | Увесь м-ц |
| Люты | На заработках; возяць дровы; даглядаюць за гаспадаркай | " | Тое самае | " |
| Сакавік | Майструюць калёсы, бароны, падрыхтоўваюць дровы на лета | " | Снуюць кросны, ткуць, высяваюць расаду | 15/III—10/IV 25/III—1/IV |
| Красавік |Аруць пад яравое, сеюць: гарох, жыта вясен., ячмень, пшаніцу | 25/IV - 20/V 10/IV—15/V | Сеюць бульбу, рыхтуюць грады на буракі, разьбіваюць гной | 5/IV—17/IV 20/IV—10/V |
| Травень | Сеюць: авёс, ячмень, грэчку | 1/V—15/V 15/V—1/VI | Робяць градкі для капусты | 10/V—30/V |
| Чэрвень | Перапынак у працы, аруць папар на жыта | 1/VI—15/VI Цэлы м-ц | Полюць грады, працуюць ля дому | Цэлы м-ц |
| Ліпень | Сенакос; праца на полі | 1/VII—15/VIII Увесь час | Жнуць жыта, раньні ячмень, жнуць грэчку | 20/VII 10/VIII |
| Жнівень | Канчаюць сенакос, сеюць жыта | 15/VIII 25/VIII | Жнуць авёс, бяруць лён, проса і інш. | 1/VIII 21/VIII |
| Верасень | Аруць на зіму | Увесь час | Капаюць бульбу, прыбіраюць гарод | 1/VIII—1/IX 20/IX—1/X |
| Кастрычнік | Малацьба; аруць папар на зіму | " | Падбіраюць лён, труць | Цэлы м-ц |
| Лістапад | Падрыхтоўка да зімы: абкопваюць хаты, капаюць ямы для бульбы | " | Трэплюць лён, абдзіраюць, труць | " |
| Сьнежань | На заработкі; праца ў хаце | " | Прадуць; праца па гаспадарцы | " |

быдла з двара—адразаюць частку валасоў з хваста і хаваюць за дзьверы; панядзелак і пятніцу лічаць няшчаснымі днямі.

У каляды перад новым годам дзеўкі набіраюць дровы, абымаюць на вуліцы калы. Калі „цот"—выйдзе замуж у гэтым годзе, а калі „лішка"—не.

На новагоднюю куцьцю з-пад абруса на стале ў час вячэры цягаюць сена, гадаюць—ці будзе на лета доўгі лён. Даюць сабакам аладкі, „каб выбрахалі жаніха“.

На апошнюю „крашчэнскую“ куцьцю кошыкам выносяць сьмецьце з хаты ў куток з надворку, ломяць венік, пруцікамі абгараджваюць кучу, садзяцца на кошык і слухаюць, у якім баку брэшуць сабакі—у той і замуж пойдуць.

На веснавога Юр‘я (23 красавіка) бабы з мужчынамі на расу ходзяць—гарэлку п‘юць. К таму часу, калі варона ў жыце хаваецца,—ураджайны год будзе.

На другі дзень вялікадню „валачобнікі“ ходзяць па сяле, пяюць „валачобныя“—зьбіраюць яйкі.

З песень пяюць:

**Калядная.**

Бегла сьвінка па лядку,
Пагубляла калядку.
А ты, Зосечка, ня гуляй,
Да ідзі калядку пазьбірай,
На прыпечку пасушы,
У запеччу паясі
Ды нікому не дасі

*(Запіс. Рушкевіч).*

**Вялікодная.**

Была ў бабкі курка-рабушка
Ды нанесла яец повен карабец.
Падзяліла бабка ўсім па яечку,
Аднэй сіраце дай ня выйшлася.
Прып. Віно-ж наша да зялёнае!
Да пайшла сірата за новыя варата.
„Вярніся, сірата, цябе бог кліча!
Шчасьце, долю дае—купца маладога,
Каня варанога“.

*(Запіс. Рушкевіч).*

**Валачобная.**

Валачобныя людзі добрыя,
Ішлі-ж яны да дарогаю да шырокаю,
Іграючы, сьпяваючы, госпада бога вялічаючы:
„Хрыстос васкрос на ўвесь сьвет!“
Госпадзі божа, пакажы дарогу
К слаўнамі сялу, к добраму мужу
Замоскаму пану Сяргею.
„А ці дома, дома слаўны муж,
Хоць ён ды ня кажацца.
Хрыстос, воскрос, сын божы (прыпеў).
У харошыя боты прыбіраецца,
Кубкі купляць і віно гатаваць.
Накупляў кубкаў крышталёвенькіх,
Усе тры поўненькіх (прыпеў).
Пачынатнічку па дзесятнічку,
А музычаньку—кварту гарэлкі
І пірог пшонны ды на закуску (прыпеў).
Кварта гарэлкі—то ля голасу,
А пірог пшонны—то ля коласу,
Сыр беленькі—то на закуску (прыпеў).
Слаўны муж! Калі любіш гасьцей—
Заві ў хату часьцей,
А калі ня любіш—адпраўляй барджэй (прыпеў).
Мы табе госьці недакучныя—
Раз у гадочку і то ў адну ночку,
Раз бываеш, ды не дакучаеш (прыпеў).
„Хрыстос васкрос на ўвесь сьвет!“

*(Запіс. Рушкевіч).*

Летам на Купалу хлопцы коцяць колы, доўбню, каб дзеўкі замуж ня ішлі ў чужое сяло. Дзяўчаты ўюць вянкі, пускаюць на ваду—чый паплыве, тая замуж выйдзе; чый патоне—тая ўтопіцца. Бабы замаўляюць ведзьму, якая прысочвае малако. Зьбіраюць траву „купаўку“, назіраюць—ці расьцьвіце.

Пяюць песьню:

А ў бару, бару,
Бару пры даліне
Не ў знакомым табуне
Сівы конь гуляе.
Зануздаў барын каня
Шаўковаю ўздою,
Выцяў шпораю пад бака—
Ляціць конь стралою.
Ляці, ляці, сівы конь,
Ды не тарапіся—
Проці Машыных варот,
Конь мой, станавіся!
Станавіся, сівы конь,
Ды ўдар капытамі
У залатыя брамы—
Ці ня выйдзе красна дзеўка
З чорнымі брывамі?
Ой, ня вышла красна дзеўка—
Вышла яе маці:
„Здрастуй, здрастуй, мілы зяць,
Пажалуй у хату!“
— Я ў хату не зайду,
На двор не заеду,
Прывяжу каня к крыльцу,
Сам пайду ў сьвятліцу—
Разбуджу крэпкі сон
Краснай дзевіцы.
Красна дзеўка спала,
Нічога ня знала—
Правай ручкай абняла
Дый пацалавала.
*(Запіс. Рушкевіч).*

Улетку зажынаюць абуўшыся ў лапці, у белыя анучы. Першы зажаты снапок ставяць пад абразы; сьпяваюць песьні.

У дажынкі ўюць вянок з калосься, кладуць яго на абразы. Пяюць песьні:

I.

Каціўся вянок з поля
Ды прасіўся да пакою:
„Пусьці, пане, да пакою—
Уж я ў полі настаяўся,
Буйны вечер навеяўся,
Дробны дожджык накапаўся,
У вяночак наплакаўся.

II.

Мы падойдзем к пакою
І ўдарым у далоні.
Наша пані спужалася,
У пакоі схавалася.
„Ня пужайся, наша пані,
Бо мы жнейкі, не жаўнеры,
А ўсе панскія жнейкі.
Прынясы, пан, гарэлкі,
Вынясі нам белыя талеркі,
На іх харошай закускі.
*(Запіс. Рушкевіч).*

З часу змовін дзяўчына павінна плакаць па „русай касе, дзявоцкай красе“, аплакваць, што кідае „дзявоцтва“. Як маладыя едуць к вянцу, ім даюць грошы „на вянец“, палатно пад ногі, каб былі багатыя. Калі прыедуць з вянца, ім даюць салодкай гарэлкі; маладая лье яе два разы праз галовы, за трэцім п‘юць яе. Калі маладая едзе к мужу—абсыпаюць іх жытам. На тым возе, дзе кубел маладой, сядзіць сват, а на кубле ці на скрыні driчок з чырвоным палатном (гэты звычай ужо патроху выводзіцца).

З песень пяюць:

I.

Хлопчык да каня паіў,
Конь яго ды вады ня піў,
Ён яго ў галоўку біў.
„Ня бі мяне ў галовачку—
Буду служыць усю дарожачку
І малую, і вялікую;
Буду ціха зьяжджаці,
Каб возу ня схінуці,
Каб маладой ня скінуці,
Каб кубка не крануці
Каб віно не разьліці
Каб цёшчы не ўгнявіці.

II.

У дарогу, Янaчка, у дарогу,
Да ня кован конік на ногу.
Нашто мне каня каваць?
Ё ў мяне кавалі ў дарозе,
Падкуюць каня ў возе;
І ё ў маёй Натулькі пярсьцёнкі—
Будуць майму коніку падкоўкі.
І ё ў маёй Натулькі стужачкі—
Будуць майму коніку вожачкі.

*(Запіс. Рушкевіч).*

Пры нараджэньні, першы раз купаючы дзіця, бабка кладзе ў ваду кавалак солі, хлеба, шчотку з сьвіной шэрсьці і шэпча таёмныя сло-

вы. Перад гэтым, як толькі родзіцца дзіця, бабка, узяўшы яго ад парадзіхі, плюе на яго і прыказвае: „куры с..., каб урокі ня бралі“—і тады ўжо кажа хатнім, хто радзіўся.

Цяжарнай жанчыне ня можна глядзець на пажар, бо калі з перапуду ўхопіцца за якую частку цела, дык у дзіцяці будзе на тым-жа месцы пляма. Ёй-жа ня можна быць пры вынасе з хаты нябожчыка, глядзець у твар яго, бо дзіця родзіцца блядым, як мёртвыя.

На хрэсьбінах бывае тры кашы: кума, кумы, бабы; на кашы кладуць грошы, а гаршкі б‘юць.

Пры пахаваньні за нябожчыкам па вынасе з хаты сыплюць жыта і выносяць пасьцель. Нябожчыкаў хлапцоў і дзяўчат прыбіраюць, як к вянцу; праважаючы на могілкі, прычытаюць—але ўжо рэдка.

Пры ўсялякіх відах сваёй працы селянін сьпявае (асабліва сялянкі); для прыкладу прыводжу некалькі прыпевак, запісаных В. Хелмоўскім у в. Гарожа.

1. Я стаяла на вазу,
На душыстым сене;
А мой міленькі трапач
Гуляе з усімі.

———

2. Сівы конь, сівы конь,
Да белая грыва!
Я ня буду хлопцаў любіць,
Пакуль буду жыва.

———

3. Засмуціўся, зажурыўся
Малады прыкашчык—
Уклаў ручку у карман,
За казённы яшчык.

———

4. Касіў бацька, касіў я—
Выкасілі салаўя;
Бацька рэзаў, а я пёк;
Бацька ўбілі, а я ўцёк.

———

5. А нашага Сідара
Паверх лесу кідала,
А за мяне, маладу,
Што змарозіў на ляду!

———

6. Я галошы не насіў,
Дай бярог і к лету
А сяйчас я не нашу,
Патаму што нету.

———

7. Запалю я лучыначку—
Вугальчыкі падаюць.
Мілы ўедзе ў камсамол
Сухарочкі складываць!

———

8. У гародзе буракі
Некаму капаці.
Падурнелі нашы хлопцы
Не с кім пагуляці!

———

9. Ой, машына, кругам, кругам,
Расстаещца сэрдца з другам!
Ай, машына з падразамі—
Сеў мой мілы са сьлязамі.
Ой, машына з чорным флагам—
Сеў мой мілы дай заплакаў!

———

10. Ня шумі, бела бяроза,
Ня ругай, родная маць!
Нашы лёцьці маладыя—
Нам ахвота пагуляць!

———

11. Не на небе зьвёзды сьвецяць—
Па нябеснай высаце.
Не па дзеўках хлопцы плачуць—
Па дзявоцкай красаце!

———

12. А ў гародзе на купіне
Тры калівы мяты.
Калі хочаш мяне браць—
Папытайся ў таты!

———

13. А ў балоце на купіне
Журавіна скача.
Адзін мяне сватае,
А чатыры плачуць!

———

14. Да па полю па камяністаму
Нясла ягадак прыпол.
Я гуляю з камуністам—
Запішуся ў камсамол!

———

15. Жоўты пясок,
Залёная траўка.
Мілы ўехаў у камсамол,
Мне яго ня жалка!

———

16. Міцьку дзьверы не атвару—
Хоць сядзі да ночы:
Дэлегатка я цяпер
У красьненькім платочку!

Недахоп зямлі прымушае сялян рухацца з месца і шукаць лепшых умоў для свайго жыцьця. Гадоў 20 назад некалькі сямей з-за малазямельля перасяліліся ў Амэрыку і адтуль не вярнуліся. У міну-

лым—1926 г.—у восень выехала ў Усурыйскі край 7 сямей; гэтага году ў вясну таксама зьбіралася некалькі сямей выехаць. Паміж іншым, цікава тое, што ўсе перасяленцы абавязкова імкнуцца папасьці ў лясістае месца.

З тых даных, якія атрыманы т-вам ад раённых установ аднosна сьмяротнасьці і нараджальнасьці, відаць, што прырост насельніцтва, які значна зьмяншаўся ўвесь час з 1913году, пачынае з палепшаньнем умоў жыцьця пасьля 1926 году павялічвацца; за апошнія гады самым лепшым у гэтых адносінах быў 1926 г., даўшы прыросту 86 ч.; праўда, гэта лічбіна яшчэ не дасягае „даваеннага ўзроўню“.

Крывая, якая пры гэтым дадаецца, выведзена з даных Замоскай царквы, якая рэгістравала сьмяротнасьць і нараджальнасьць у наступных вёсках: 1) Замоша, 2) Ліцьвінава, 3) Паляна, 4) Лучыцы, 5) Гарожа, 6) м. Гарожка, 7) Засялечча, 8) Дубавое, 9) Брадзішча, 10) Прудок, 11) Караны, 12) Дубровіца, 13) Булгары.

У гэтых вёсках было насельніцтва ў 1924 г.—2.702 ч., 1925—2.735 ч., 1926 г.—2.713 ч. На вялікі жаль, устанавіць лічбу насельніцтва ў іх за гады 1903—1918 не ўдалося. Гэтыя-ж вёскі, за выключэньнем Каран і Дубровіцы, уваходзяць у склад сучаснага с.-с.




Найвялікшы лік сьмярцей прыходзіцца ў гады 1904, 1905, 1908, 1913 г.; найменшы лік нараджэньняў дае 1917 год. Даных аб сьмяротнасьці і нараджальнасьці за гады 1919—1926 у т-ве няма.

Дзе-ні-дзе яшчэ сустракаецца хуліганства, на вечарынках п‘яныя лаюцца, штурхаюцца; за 1926 г. у с.-с. зарэгістравана 21 выпадак хуліганства.

Трэба сказаць, што ніводная вечарынка не абыходзіцца без самагону. Вечарынкі гэтыя ладзяцца ў якой-небудзь хаце, куды прыходзяць запрошаныя музыкі—цымбалісты і гарманісты (скрыпач—рэдка); пераважаюць скокі: вальс („вальц“), полька, барыня; з старых рэдка хто можа „зеркала“ (у 20 пар), „танец лянцея“ (у 15 пар); наогул любяць паскакаць пад гармошку.




Любяць сцэнічнае мастацтва, хоць разумеюць яго пасвойму: заўсёды з драмы выходзіць комэдыя.

## Установы.

Гаспадаром тэрыторыі зьяўляецца сельсавет, месцазнаходжаньне якога ў в. Замошы; прадстаўнікі на мясцох—член або кандыдат у кожнай вёсцы. Пры с.-с. ёсьць камісіі: зямельная, культасьветная, па ўпарадкаваньні, лясная, коопэрацыйная, санітарная. Усімі камісіямі кіруе прэзыдыум с.-с. Перавыбары бываюць звычайна ўзімку—з прадстаўніцтвам 1 ад 200 ч. выбіральшчыкаў. Усяго ў 1926 годзе налічвалася 16 членаў і 16 кандыдатаў, з іх мужчын 29, жанчын 3.; пры с.-с. ёсьць рэвізыйная камісія.

Задачы *зямельнай камісіі* (3 члены і актыўнага сялянства 20 чалавек)—урэгуляваньне зямельных спраў: перакосы, пераараньне на-

огул захваты; сачыць за працай мэліорацыйнага т-ва (Дубаўское т-ва—27 чалав.; узносы: уступны 1 р., пай 10 рублёў); прымаць удзел у разьмеркаваньні зямлі, складаць проекты абрэзкі і выконваць са згоды РВК. Больш важныя справы накіроўваюцца ў зямельны адзел РВК. Гэтай камісіі дапамагае ў працы агроном.

*Культ-асьветная камісія* (3 чл. і 4 настаўнікі) ведае лікпунктамі (іх 4—дзе школы), сочыць за працай хат-чыталень (іх 2—у Замошы і Мал. Гарожкі), распаўсюджвае літаратуру, праводзіць кампаніі (пасяўная, рэалізацыя пазык, дапамагае бяспрытульным, яч. МОПР'у і г. д.). Для працы ў хаце-чытальні абіраюцца ячэйкай здольныя працаўнікі.

Школ усяго ў с.-с. чатыры: у Замошы — двухкомплектовая, у М. Гарожцы—аднакомплектовая, у Гарожы—аднакомплектовая і ў Лучыцах—аднакомплектовая. У гэтых школах навучалася дзяцей:

| НАЗВА ПАСЕЛІШЧА | Лік вучняў у 1925 г. | | | Лік вучняў у 1926 г. | | | УВАГІ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хл. | Дз. | Усяго | Хл. | Дз. | Усяго | |
| 1. Замоша . . | 51 | 28 | 79 | 55 | 15 | 70 | |
| 2. Лучыцы . . | 46 | 8 | 54 | 49 | 26 | 75 | |
| 3. В. Гарожка. . | 28 | 11 | 39 | 22 | 15 | 37 | |
| 4. М. Гарожка . | 53 | 18 | 71 | 34 | 23 | 57 | |
| 5. Засялечча . . | 28 | 8 | 36 | — | — | — | З прычыны малого ліку вучняў зачынена ў 1926 г. |
| Разам . | 206 | 173 | 279 | 160 | 79 | 239 | |

Матар'яльнае становішча школ дрэннае; будынкі не адпавядаюць свайму прызначэньню; выключэньне складае толькі адна замоская школа. Заўсёды бываюць непаразуменьні з дровамі. Пачынаецца вучэньне позна; звычайна ўсе вучні зьбіраюцца, калі выпадзе сьнег і спыняецца выган жывёлы ў поле. Канчаюцца заняткі рана, бо бацькі, адрываючы сваіх дзяцей ад школы, пасылаюць іх пасьвіць скот. Мотывы сялян звычайна носяць гаспадарчы характар. Такім чынам, ні ў водным годзе, па сутнасьці, нельга лічыць навучаньне скончаным для дзяцей.

Частка іх ходзіць у Асіпавіцкія школы—у большасьці дзеці сераднякоў. Дзеці з в. Асіпавічы навучаюцца ў местачковых школах; пасьля зачыненьня школы ў Засялеччы дзеці перакачавалі ў Лучыцы.

Становішча настаўніка на вёсцы не зайздроснае. Зьяўляючыся ў вёсцы адзінай культурнай сілай, ён нясе шмат абавязкаў па грамадзкай працы, ня лічачы яшчэ таго, што ўсе сяляне зварочваюцца да яго з самымі рознастайнымі пытаньнямі і справамі: ён замяняе сабой і агронома, і доктара, і судзьдзю і г. д.—у той-жа самы час яму трэба займацца і самападрыхтоўкай, чытаць кнігі, хадзіць—іншы раз за 8—10 кілм.—на сходы па падняцьці кваліфікацыі. Хочацца пачытаць кнігі навейшае літаратуры, выпісаць часопісы, але-ж няма з чаго: тыя грошы, што ён атрымоўвае ў м-ц—36 руб.,—далёка не задаваляюць яго патрэбы.

Чырвоных куткоў па с.-с. лічыцца 3: у Лучыцах, В. Гарожа і Засялеччы.

Замоскі клюб налічвае 460 экз. кніг і лічыцца пры хаце-чытальні.

Сялянства праз с.-с. выпісвае газэты—пераважна „Комуніст“ і „Белар. вёска“; лік газэт звычайна хістаецца: павялічваецца ўзімку—калі ў селяніна больш вольнага часу—і памяншаецца ўлетку.

Камісія *па дабрабыту* (4 ч.) сочыць за становішчам шляхоў і мастоў, організоўвае пажарныя дружыны (іх ёсьць 2: у Замошы і М. Гарожцы), сочыць за правільным разьмеркаваньнем хат пры забудаваньні.

Для будовы мастоў с.-с. дае працоўную сілу, дае сьмету, вывозіць лес, які адпускаецца лясьніцтвам; жалезныя прылады (цьвікі, крукі) дае РВК.

Пажарныя машыны для дружын закуплены ў Менску (Белгосстрах). За 1926 г. было 4 выпадкі пажараў, прычынай якіх іншы раз зьяўляецца гонка самагону. У в. Засялеччы згарэла 2 хлявы; у Гарожы—25 гумён; у в. Прудок—1 гумно; у в. Асіпавічы—лазьня.

Тэлеграфнай лініі, апроч чыгуначнай, няма; тэлефон ёсьць толькі ў лясьніцтве.

У задачы *коопэрацыйнай* камісіі ўваходзіць утварэньне арцелей (Лучыцкая лесапрамысловая, чарапічна-бэтоннае т-ва—15 чал.), сочыць за працай коопэратыву.

*Санітарная* камісія сочыць за чыстатой двароў, калодзежаў. З гэтаю мэтаю яна ў вясну зрабіла агляд калодзежаў у некаторых месцах.

*Загс*—запіс-рэгістрацыя вядзецца з 1924 году (з верасьня); рэгістрацыя нараджэньняў і сьмярцей—бяз грошай.

Камісія *па ўчоту об'ектаў аблажэньня* складае сьпісы на гэтыя об'екты; сьпісы накіроўваюцца ў раённую падатковую камісію; галоўныя перашкоды ў яе працы—няправільная дача зьвестак падатковымі плацельшчыкамі.

*Камітэт узаемадапамогі* меў у 1926 г. 278 чал. пайшчыкаў; пай—20 кап. з дзесяціны сенажаці; камітэт складаецца з 12 упоўнаважаных; прэзыдыум—3 чал. і 2 канд.

*Комсамольскіх ячеек* 2: Замоская (з 1923 г.) налічвае 12 чалавек—11 мужч. і 1 жанч.; Мала-Гароская—13 чал.: 12 мужч. і 1 жанч. Комсамол прымае ўдзел у правядзеньні розных компаній, вядзе культасьветную працу сярод сялян.

Піонэр-рух слабы; піонэраў лічылася ў 1926 годзе ўсяго 15 чалавек; разьвіцьцю яго перашкаджае хутарское разьмяшчэньне.

Паштовае аддзяленьне—бліжэйшае—у мяст. Асіпавічах; у с.-с. ёсьць лістаносец—працуе добра.

**Гістарычныя месцы.**

Продкі насельніцтва пакінулі пасьля сябе сьляды ў відзе курганоў. Іх налічваецца па с.-с. 9 шт.: 1) 2 ля возера Сьвятога; 2) 5 ля Агулы і 3) 2 ля паляны. Некаторыя з іх захаваліся некратутымі; большасьць развораны.

Апроч таго, у пяскох (на глыбіні) знаходзяць гістарычныя рэчы, напрыклад: 1) у 1926 годзе ля Замоша на новастройцы, калі бралі пясок, знайшлі гаршчок з монэтамі і крамнёвую сякеру (селянін Камінскі з Боркаў Карытнянскага с.-с.); 2) селянін з в. Замоша Янка Рамень у яме на ўзгорку (яма прызначалася для бульбы) знайшоў у пяску мэдалі і грошы.




3) Селянін з Паляны—Андрэй Колас—знайшоў „пятроўскі“ пятак—мядзяны, абсечаны; 4) ля в. Гарожа В. Хелмоўскі—служачы новастройкі, член краязнаўчага т-ва—у 1926 годзе на глыбіні $1^{1}/_{2}$ мэтра знайшоў гаршчок з старадаўным орнамэнтам.

Гэты гаршчок, дзякуючы нядбайнасьці рабочых, быў расьсечаны ўпаўшай рыдлёўкай на дзьве часткі, адна з якіх рассыпалася, а другая была патрошку вынута з зямлі і аскепкі яе Хелмоўскім В. былі дастаўлены ў кр.-чае т-ва.

У летапісе Карытнянскай царквы ўспамінаецца, як старажытнасьць, Замоская царква. Яна пабудавана езуітамі, калі—невядома; таксама невядома і прычына. У другой палове XIX сталецьця адрамантавана памешчыкам Шышкай і ў гэтым выглядзе захавалася да цяперашняга часу.

У $1^{1}/_{2}$ клм. ад в. Гарожкі ў лесе знаходзіцца возера Сьвятое. Легенда кажа, што калісьці на гэтым месцы стаяла царква, якая праvalілася, і тутака ўтварылася возера (гэтая легенда датычыцца амаль што кожнага возера). Цяпер гэтае возера высахла; на яго паверхні ўтварылася пакрыўка, па якой можна хадзіць.

У тым-жа летапісе Карытнянскай царквы, да парафіі якой раней належала Замоша, успамінаецца яшчэ за в. Лучыцы па дарозе ў сяло Ясень вурочышча Дварышча, дзе нібы засталіся руіны каменнага будынку і другія прыналежнасьці былых палацаў і пры ім сяленьні; указваецца на некалькі каменных крыжоў і кучы каменьняў, якія летапісец лічыць старажытнымі, бо паданьняў аб іх у насельніцтва няма ніякіх.

Зямля, якая ляжыць паміж ракой Сіняй і ўсходняй мяжой раёну, належала раней да памешчыка Шышкі, які жыў у Паташне (Зборскага с.-с.). Ад яго зямлю купіў маскоўскі купец Бычкоў, а ад апошняга

памешчыца Ліцьвінава. Ліцьвінавай належалі: Замоша, Лучыцы (Лучычи), Ясянец, Агула, Паляна, Гарожа, Булгары (Пяшчанка), Брадзішча, Дубавое, Засялечча. Яе двор быў за канавай Сіняўкай (Млынкай, Блінкай); яго закупілі да вайны сяляне Пухавіцкага раёну (Пухавіцкага і Талькаўскага с.-с.).

На тэрыторыі Замоскага с.-с.—на чыгуначнай зямлі—пахаваны 6 партызан, расстраляных палякамі.

У цяжкую гадзіну польскае окупацыі партызанскія атрады часта напаміналі польскім паном, што яны тутака зьяўляюцца нежаданымі гасьцямі. Адзін з такіх атрадаў з сялан в. Крынкі Слуцкай акругі працаваў у межах сваёй вёскі, маючы сувязь з Пухавіцкай організацыяй, пакуль ня быў выкрыты польскімі войскамі, якія прывялі ў Крынкі пераапранутых 2 польскіх міліцыянэры. Яны, выдаўшы сябе за зьбегшых бальшавікоў, даведаліся ў насельніцтва аб партызанах, аб іх складзе ў лесе і накіравалі туды палякаў.

Партызаны былі захоплены, іх судзіў польскі палявы суд, а ў траўні 1920 году былі расстраляны ля чыгун. пераезду ў $1^1/_4$ клм. ад ст. Асіпавічы. Прозьвішчы расстраляных: Саўка Пінчук, Янка Пінчук, Рыгор Кузьміч, Цімох Кузьміч, Якуб Ярашэвіч і Захар Зашчэка.

Першая грамадзянская паніхіда па забітых адбылася на могілках у тым-жа годзе, калі палякі вышлі. З таго часу працоўныя не забываюць забітых і кожны год ва ўрачыстыя сьвяты—1-га мая, гадавіну Кастрычнікавай рэволюцыі—наведваюць могілкі іх: звычайны шлях дэмонстрацый і маніфэстацый—м. Асіпавічы, в. Асіпавічы і могілкі расстраляных партызан,—указваючы, што справа, за якую яны змагаліся і зложылі свае галовы, увянчалася посьпехам.

## Населеныя пункты.

Простая дарога ад Асіпавічі дзе спачатку ўздоўж палатна Заходняй чыгункі, на $3^1/_2$ клм. пад простым кутам зварочвае на поўнач і праз $1—1^1/_2$ клм. даходзіць да в. Замоша, якая зьяўляецца адміністрацыйным асяродкам с.-с.

Назва „Замоша“ выведзена—паводле апавяданьняў насельніцтва—ад таго, што месца, дзе цяпер стаіць вёска, калісьці было мохавым балотам. Вёска ляжыць на левым беразе канавы (канава мае 3 назвы: Сіняўка, Млынка і Блінка), на якой стаіць замоскі млын (паравы)—у нізіне. Калі падыходзіш, дык кідаецца ў вочы тры будыніны: с.-с., царква і школа.

Калі праводзілі Заходнюю чыгунку, у Замошы было 16 двароў. З працягам часу расла вёска і ў 1924 годзе мела ўжо 497 чал. насельніцтва, у 1925 годзе—489 чал. Пачынаецца расьсяленьне на хутары, і перапіс 1926 году дае ў Замошы 33 гаспадаркі пры 129 чал. (67 мужч. і 62 жанч.) насельніцтва.

Усе ўстановы ў Замошы згрупаваны ў заходнім канцы вёскі—бліжэй да Асіпавіч: школа, с.-с., коопэратыў. Школа займае вялікае памяшканьне; яна адчынена ў 1865 годзе. Першым настаўнікам для 17 навучаўшыхся тамака хлопчыкаў быў дзячок Трамбіцкі, які за сваю працу атрымліваў 20 руб. у год; у 1867 годзе тутака было ўжо 20 вучняў. У школе цяпер зьмяшчаецца клюб імя Леніна. Побач з школай знаходзіцца с.-с. і пры ім хата-чытальня.

За школай пры ўваходзе ў вёску—коопэратыў, аддзяленьне Асіпавіцкага ЕПО.

Да вайны ў Замошы была прыватная крама, якая ў 1919 годзе

была перароблена ў коопэратыў. Організатарам коопэратыву быў селянін в. Ясянец—Зьміцярэўскі. У 1925 годзе гэта ўжо аддзяленьне Асіпавіцкага ЕПО; яно абслугоўвае ўвесь с.-с., але-ж у ім не хапае продуктаў і ахопліваецца ім насельніцтва с.-с., прыблізна, на 30%. Прыбытак нязначны. Галоўныя продукты, на якія ёсьць попыт: соль, мазь, кава, мука жытняя, крупа, цукер, табака, лыка („палосься").

У Замошы мае месцазнаходжаньне т-ва жалеза-бэтонных вырабаў (гл. вышэй).

Уся вёска працягнулася ўздоўж аднэй вуліцы, у вясну і восень надта гразкай; узімку ў вялікія завеі намятае сьнегу роўна з плотам—дарогу тады пракладваюць за гумнамі, па гародах (гэта назіраецца і ў іншых вёсках); яшчэ захаваліся хаты з саламянай страхою, але ўжо мала (гумны ўсе пакрыты саломай).

У апошнія гады (1926 г. асабліва) Замоша пачынае расьсяляцца на хутары, якія ўжо цяпер раскіданы навокал вёскі на рознай адлегласьці і маюць 70 двароў з насельніцтвам у 318 чалавак.

Трэба зазначыць, што і раней в. Замоша была адміністрацыйным цэнтрам: у 1866 г. (у другой палове) тутака было адчынена валаснное праўленьне, якое існавала да 1917 году; воласьць мела назву „Замоская".

На ўсход ад Замоша дарога ідзе ў трох кірунках: 1) на Малую Гарожку, 2) на Гарожу і 3) на Лучыцы з хутарамі.

Адразу пасьля канавы ляжыць в. *Ліцьвінава* (назва паходзіць ад памешчыцы Ліцьвінавай), якая налічвае 18 двароў з 82 чалав. Раней тут быў памешчыцкі дом, хлявы; будынкі гэтыя з зямлёю купілі ў 1914 годзе пухавіцкія сяляне. Цяпер Ліцьвінава і Замоша падзяляе толькі канава; хаты ідуць шчыльна; каля мосту праз гэтую канаву яшчэ захаваліся старыя ракіты па шляху.

Па дарозе ў М. Гарожку ўлева застаецца 2 засьценкі: „Агула" (10 двар.—52 чал.) і „Паляна"—стары засьценак (5 дв.—33 чал.). Абодва засьценкі знаходзяцца ў нізкай мясцовасьці, на ўсход ад іх ідзе лес, на захад—балоты.

Перад самай Малай Гарожкай трошкі на поўдзень ад яе ўлева відаць пасёлак „Ясянец", заснаваны ў 1901-2 гадох; мае пры 11 дварох 59 чалав. жыхароў.

Дарога ў м. Гарожку ідзе амаль увесь час палямі і дзе-ні-дзе палі перасякаюцца хваёвымі пералескамі.

„Малая Гарожка" („Наўгарожка", „Гарожка", 89 дв.—451 чал.)—другая па велічыні ў с.-с. вёска. Яна працягнулася на 1¼ клм.; пачынаецца кузьняй і канчаецца лясьніцтвам (4 двар.—11 чал.), ляжыць у мясцовасьці трошкі вышэйшай, чымся Ясянец; хаты знаходзяцца блізка адна ад другой, пакрыты гонтам або дошкамі (гумны—саломай). Тутака ёсьць аднакомплектовая школа, хата-чытальня і лікпункт. З прадпрыемстваў ёсьць лесапільня, якая належыць Лучыцкаму т-ву ўзаемадапамогі і ім-жа эксплёатуецца; ляжыць у канцы вёскі супроць лясьніцтва. У 1½—2 клм. ад м. Гарожкі знаходзіцца „Сьвятое" возера (апісан. у час. „Наш Край" № 1 за 1927 г.).

Другі кірунак з Замоша прыводзіць у в. „Гарожу". Дарога з Замоша ідзе спачатку сярод пяскоў; па дарозе трапляюцца балоты і ў адным месцы невялічкая грэбля; вёсак ніякіх не сустракаецца. „Гарожа"—або „Вялікая Гарожа"—мае 90 двар. з 396 чал. жыхароў; ляжыць ад Асіпавіч на адлегласьці 12 клм.

Ляжыць на беразе прыгожага бору; вуліца гразкая. У канцы вёскі

ў лесе знаходзіцца смалярня, якая належыць і эксплёатуецца двума грамадзянамі. У вёсцы ёсьць аднакомплектовая школа.

У адным кілёмэтры на NW ад вёскі праходзіць палатно новай чыгункі Асіпавічы—Рослаў—Магілеў.

Трэці кірунак вядзе паўз Баўгары ў Лучыцы.

„Баўгары" („Буўгары", тож „Пяшчанка")—17 дв., 96 чал.—успамінаецца ў летапісе Карытнянскай царквы пад 1867 г., як фэрма „Болгары". Гадоў 26—28 таму назад засялілася высяленцамі з в. Лучыцы.

„Лучыцы"—калісь была тутака вялікая вёска, якая цяпер расьсялілася на хутары.

Лучыцы досыць старая для нашага раёну вёска; у сваіх апавяданьнях сяляне ўспамінаюць французаў.

У тым-жа летапісе Карытнянскай царквы паказана, што Замоша і Лучыцы ўваходзілі *да 1800 г.* ў царкоўны прыход Карытнянскай царквы; назва гэтай вёскі ў летап. пішацца—парасійску—Лучичи; таксама яна азначаецца і на вайсковых картах. У вёсцы, якая цяпер налічвае 8 двароў, ёсьць школа, якая ляжыць ужо сярод хутароў; напаўняецца вучнямі з хутароў і паўднёвых вёсак (Засялечча і інш.).

Ад Лучыц ідзе дарога ў Татарку—увесь час лесам на балоце; дарога знаходзіцца ў дрэнным становішчы і па ёй рэдка езьдзяць.

Міма в. Лучыцы ў кірунку на чыгуначны разьезд праведзена „конка"—вузкакалейка; па ёй раней вазілі лес (асабліва дровы) у разьезд, грузілі ў вагоны і адпраўлялі па назначэньні. Праведзена яна ў веснавы пэрыод 1917 году; цяпер ёю карыстаюцца мала.

На поўнач ад Лучыцкіх хутароў знаходзяцца новыя пасёлкі „Май" і „Красный Октябрь" (пасёлак „Май" разьбіты таксама, як і пас. „Красный Октябрь", плян якога тутака дадаецца).

На гэтых пасёлках насельніцтву прыходзіцца высякаць лес, выкарчоўваць пні, асушаць балоты і г. д.

Ля ст. „Татарка" (6 двар.—23 чал.), якая атрымала сваю назву, мусіць, ад в. Татаркавічы, што ляжыць паўночней у межах Сьвіслацкага раёну, знаходзіцца некалькі насялёных пунктаў: „Брадзішча" (20 дв.—89 чал.), „Барысавы ляскі" (4 дв.—21 ч.), „Яжымасьць" (7 дв.—33 чал.) і „Засялечча" 42 дв.—181 чал.). Гэтыя пункты для с.-с. экономічна малаважныя. З Асіпавіч у Татарку, апроч вышэй прыведзенай, ёсьць яшчэ і другая—уздоўж палатна Заходняй чыгункі—спачатку пяшчаная, потым балацістая; перад в. Брадзішча ёсьць грэбля ў $^3/_4$ клм. даўжыні.

В. „Асіпавічы"—у 1-ым клм. ад м. Асіпавічы—налічвае па перапісе 1926 г. 132 двары—616 чал. (274 м. і 342 ж.). Цяпер яна таксама расьсяляецца на хутары часткай на поўнач (у Камарын-Зборскага с.-с.), часткай на поўдзень. Яна цягнецца на $1^1/_2$ клм. уздоўж ракі Сіняй, якую ў 1912 годзе, з прычыны яе засьмечаньня, паглыбілі і выпрасталі, пракапаўшы канал. Але-ж рака гэтая сваё аджыла: яна памяльчэла; бабры, якія раней вадзіліся ў ёй і давалі прыбытак насельніцтву, зьнішчаны канчаткова гадоў 25 таму назад; нават рыбы мала, дый тая дробязная, і ловяць яе адны хлопчыкі на вуду ды кошыкамі. А быў час, калі рака гэтая была сплаўная; цяпер-жа над ёй нават і чаўноў няма.

Адным канцом в. Асіпавічы ўпіраецца ў палатно Заходняй чыгункі, другім абхоплівае м. Асіпавічы з паўднёвай часткі. Паміж мястэчкам і вёскай растуць новыя хаты, і настане час, калі вёска злучыцца з мястэчкам. Вёска гэтая ня надта старая, але-ж старэйшая за мястэчка, якое

дастала сваю назву ад вёскі; пачала пашырацца пасьля правядзеньня чыгункі ў 1872 годзе.

На поўдзень ад в. Асіпавічы ляжаць хутары Гарохвае (Гарохавае)—5 дв.—33 чал.; „Хвашчы“—3 дв.—18 чал.; в. Прудок (25 дв.—103 чал.), х. Гамзуніха (3 дв.—20 чал.) і Дубовае. Усе хутары гэтыя новыя.

У в. Дубавое ёсьць мэліорацыйнае т-ва, якое ўжо ў 1926 годзе прыступіла да працы.

В. Прудок, стоячы на гары, аддзяляецца ад в. Асіпавічы балотам, праз якое ўлетку ня езьдзяць і ня ходзяць.

---



А. Немцаў

# Гураган 12 чэрвеня 1927 г.

*Бабруйшчына, Асіпавіцкі раён.*

12 чэрвеня г. г. а 5-ай гадзіне ўвечары з заходняга боку м. Асіпавіч пачала зьбірацца роўная шэрая хмара пры параўнальна невялікім ветры; у палове шостай гадзіны хмара спусьцілася досыць нізка і з паўднёвага боку Асіпавіч у кірунку Прудок—Замоша—Ясянец—Орча паласой праляцеў віхраслуп (сьмерч).

У першы час зьявішча было прынята за вялікі пажар (нават пажарнікі выскачылі), бо чорныя клубы падымаліся з зямлі, круціліся ўгару, вельмі падобна да дыму. Віхраслуп меў выгляд лейкі ўгару шырокай часткай, якая складалася з палос шэрых і чорных хмар, што ўцягваліся ў вір вельмі хутка—такім чынам атрымаўся пластаваты слуп,




які круціўся накшталт каруселі, унізе дыямэтр у 100 мэтр. Маланкі неназіралася; гром грухатаў увесь час. Зьявіўшыся з паўднёва-заходняга боку Асіпавіч, віхраслуп у некалькі момантаў праляцеў ад Асіпавіч да Орчы і расьсеяўся, перайшоўшы ў залеву—страшенны дождж—з градам.

Рух хмар у часе расьсейваньня быў вельмі шпаркі. На вялікай вышыні можна было заўважыць хмары, якія хутка рухаліся ў выглядзе дыму ў хаце, што абвальваецца ў часе пажару. Малюнак быў вялічны і грозны па сваёй моцы. Пасьля і нават да гэтага зьявішча была відаць наогул нязвычайная беганіна вобалакаў—або ўніз або ў бок (ня ў кірунку ветру).

Пасьля сябе гураган пакінуў разбураныя хаты, гумны, садраныя дахі і г. д.

У прыватнасьці, моц гурагану і малюнак руйнаваньня гэтакі:

Грам. Х-скі, які знаходзіўся ў гэты час па службовых справах на навастройцы „Росмосдор“ ля Замоскіх хутароў і заўважыў, што каля



На чыгунцы пасьля віхраслупу.

аднаго хутару зьявіліся клубы дыму, прыняў гэта за пажар, кінуўся да хутару, але-ж яго сустрэлі ляцеўшыя каменьні, жэрдкі, пясок, гонты і г. д., і ён прымушан быў уцячы назад да вагонаў.

Ускочыў у адзін з вагонаў, зачыніў дзьверы і заўважыў, што вагон моцна калыхае ў бакі; адгэтуль ён кінуўся да таварных вагонаў,



Гай ля чыг. буды пасьля віхраслупу.

якія сілай ветру рухаліся, а потым амаль на яго вачох былі перакулены.

З 8-мі вагонаў вецер садраў дахі, пры гэтым жалеза з даху сустракаецца і тутака-ж, нібы мокрыя анучыны на куце пляцформы, і за 1-1½-2 вярсты на N і S ад вагонаў.

Адзін з вагонаў стаіць упоперак рэек; пляцформа з дубовымі шпаламі перакулена. Сілай ветру адзін вагон з грузам аднесла на 1 кілём.; калі вецер цягнуў вагоны, дык адзін вагон цягнуўся па шпалах, пакуль яго не перакуліла. На дроце і тэлеграфных слупох вісіць салома, анучы; навокал па полі раскіданы бэлькі, шпалы, гонты, салома, жалеза.

З чыг. буды Заходн. чыг. сарвала дах і адарвала сенцы, разьбіўшы іх дашчэнту; адна кроква з даху ляжыць ля буды, а другая ля Замос-



Двор у в. Прудок пасьля віхраслупу.

кіх хутароў: жалеза з даху знойдзена ля вёскі Прудок (1½ к.), і ў той-жа час карыта з в. Прудок валяецца ля чыгун. буды.

Маленькі гай з бярозак і хвоек ля гэтай буды ўвесь ляжыць на зямлі, пры гэтым некаторыя дрэвы вырваны з зямлі з карэньнямі, а іншыя зламаны на палову.

Больш за ўсе вёскі пацярпела вёска Прудок.

У гэтай вёсцы ўся заходняя частка зруйнавана; засталося некранутымі, прыблізна, каля 6 будынкаў.

Паводле даных камісіі, якая абсьледвала зруйнаваныя месцы, тутака пацярпелі (з хутарам сумесна) 25 двароў на суму 11.565 рублёў. Дрэвы па садох усе павалены; па вуліцы цяжка праехаць, бо яна завалена саломай, бэлькамі, дахамі і г. д.

Ад вялікага дажджу і граду ў гэтай вёсцы пацярпела 18,5 гэкт. азімага жыта; сярэдняя пашкоджанасьць пасеваў—45%.

У гэтай вёсцы паранены 5 чалавек; забітых няма.

Сяло *Замошша* пацярпела мала; значна больш дасталося хутаром. У сяле зруйнаваны з NW боку некалькі будынкаў; другі канец сяла зусім цэлы.

Сіла ветру была вельмі вялікая: дрэвы на 2-х могілках зламаны і павалены—іх выварачвала з карэньнем і цягнула часам на далёкую адлегласьць; у школе ўсё без выключэньня шкло выбіта, але-ж сама школа, як і сельсавет і цэркаў, засталася цэлая.

У гэты час да Замоскіх хутароў пад'яжджаў селянін Пухавіцкага раёну, які ехаў „к свайму сьцю"; яго выкінула з возу, панесла паміж

бярвеньнямі, бэлькамі і пакалечыла так, што ён праз 2 гадзіны памёр. Воз яго разьбіла і аднесьла ў бок, як і каня.

Шмат хто з сялян пакалечаны, але-ж большасьць з іх ня помніць—дзе, як і чым.

Хутар *Зарожжа* ўвесь зруйнаваны: гумно зьнясло, з хаты сарвала дах і столь. Угары было 7 рам—іх занесла на $^1/_2$-1 кіл. на сенажаць, частку з іх (4 рамы) знайшлі, рэшту—не. Калоды з пчоламі зацягнула ў жыта за $^1/_4$ кіл.; а тыя, што былі прымацованы да плоту, цягнуліся разам з ім.

Пацярпеў малады садзік, частку дрэў з якога вырвала з зямлі.



В. Замошша пасьля віхраслупу.

На Замоскіх хутарох усе будынкі зруйнаваны (у $^1/_2$ кіл. ад сяла Замошша); сяляне перасяляюцца ў Замошша.

Тутака кантузіла каня, якога захапіла з двара і цягнула праз бярвеньні; другі конь стаяў дрыжучы ў хляве і застаўся цэлы. З другога хлява выцягнула сьвіньню і перакаціла праз бярвэньні, жыта, дзе і знайшлі яе жывою.

Хутар у 1 кілём. ад чыгункі ўвесь зруйнавала, у той час як другі хутар, што ляжыць ад першага на $^1/_4$ кілм., цэлы.

Усяго ў Замошшы з хутарамі пацярпела 46 двароў на суму 20.230 рублёў. Пабіта азімага жыта 21 гэкт.; сярэдняя пашкоджанасьць—46%.

У вёсцы *Агула* пацярпела 8 двароў—раскіданы гумны, зьнесены дахі. Папсаваны лес мясцовага значэньня.

Дзяржаўнага лесу паломана і павалена каля 430 гэктар.—паласою у $^1/_4$—$^1/_3$ кілёмэтру. Будынкаў папсавана на 690 рублёў.

У в. Паляна пацярпела 5 двароў на суму 2.890 р., гумны ўсе разбураны. Паранены адзін селянін. Градам пабіта 7,6 гэкт. азімага жыта з пашкоджанасьцю ў 72%.

У в. *Ясянец* пацярпела 13 двароў на суму 9.257 р.; гумны ўсе зьнесены. Зьнішчаны ўвесь бераг лесу каля Ясянца. Пацярпела 9,8 гэкт. азімага, жыта з пашкоджанасьцю ў 40%.

Усяго ў Асіпавіцкім раёне пацярпелі 97 двароў на суму 44.632 р. (сюды не ўваходзяць хатнія прылады, гаспадарчыя прылады, вульлі і г.д.).

Тыя расьліны, што папалі ў цэнтр віхраслупу (канюшына, лаза, папаратнік, бярозавыя лісьці), пачарнелі. Сады зьнішчаны на 75% (у в. Ясянец зусім зьнішчаны). Ярыну прыбіла дажджом, закідала трэс-



На Замоскіх хутарох пасьля віхраслупу.

камі ад будынкаў і спаліла там, дзе праходзіў гураган. Каласы жыта ў некаторых мясцох пабялелі.

Быдла амаль не пацярпела—паранены ў Замошшы адзін конь, а некалькі кантузіла.

Паводле чутак, гураган пачаўся пад ст. Дараганава, дзе ў в. Краі зьнясло дахі з 2-х хат, а ў в. Сялец—6 гумнаў. У в. Дзяржаўцы быў толькі моцны вецер; у в. Ясяноўка вывернула некалькі дрэў, а потым гураган пераскочыў да Асіпавіч; скончыўся, паводле чутак, у Брыцалавіцкім лясьніцтве, папсаваўшы лес пад в. Орча.

У Асіпавіцкім раёне гэта першы выпадак гурагану (гадоў 35 назад быў такі самы ў Слуцкай акрузе). На насельніцтва гэта зрабіла надзвычайнае ўражаньне.




В. Самцэвіч.

# Нарыс экономічнага становішча Барысаўскага раёну *).

Барысаўскі раён зьяўляецца цэнтральным раёнам Барысаўскай акругі і знаходзіцца ў досыць спрыяючых умовах для свайго экономічнага разьвіцьця: у кірунку з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад раён перасякае М.-Бел.-Балт. чыгунка (з 2 станцыямі—Прыяміна і Барысаў), а з паўднёвага захаду на паўднёвы ўсход—суднаходная і сплаўная рака Бярэзіна з сплаўнымі ўтокамі Схой, Начай, Бабром. Апрача таго, на Барысаў ідуць досыць добрыя грунтавыя дарогі: гасьцінец у кірунку Ворша—Барысаў—Менск, шаса з Барысава на Зембін і інш. Усе віды шляхоў зносін даюць магчымасьць вёскам раёну (радыусам каля 35 клм.) мець цесную экономічную сувязь з буйным прамысловым цэнтрам акругі і раёну г. Барысавам. Выгоднае географічнае палажэньне гораду (пры чыгунцы і пры абодвух берагох р. Бярэзіны) і вялікая колькасьць лясной сыравіны пры лясным багацьці акругі далі магчымасьць гораду разьвіць значную прамысловасьць і заняць адно з відных месц сярод прамысловых гарадоў Беларусі.

У Барысаве адбываюцца вялікія кірмашы, ёсьць коопэрацыйныя крамы, вялікі лік рабочых, чым гарантуецца збыт продуктаў сельскагаспадарчай вытворчасьці.

*Глебы і клімат раёну.* Пераважнымі ў раёне відамі глебы зьяўляюцца лёгкія суглінкі. Рака Бярэзіна падзяляе раён на два глебавыя падраёны. У першым з іх, на левы бок Бярэзіны, пераважаюць суглінкі і толькі мясцамі можна знайсьці на вяршынях пясок на безвалунным суглінку. Другі падраён (заходні), на правы бок Бярэзіны складаецца ў глебавым пакрыцьці з безвалуннага супяску, мясцамі забалочаны.

Рэльеф раёну лёгка-хвалісты, з невялікім нахілам на поўдзень, што вызначаецца кірункам цячэньня рэк; мясцамі ёсьць паніжэньні, занятыя балотамі; у паўднёвай частцы сустракаюцца невялікія балкі.

Клімат раёну дазваляе разводзіць усе тыповыя для Беларусі культуры і дае магчымасьць ім дасьпяваць. У некаторыя гады толькі бываюць веснавыя (у маі месяцы) замаразкі, часамі вымачкі. Засух у раёне ня бывае.

*Насельніцтва.* Усяго насельніцтва ў раёне на 1 кастрычніка 1926 г. налічвалася 47.740 асоб, і разьмяшчаецца яно на тэрыторыі ў 147.813 дз.

*) Лічбовыя даныя ўзяты з справаздачы РВК і ў Акруг. Стат. Бюро.

Нацыянальны склад насельніцтва наступны:

| Беларусаў | Палякаў | Яўрэяў | Латышоў | Літоўцаў | Вялікарусаў | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 43.743 | 2.950 | 885 | 141 | 7 | 14 | 47.740 |

Усё насельніцтва жыве ў вёсках.

Шчыльнасьць насельніцтва раёну досыць значная: на адну кв. вярсту прыходзіцца 42 асобы, што перавышае тую норму шчыльнасьці, пры якой магчыма экстэнсыўная трохпалёвая сыстэма гаспадаркі. Паказаная акалічнасьць вымушае насельніцтва шукаць спосабаў падняцьця тарварнасьці гаспадаркі і дыктуе неадкладны пераход да інтэнсыфікацыі гаспадаркі і пераходу на шматпольле.

Асноўным відам заняцьця насельніцтва раёну зьяўляецца земляробства. З падсобных заняцьцяў маюць месца наступныя: заработкі ў лесе ў часе зімніх лесаразработак, возка лесу да чыгункі і сплаўных рэк; саматужная прамысловасьць разьвіта слаба і вядзецца прымітыўнымі спосабамі.

Найбольш пашыранымі сельска-саматужнымі промысламі зьяўляюцца: выраб цэглы, кавальства, сталярныя, бандарныя і калёсныя рамествы, апрацоўка скур і воўны, шавецтва і кравецтва.

*Сельская гаспадарка.* Разьмеркаваньне плошчы раёну па ўжытнасьцях у сучасны момант наступная:

| Угодз. | Сяліба | Ральля | Сенажаць | Лес і хмызьняк | Выган і інш. | Неразьмеркав. | Усёй удобнай | Няўдобнай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзесяц. | 3.237 | 43.748 | 17.507,6 | 771.174,5 | 6.836,6 | 3.439,6 | 152.339,4 | 22.473,6 |

Усяго—174.813 дзес.=100 %.

Колькасьць няўдобнай зямлі 22.473,6 дзес. або 12,85% усёй плошчы раёну пры перанаселенасьці раёну і досыць нізкіх ураджаях ставіць сур'ёзна пытаньне аб хутчэйшым выкарыстаньні гэтай закінутай часткі плошчы, асабліва калі прыняць пад увагу недахоп сенажацяй і, галоўным чынам, нізкую каштоўнасьць гэтых сенажацяй.

Справа мэліорацыі ў раёне да рэволюцыі ня мела месца і пачала разьвівацца толькі з 1924 г. Організуюцца мэліорацыйныя таварыствы, якіх у сучасны момант на раёне налічваецца 12. Праароблена наступнае: вырыта канаў працягам на 9 вёрст 497 саж., вырыта зямлі 522,2 куб. с., выкарчавана пнёў на плошчы 69,5 дзес., усяго асушана 182 дзесяціны 216 кв. саж.

На 1-ае кастрычніка 1926 г. ўсяго гаспадарак (двароў) па раёне налічвалася 8.740, у тым ліку забясьпечаных зямлёй 8.648, безьзямельных 82 і безпалявога засеву—10. Усе гаспадаркі па зямлякарыстаньні разьмяркоўваліся такім чынам: цераспалосных—8.089 гаспадарак, хутарскіх—587 і інш. 64. Такім чынам, бачым, што пераважнай формай землякарыстаньня застаецца падворна-вучастковая, цераспалосная з вызначаным

дальнязямельлем (да 5-6 вёрст); сыстэма паляводзтва—парушаная трохпольная. Сяляне, імкнучыся да пашырэньня пасяўной плошчы, усё больш і больш выкарыстоўваюць папарную зьмену пад такія культуры, як бульба, канюшына, ячмень, гарох, выка, лубін.

У сучасны момант ёсьць значнае імкненьне да пераходу на шматпольле, на якое пераведзена ўжо каля 4.000 дз. Адначасна з гэтым павялічваецца засеў тэхнічных культур і кармовых траў.

Разьмеркаваньне пахатнай плошчы пад культуры было наступнае:

| Назва культур | % | Назва культур | % |
|---|---|---|---|
| Азімае жыта | 31,5 | Бульба | 10,6 |
| Яравая пшаніца | 3,3 | Выка | 0,75 |
| Ячмень | 6,1 | Канюшына | 1,96 |
| Авёс | 21,9 | Лубін | 5,08 |
| Грэчка | 1 | Сэрадэля | 0,35 |
| Гарох | 1,7 | Проса | — |
| Боб | — | Пад папары | 6,5 |
| Лён | 4,5 | Залежы і пусты | 4,2 |
| Каноплі | — | | |

Увага: Разьмеркаваньне плошчы паказана па даных РВК.

Прогрэсыйнае пашырэньне паасобных культур ішло наступным чынам (у %% да агульнай пахатнай плошчы):

| Назва культур | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| Канюшына | 0,3 | 0,7 | 1.00 | 1,15 |
| Лубін | 0,5 | 1,00 | 4,4 | 5,08 |
| Сэрадэля | — | 3 дз. | 100 дз. | 150 дз. |

Пераважнай культурай застаецца зярновая, але ўсё-ж паступова пашыраецца плошча пад такія культуры, як канюшына, лубін, сэрадэля.

Апрацоўка зямлі прымітыўная; зямля вырабляецца плугамі (пераважна аднаконнымі) і драўлянымі баронамі на глыбіні да 3 вяршк. Угнаеньне глебы робіцца ў пераважнай большасьці гаспадарак толькі гноем з сваёй гаспадаркі, пачынае ўжывацца ў якасьці зялёнага ўгнаеньня лубін.

## Жывёлагадоўля.

Разьвіцьцё жывёлагадоўлі пры экстэнсыўнай гаспадарцы раёну залежыць, галоўным чынам, ад якасьці корму з натуральных сенажацяй. З агульнага ліку 77.174,5 дз. сенажацяй 60% выпадае на заліўныя сенажаці на берагох рэк: Бярэзіны, Схі, Начы, Бабра, Плісы і інш., а 40% сенажацяй носіць характар балоцістых ды сухадольных лугоў. Сухадольныя сенажаці ў значнай меры запушчаны, заліўныя сенажаці ў значнай частцы забалочаны. На лугох да паловы мая і пасьля скосу травы ўвесь час пасецца быдла, што вельмі шкадліва адбіваецца на становішчы лугоў і іх ураджайнасьці.

Сярэдні ўраджай сухадольных лугоў хістаецца паміж 45—75 пуд., забалочаных 75—100 пуд., заліўных 100—120 пуд. і вельмі рэдка даходзіць да 150 пуд. з дзесяціны. Кармовая каштоўнасьць лугоў, з прычыны адсутнасьці агляду, з кожным годам памяншаецца.

Палепшаньне становішча існуючых сенажацяй, належны дагляд за імі, асушка балот—вось першачарговыя меры, якія трэба правесьці ў жыцьцё. Разам з тым стаіць пытаньне аб павялічэньні плошчы засеву кармовых траў і караньплодаў.

Быдла разводзіцца пераважна мясцовай пароды. Сярэдняя вага каровы 13—15 пуд. жывой вагі; сярэдні гадавы ўдой малака—48 вёдраў.

Толькі ў некаторых сельсаветах, якія прылягалі да былых маёнткаў з палепшанымі пародамі жывёлы і дзе гэтая парода захавалася да апошняга часу ў савецкіх гаспадарках, сустракаецца невялікая колькасьць экзэмпляраў чужаземных парод. Так, у Глівенскім сельсавеце ёсьць экзэмпляры швіцаў і беларускага быдла, у вёсках, якія прылягаюць да б. маёнтку (цяпер саўхозу) Весялова, сустракаюцца экзэмпляры, блізкія да сементалаў і каля Ст.-Барысава ёсьць голяндзкая парода. Найбольш пашырана ў раёне голяндзкая парода, менш—сементалы і швіцы.

Коні ў раёне таксама мясцовай пароды, часамі сустракаюцца коні мясцова-палепшанай пароды, дзе-ні-дзе сустракаюцца мэтысы ардэнскай, арлоўскай пароды. Па раёне такіх коняй налічваецца 55 шт. Найбольш адпавядаючай лічыцца мясцова-палепшаная парода, якая не патрабуе асаблівага ўходу, здавальняецца мясцовымі кармамі і зьяўляецца досыць унівэрсальнай пародай, годнай для лёгкавай язды і возкі грузаў, што мае месца ў раёне (возка лесаматар'ялаў зімой). Коні ў пераважнай большасьці маларослыя, маласільныя.

Разьвядзеньне авец у раёне носіць амаль што выключна спажывецкі характар: мяса, воўна і скура ідуць для хатніх патрэб і толькі нязначная частка авец збываецца ва рынак. Убойная вага авечкі ў сярэднім роўна 25—35 фунт. Парода авечак мясцовая.

Гадоўля сьвіней была вельмі занябала за пэрыод 1918—1924 г. з прычыны пашырэньня эпізотыі і адсутнасьці збыту на рынку. За апошнія гады наглядаецца тэндэнцыя да аднаўленьня сьвінагадоўлі.

У раёне пашыраны сьвіньні мясцовай пароды, продукцыйнасьць якой вельмі нізкая, бо адкармліваць сьвіней на сала пачынаюць толькі праз 2—3 гады, а ўбойная вага адкормленай сьвіньні ад 3,5 да 7 п.

Дагляд за скацінай, за рэдкімі выключэньнямі, вельмі дрэнны. Скаціна жыве па большай частцы зімой у халодных хлявох. Каровы, коні, авечкі ўсю вясну (амаль што па згоне сьнегу), лета і восень жывуць на падножным корме. Падкармліваньне коняй і кароў практыкуецца вельмі рэдка. Зразумела, што голыя выганы, зьбіты папар ды балоты зусім ня могуць даць патрэбнага корму для скаціны, і яна недаядае. Зімой коні кормяцца сенам, а каровы яравой саломай з прымешкай сена (балотнага). Пры недахопе сена (што вельмі часта бывае) коні кормяць рэзанай і то і жытняй саломай (сечка альбо „рэзь") з з вобмешкай цёртай паранай бульбы альбо аўсянай мукі. К вясьне скаціна вельмі худзее і слабее. Палепшаньне пароды скаціны шляхам утварэньня злучных пунктаў у значнай меры не дасягае сваёй мэты з прычыны адсутнасьці належнага дагляду за скацінай, адсутнасьці ўвыстарчаючай колькасьці кармоў і дрэннай якасьці іх.

Продукты птушніцтва ў значнай меры адзначаюцца рыначнасьцю

(35—45%). Рыначная кон'юнктура як нельга лепш спрыяе продуктам птушніцтва. Агульны прыбытак ад птушніцтва ў раёне вылічваецца ў 81.635 р. у год. Разьвіцьцё птушніцтва мае досыць спрыяючыя ўмовы і трэба зьвярнуць увагу на пашырэньне гэтай галіны жывёлагадоўлі і перш за ўсё трэба організаваць для сялян збыт продуктаў птушніцтва.

Месцам збыту продуктаў жывёлаводзтва зьяўляецца г. Барысаў і часткай мясцовыя коопэратывы. Найбольш пашыранымі продуктамі збыту за межы раёну зьяўляюцца: скура, воўна, шчаціна, яйкі. Да вайны ў значнай колькасьці за граніцу вывозіліся гусі.

*Пчалярства.* Па раёне ў сучасны момант налічваецца 250 сем'яў пчол: 50 сем'яў у рамачных вульлях і 200—у калодных. Прыбытак з аднаго рамачнага вульля вылічваецца ў 20—25 фунт. і з калоднага 12—16 ф. Утрыманьне пчол знаходзіцца ў прымітыўным становішчы, належнага догляду за пчоламі няма, з прычыны адсутнасьці тэхнічных ведаў у пчалаводаў. Пчалярства ў раёне наогул носіць аматарскі характар. Для належнай пастаноўкі пчалярства ў раёне, дзе ёсьць усе належныя ўмовы для гэтага, трэба аб'яднаць пчалаводаў у пчалярныя таварыствы і наладзіць збыт продуктаў пчалярства.

*Садоўніцтва і гародніцтва.* Агульная плошча садоў у раёне займае 120 дзес., з якіх 8 садоў, раней належаўшых да памешчыцкіх гаспадарак, плошчай у 75 дз., носяць прамысловы характар. Сады, якія знаходзяцца пад дзяржаўным кіраўніцтвам, у значнай меры прышлі ў заняпад. Сялянскія сады маюць пераважна спажывецкі характар, з садоў прамысловага значэньня плады вывозяцца ў Ленінград, Маскву. Перапрацоўкі пладоў на месцы няма. З прычыны недахопу тэхнічных ведаў у сялян, недахопу пасадачнага матар'ялу і нязначнасьці сядзібных плошчаў і неорганізаванасьці збыту, садоўніцтва не магло заняць належнага месца. У сучасны момант у раёне ёсьць пладовыя выхавальнікі: у с. Глівіне (40 дз.), у Ст.-Барысаве (3 дз.), Лошніцы.

Гародніцтва ў раёне носіць спажывецкі характар і толькі ў прыгароднай мясцовасьці пачынае насіць прамысловы характар. Асноўнай перашкодай да належнай пастаноўкі гародніцтва на належную вышыню зьяўляецца адсутнасьць тэхнічных вед у насельніцтва.

*Сельска-гаспадарчая коопэрацыя* ў даваенныя часы толькі пачала разьвівацца і насіла выключна крэдытны характар. С.-гасп. коопэрацыя пачынае пашырацца з 1923—24 г. У сучасны момант с.-гасп. таварystваў з крэдытнымі функцыямі ёсьць 5:

| Назва таварыстваў | Пайшчыкаў | | Якія маюцца прадпрыемствы |
|---|---|---|---|
| | На 1/X 26 г. | На 1/X 26 г. | |
| Барысаўскае „Дапамога" . . | 1.051 | 1.600 | |
| Глівенскае „Праца" . . | 120 | 127 | Цагляны завод |
| Лошніцкае „Сяўбіт" . . | 422 | 422 | |
| Вяляціцкае „Смычка" . . | 82 | 90 | арэндуецца млын |
| Забашавіцкае „Добрая праца" | 140 | 160 | продаж с.-г. прылад |
| Усяго. . | 1.815 | 2.399 | |

Усяго ў сельска-гасп. коопэрацыю коопэравана 28% на сельніцтва.

*Спажывецкая коопэрацыя і гандаль.* На тэрыторыі раёну ёсьць 6 коопэрацыйных спажывецкіх т-ваў з 6 аддзяленьнямі:

| Назва таварыстваў | Пайшчыкаў | |
|---|---|---|
| | На 1/X 25 г. | На 1/X 26 г. |
| Барысаўскае прыгароднае з аддзяленьн. | 564 | 879 |
| Глівенскае з аддзяленьнямі | 422 | 667 |
| Лошніцкае | 306 | 316 |
| Азьдзяціцкае з аддзяленьнямі | 268 | 455 |
| Ленінскае. | 234 | 240 |
| Зачысцкае | — | 194 |
| Усяго. | 1.814 | 2.751 |

Усяго коопэравана 32% насельніцтва.

Прыватны гандаль у раёне характарызуецца наступнай табліцай:

| Катэгорыя | Лік патэнтаў | Звароты ў рублёх |
|---|---|---|
| I разрад | — | — |
| II „ | 6 | 6.400 |
| III „ | 5 | 18.000 |
| IV „ | 2 | 14.325 |
| V „ | 1 | 70.000 |
| Усяго | 14 | 10.8726 |

Адсутнасьць лічбовых даных аб грашовых зваротах у коопэратыйных аб'яднаньнях не дае магчымасьці гаварыць аб адноснай вазе прыватнага гандлю ў раёне. Наогул-жа трэба адзначыць недахоп зваротнага капіталу ў спажывецка-коопэрацыйных аб'яднаньнях, што вельмі шкадліва адбівалася і на хлебазагатоўках.

Гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў у раёне ёсьць тры 3-га разр. з зваротам 13.500 руб. і 8 дзяржаўных 4 разр. з зваротам 60.300 руб.

*Прамысловасьць.* Дзяржаўная прамысловасьць у раёне зусім ня разьвіта з тае прычыны, што на тэрыторыі раёну распаложаны акруговы горад Барысаў, дзе і сконцэнтравана ўся дзяржаўная прамысловасьць.

Прамысловых і саматужна-рамесьніцкіх прадпрыемстваў на тэрыторыі раёну налічваецца 132. Па роду прадпрыемстваў разьмяркоўваюцца яны наступным чынам:

| Назва прадпрыемстваў | Лік | Выраб за год | Назва прадпрыемстваў | Лік |
|---|---|---|---|---|
| Лесапільных фабрык . | 1 | не працуе | Кузьняў . . . . | 61 |
| Млыноў: з мэханічнымі рухавікамі | 6 | | Шавецкіх майстэрань . | 3 |
| " вадзяных . | 18 | 1.148.085 п. | Сталярных майстэрань . | 4 |
| Смалакураных заводаў . | 14 | | Ганчарных заводаў . | 3 |
| Сукнавалень . . . | 4 | 54.000 ар. | Чарапічна-бэтонных заводаў . . . | 1 |
| Лесапілак пры млынох і сукнавальнях. . | 10 | | | |
| Маслабоек . . . | 2 | | | |
| Цагельных заводаў . | 5 | 1.150.000 | | |
| | | | Усяго . | 132 |

Лесапільная фабрыка ў Навасёлках давала электрычную энэргію для вёскі Навасёлак, але ў апошнія гады зусім не працавала з прычыны неабходнасьці капітальнага рэмонту, дзеля чаго патрэбна затрата значных сродкаў. Фабрыка зараз здана ў арэнду на 6 год з умовай належнага яе абсталяваньня.

На мінэральныя выкапні раён не багаты. Ёсьць залежы гліны, што дае магчымасьць павялічыць лік цагелень і ганчарных фабрык. Мала дасьледваны тарфяныя багацьці. Забясьпечанасьць насельніцтва дрэвам яшчэ ня высоўвала востра пытаньня аб выкарыстоўваньні залежаў торфу. Бязумоўна, што ў будучым гэта пытаньне стане больш актуальным.

Каля в. Лаўніца Азьдзяціцкага с.с. у 40-х гадох мінулага сталецьця існавала чыгунна-плавільная фабрыка і ў аколіцах здабывалася жалезная руда. Колькасьць жалезнай руды ў раёне і каштоўнасьць яе яшчэ ня вывучаны.






Зьм. Ів. Даўгяла.

# Сьвіслацкі замак у 1560 г.

Каля ўтоку ракі Сьвіслачы ў Бярозу, з няведамага часу [1]), існаваў моцны замак.

Палажэньне гэтага замку вызначана ў інвэнтары 1560 г. такім чынам: „На горе высокой, над рекою Свислочю, на одно стрелбище з лука от усьтя тое реки у Березину“.

Гэта азначэньне надзвычайна добра асьвятляе месцазнаходжаньне замку. Тая самая гара, якая ёсьць у сучасны момант, была забудована ў XVI сталецьці замкам. Апошні займаў усю гару, якая падыходзіла да ўтоку р. Сьвіслачы на 50—60 сажняў.

Ужо самая гара „высокая“ рабіла замак умацаваным. Але, апроч прыродных умоў, над гэтым умацаваньнем добра папрацавалі людзі. З трох бакоў быў зроблены „перакоп“, або роў. У вызначаны час (1560 г.), праўда, роў гэты быў ужо „няглыбокі“. Перакопу ня было зусім ад ракі Сьвіслачы.

Трапіць у замак можна было толькі праз мост, які быў зроблены праз роў і злучаў места з замкам.

Мост быў узводны. Падымаўся на ланцугох. Пад гэтым мастом была зроблена асобная яма, каб павялічаць умацаваньне подступу да замку.

Каля самога мосту знаходзілася „варотная вежа“, праз якую і быў уваход у Сьвіслацкі замак.

Апроч гэтае галоўнае вежы, было пабудована 4 іншых, і, такім чынам, замак меў усяго 5 веж, лічачы з варотнай вежаю. Усе яны былі драўляныя і досыць высокія, бо аб іх сказана ў інвэнтары 1560 году, што яны былі „о чотырех помостех“, гэта значыць—аб чатырох паверхах. Лічачы вышыню кожнага, прыблізна, у 1½-2 сажні, можна праўдападобна зазначыць вышыню кожнае 7½—8 саж.

Паміж вежамі быў пастаўлены паркан або тын, з тоўстага бярвеньня. Бярвеньне звычайна ўжывалася дубовае. Над зямлёй яно ўзвышалася ня меней, як сажні на тры.

У інвэнтары 1560 году пералічаны гарадні („огородні“) паміж паасобнымі вежамі. Пералік гэты цікавы таму, што дае мажлівасьць устанавіць даўжыню паркану (сьцяны) наўкола замку.

Пералік вядзецца ад „воротнае вежы, увашэдшы в замок по левой

[1]) Можна думаць, што Сьвіслацкі замак быў забудованы драўляным умацаваньнем толькі ў першай чвэрці XVI ст., паміж 1511—1577 г. г., калі старастай Сьвіслацкім быў Рыгор Ісаевіч Грамыка (інв. 1560 г. л. 2). У энцыклёпэдыі Брокгауза і Эфрона чамусьці паказана, што Сьвіслацкі замак пабудаваны ў 1510 г.

стороне“. Ад „варотнае вежы“ да вежы другое—10 гарадзён. Далей была другая вежа. Але ў 1560 годзе на месцы апошняй ужо знаходзілася царква; „тую вежу князь Ковельский за держанья своего скинул и на том местцу церков поставил, которая обороной быти не може; потреба знов вежу поставити“.

Ад другое названае вежы ішлі шэсьць гарадзён да трэцяй ве-




жы і за ёй зноў шэсьць гарадзён да чацьвертай вежы, ад яе-ж чатыры гарадні да пятай вежы і затым тры гарадні да „вежы варотнай“.

Прыведзеныя даныя дазваляюць зрабіць малюнак замку Сьвіслацкага з надворнага боку і нават прыблізна падлічыць даўжыню лініі наўкола замку, якая стваралася вежамі і парканам.

Вежы і паркан былі пабудованы па краі высокае гары, якая з усіх бакоў стромка падымалася ад дну рову да падвалін сьцяны. Раскінутыя на працягу сьцяны чатырох-павярховыя вежы, хаця і драўляныя, давалі замку добрае ўзмацненьне і арыгінальны выгляд сваёй архітэктурай і байніцамі.

Паміж вежамі ішоў шчыльны паркан з драўляных брусоў, завостраных зьверху. Па прыкладу іншых драўляных замкаў (як, напр., Полацкі, або Сокал, Сітна, Туроўля, Казьяны і іншых таго часу беларускіх замкаў) кожная „гарадня" была працягам 3-4 сажні. Такім чынам, даўжыня паркану паміж башнямі была наступная:

| Азначэньне веж | Лік гарадзён | Даўжыня кожнае гародні | Даўжыня паркану |
|---|---|---|---|
| | | Сажні | |
| Ад 1 варотнай—да 2 вежы . | 10 | 3 | 30 |
| „ 2 вежы „ 3 „ | 6 | 3 | 18 |
| „ 3 „ „ 4 „ | 7 | 3 | 21 |
| „ 4 „ „ 5 „ | 6 | 3 | 15 |
| „ 5 „ „ 1 „ | 4 | 3 | 12 |
| Разам . . | 33 | 3 | 99 |

Кожная башня (вежа) рабілася звычайна ў квадратнай а таксама і другое формы. Рабіліся башні акруглыя, 4, 6, 8 кутовыя. У сярэднім даўжыню кожнае трэба лічыць 5—8 сажняў, чаму даўжыня ўсіх пяцёх веж будзе каля 25 саж.

Уся агулам даўжыня замкавага ацыркляваньня будзе (99+25) ня менш 125 сажняў [1]).

Хто-ж будаваў гэтыя вежы і паркан?

Выключна сяляне Сьвіслацкае воласьці і прылеглых да яе прыватна-ўласьніцкіх маёнткаў.

Аб гэтым у інвэнтары Сьвіслацкага замку 1560 г. мы сустракаем наступнае:

Вежу варотную будавалі сяляне в. Горкі і сьвіслацкія мяшчане.
Гарадню 1-ю ўся воласьць Сьвіслацкая.
„ 2 і 3 сяляне в. Колбча.
„ 4 „ в. Пагарэльскае.
„ 5 і 6 „ в. Гарадзея.
„ 7 „ в. Бацэвічы.
„ 8 „ в. Балотча.
„ 9 „ в. Лешчынскае.
„ 10 „ в. Пагарэльскае.
Вежу другую „ вв. Ачыскі і Усохі.
Гарадню 11 „ в. Баратычы.
„ 12—13 „ вв. Задобрыньне і Каменічы.
„ 14 „ в. Багушэвічы.
„ 15 „ в. Яншыцы.
„ 16 „ в. Суціна.
Вежу трэцьцюю „ вв. Бродзец і Максімаўка.

[1]) Нажаль, мы ня маем памераў замкавае гары ў Сьвіслачы хаця-б у нашы часы. Паколькі і даўжыня гарадзён і памеры вежаў ня маюць у інвэнтары сьцісла вызначаных разьлік, трэба ведаць добра агульную плошчу гэтае гары, каб даць больш дакладныя лічбы.

| | | |
|---|---|---|
| Гарадню 17—18 | „ | в. Божын і Нягонічы. |
| „ 19—20 | „ | в. Астроў. |
| „ 21—23 | „ | в. Грава, Лапічы, Вязьзе, Верайцы, Ізбарск і Цэляны. |
| Вежу чацьвертую | „ | в. Тамілавічы і Цэляны. |
| Гарадню 24 | „ | в. Шэйпічы. |
| „ 25 | „ | в. Пруды і Шэйпічы. |
| „ 26 | „ | в. Гарожа. |
| „ 27—29 | „ | мяшчане сьвіслацкія. |
| Вежу пятую | „ | в. Брыцалавічы і Цеплухі. |
| Гарадню 30 | „ | в. Бацэвічы. |
| „ 31—33 | „ | в. Арліны. |

Кожная вёска добра ведала сваю частку. Кожны год яна павінна была рапараваць і падсыпаць гару. А праз некаторы час і зьмяняць падгніўшы паркан і будаваць вежы.

Гэта было дзяржаўнай працай. Сяляне павінны былі на сваіх конях ехаць у лес, рубаць і вывозіць бэлькі і ставіць у належным парадку будову паркану або веж.

Невялікая наогул плошча замку паміж сьцен (часта ў докумэнтах маюць пазву „астрог“) зьмяшчала невялікую колькасьць замкавых будынкаў.

Так, мы ўжо сустрэлі ў замку царкву, якая была пабудована ў пачатку XVI сталецьця, на месцы аднае башні.

Апроч царквы, у 1560 годзе ў Сьвіслацкім замку інвэнтар пералічвае:

1) невялічкі дамок, з цесанага дрэва, крыты драніцамі. Ён пабудаваны на правай руцэ пры ўваходзе ў замак каля „варотнае вежы“. У гэтым доме—дьзве сьвятліцы, пабудованыя адна насупроць другой з сенямі паміж імі.

2) другі дом, ужо стары і забурыўшыся.

Апроч гэтых жылых будынкаў, у замку знаходзіліся тры клеці і дзьве невялікія „піўніцы“, зробленыя з дрэва. „Піўніцай“ называўся склеп (расійскае—„погреб“, подвал): звычайна ў замковай „піўніцы“ захоўваўся порах. Кажучы інакш—гэта былі два „парахавыя скляпы“.

У інвэнтары 1560 году пералічана ўзбраеньне, або „стрэльба замковая“, якая мелася ў той час. Было яно досьць слабое.

*Гармата* („пушка“) адна, жалезная, старая, невялічкая.

*Гакоўніц* (старасьвецкія доўгія ружжы) 22, з якіх 15 новых. Да іх былі падстаўкі, кулі сьвінцовыя, усяго 4 капы, і „парахаўніцы“—8.

*Аркабузаў* („мортыры“, пасаджаныя на лафэты)—7.

*Ручніц* (ружжо з кароткім, але досыць шырокім дулам, якое звычайна ўжывалі для нашэньня на сабе), усяго 3.

*Пораху* ўсяго каля 1½ пудоў і волава, з якога вылівалі кулі, каля 30 фунтаў.

Ня гледзячы на такі мізэрны вайсковы інвэнтар, у 1560 у замку быў пушкар—немец, які знаходзіўся на ўтрыманьні дзяржавы. Абавязак пушкара ў інвэнтары 1560 г. вызначаны так: „Повинен тот пушкар на том замку господарском службу пушкарскую служити и стрелбы доглядати и што бы невеликого, слесарской работе належачого, зопсовало, поправовати. А над то в кождый год по 60 фунтов пороху з своее салетры мает на замок давати“.

Усё насельніцтва места і воласьці Сьвіслацкае было досыць моцна прывязана да замку, апроч клопатаў аб яго будове, яшчэ і старо-

жай або вартай у ім. „На клікане,—чытаем у інвэнтары 1560 г.,—и на иные замковые потребы поставлена сторожа замковая на волости, чергою; на кожды тыдень по девети чоловеков, а з места один чоловек".

У заключэньні трэба зазначыць, што ўжо ў 1560 г. Сьвіслацкі замак знаходзіўся ў значным заняпадзе. Так, гарадня (вызначаная намі вышэй пад № 25) была не пабудована; замест вежы (№ 2), была пабудована царква, а „вежа варотная" была недароблена і ў такім стане згніла і пад'езд у замак быў зусім неагледжаны—не іcнавала „ўзводнага мосту".

Вышэйпаданыя зьвесткі ўзяты намі з інвэнтару Сьвіслацкае валасьці за 1560 г., які знаходзіцца ў Інстытуце Беларускае Культуры [1]. Больш старых зьвестак аб Сьвіслацкім замку ў нас няма. У гістарычнай літаратуры вядома толькі было дагэтуль, што Сьвіслач у XIV стал. ўваходзіла ў склад Менскага княства, што там быў свой князь Сьвіслацкі, сын унука Гэдымінавага—Сямён Яўнутавіч і што ў 1387 г. Сьвіслач, сумесна з Менскам, Лагойскам, Прапойскам, Рачыцай і інш., перайшла ў уладаньне Скірыгайла Альгердавіча [2].

[1]) Мае быць цалкам надрукаваны ў адным з томаў „Беларускага Архіву".
[2]) Narbut, Dzieje nar. lit. t. IV. Skarbiec dyplomatów—Danilowicza t. I, № 542.






# Вывучэньне культурнага стану краю.

*(З досьледу Віцебшчыны).*

У краі можна вывучаць культуру вясковай або іншай насельнасьці, стан навучальных установ і асьветы наогул, стан навуковых і краязнаўчых інстытуцый, колькасьць і стан навуковых працаўнікоў і г. д.

У даным выпадку нас якраз цікавіць вывучэньне колькасьці і якасьці навукова-краязнаўчых працаўнікоў краю як у гістарычнай пэрспэктыве, так і ў сучаснасьці. Немагчыма гаварыць аб культурным стане краю, ня ведаючы тварцоў і пашыральнікаў гэтай культуры, іх росту, уплываў на іх у залежнасьці ад соцыяльна-экономічнага стану краю і да т. п. [1]). Разам з тым, неабходна добра ведаць, што ўнесена мясцовымі навукова-краязнаўчымі сіламі ў мясцовую і агульна-нацыянальную культуру з свайго-ж краю, што імі ўнесена ў мясцовую культуру з іншых дасягненьняў і інш. Праца такога парадку ў нас яшчэ не пачыналася, калі ня лічыць першых спроб на Віцебшчыне. У нас няма асноўнага падліку навуковых сіл нават у агульна-нацыянальным маштабе. Гэта вялікая праца на чарзе. Выкананьню яе да рэволюцыі перашкаджала адсутнасьць беларускае савецкае дзяржаўнасьці, а пасьля здабыцьця яе прыходзілася галоўную ўвагу зварачаць на іншыя першачарговыя задачы.

З утварэньнем савецкага сталічнага цэнтру ў Менску шэраг навуковых сіл пачаў прыцягвацца ім да сябе, а некаторыя працаўнікі цэнтру апыналіся на мясцох, уносячы туды пэўную своеасаблівасьць. Вось трэба пасьпяшыць зафіксаваць і гэтую зьменнасьць.

Праца па дасьледваньні навукова-культурных сіл краю, як і ўсякая краязнаўчая праца, складаецца з зьбіраньня матар'ялаў, іх клясыфікацыі і апрацоўкі і абагульненьняў з вывадамі.

Зьбіраць матар'ял трэба аб усіх культурных дзеячох краю: 1) тых, што радзіліся і працавалі ўвесь час у даным краі, 2) тых, што радзіліся ў даным краі і далі шмат каштоўнага агульнанацыянальнай ці іншай культуры; 3) тых, што радзіліся ў іншых краёх, але працавалі ў даным краі; 4) тых, што і не радзіліся і не працавалі ў даным краі, але вывучалі яго, напр., па архіўных, музэйных і інш. крыніцах. Пры гэтым ня трэба забывацца, што трэба зьбіраць матар'ял аб усіх культурных дзеячох: малых і вялікіх, самавуках і вучоных. Венгераў у сваёй працы [2]) сьцьвярджае гэту думку наступным запытаньнем: „Что

[1]) Пар. И. С. Абрамов. О биографическом словаре русских краеведов. „Краеведение“ № 1 за 1926 г., ст. 44.

[2]) Венгеров. Критико-биографический словарь русских писателей и ученых. Пгр. 1915.

бы вы сказали о зоологе и биологе, который законы жизни будет изучать на слонах, тиграх, львах и медведях, пренебрегая зайцами, кроликами; что бы вы сказали о ботанике, который будет устанавливать морфологию и физиологию растений из наблюдений над дубом и кедром и сочтет себя в праве пренебрегать кустарниковыми растениями и другими". Зразумела, што такі падыход быў-бы ненавуковы.

У пачатку працы трэба зарэгістраваць об'екты вывучэньня. Гэта першапачатковая праца можа адбыцца ў форме звычайных запісаў, а яшчэ лепш у форме картатэкі.

Запіс дзеяча, які радзіўся і працаваў у даным краі, будзе розьніцца ад іншых толькі зьместам, як, напр.:

*Сухарукаў,* Мікалай Стахіевіч (1888)—культурна-нацыянальны працаўнік. Радзіўся ў Бешанкавічах на Віцебшчыне. Працуе ў Віцебшчыне. Асьвету атрымаў у Віцебскай гімназіі (паміж іншым, у Нікіфароўскага і Сапунова) і Пецярбурскім Унівэрсытэце. Організаваў беларускія вайсковыя гурткі, працаваў у бежанскім Камітэце, удзельнічаў у беларускіх зьездах. У 1923 г. ў Віцебску выступаў на розных сходах з довадамі неабходнасьці далучэньня Усходняй Беларусі да Цэнтральнай і актыўна організаваў грамадзкую думку ў гэтым кірунку і праз друк.

Або:

*Іваньковіч,* Міхал Ільліч (1888)—журналісты. Радзіўся ў Полацку ў беднай сям'і. З малых гадоў працаваў у маляра, на заводзе, у друкарні. Асьвету атрымаў хатнюю; наведваў рыскую нядзельную школу; працаваў у гуртку самаадукацыі. У 1909 годзе быў западозраны ў выданьні нелегальнага часопісу, быў арыштаваны, сядзеў у розных турмах, а пасьля сасланы пад нагляд паліцыі ў гор. Сянно. З красавіка 1918 да лістапада 1922 году рэдагаваў сеньненскую павятовую газэту, а з красавіка 1923 году да жніўня 1925—рэдагаваў віцебскую губэрскую, а пасьля акруговую газэту. З жніўня 1925 г.—працаваў у рэдакцыі „Звезды", зараз намесьнік рэдактара „Беларускай Вёскі". Друкавацца пачаў у „Молодых порывах" (Растоў н/Доне), а потым зьмяшчаў свае працы ў мясцовых і інш. газэтах: „Красной печати", „Журналисте" і інш. Псэўдонімы: „Горны", „Эм Гор".

А вось першапачатковая нататка аб ураджэнцы іншага краю, але працаўніку данага:

*Супінскі,* Антось Казіміравіч (1896)—гісторык-краязнаўца. Радзіўся ў Піншчыне, скончыў Настаўніцкі і Археолёгічны Інстытут; з пачатку імпэрыялістычнай вайны на Віцебшчыне. Прымаў актыўны ўдзел у мясцовай краязнаўчай працы: раскопках курганаў ля Лятох, як організатар, дасьледваньні месца знаходкі косьці мамонта ў Бешанкавіцкім раёне, як кіраўнік, абсьледваньні падзямельля б. Фарнага касьцёлу і г. д., а таксама ў працы мясцовага т-ва краязнаўства. Друкаваўся ў „Віцебшчыне" і ў мясцовых газэтах.

Таксама ня будзе надворнай розьніцы ў двох натаках аб дзеячох розных галін навукі, напр., аб прыродазнаўцу і архіўным дзеячу, пастаўленых побач:

*Усьпенскі,* Сяргей Мікалаевіч (1883)—сьветазнаўца. Скончыў Пецярбурскі Унівэрсытэт. З 1912 г. на Віцебшчыне, як настаўнік і актыўны популярызатар сьветазнаўчых ведаў шляхам лекцый, організацыі нагляданьняў, газэтных артыкулаў і інш. У 1914 г. зрабіў з вучнямі экскурсію ў Дзьвінск для нагляданьня поўнага сонечнага зацьменьня 8 жніўня. З прычыны гэтага выдаў у Віцебску брошуру „Что такое солнечное затмение и отчего оно происходит". З 1924 г. кіраўнік сэк-

цыі сьветазнаўства мясцовага т-ва краязнаўства. Апрача гэтага, С. М. цікавіцца і вывучае старасьветчыну Віцебшчыны, прымаў удзел у раскопках ля Бальшых Летцаў у 1914 г. У гэтым-жа годзе арганізаваў экскурсію для гістарычна-географічнага вывучэньня Дзьвіны, што прыпынілася ў Полацку з прычыны вайны.

*Ясенеў,* Алесь Мікалаевіч (1882—1927)—гісторык, архіўны дзеяч. Скончыў Пецярбурскі Гістарычна-філёлёгічны Інстытут і Маскоўскі і Пецярбурскі Археолёгічныя Інстытуты з годнасьцю сапраўднага члена іх і вучонага археолёга. З 1925 г. на Віцебшчыне ў якасьці навуковага супрацоўніка мясцовага архіву. Мае наступныя працы: „Віцебскія архівы і іх значэньне для гісторыі Беларусі“, „Старадаўны Віцебск на падставах летапісу“, „Паказчык Віцебскага Аддзяленьня Цэнтраархіву“, „Картатэка Віцебскага архіву“, розныя інструкцыі, газэтныя артыкулы і інш.

У адных з гэтых першапачатковых нататак могуць быць меншыя, у другіх большыя біографічныя даныя; у адных можа быць паказаньне на рукапісы ці друкаваныя працы, у другіх—не, як, напр.:

*Сушынскі,* Язэп Францавіч (1885)—беларускі дзеяч. Радзіўся ў Юранах б. Віцебскай губ. Скончыў Пецярбурскую гімназію і Унівэрсытэт. Чыннасьць сваю пачаў як член гуртка беларускай моладзі ў 1905 г. ў Пецярбурзе. З 1906 г. прымаў удзел у арганізацыі і працы суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца“, а з 1912 г. быў намесьнікам старшыні яе. Удзельнічаў у першай этнографічнай вечарыне народнасьцяй б. Расіі 14 студзеня 1910 г. і ў тым-жа годзе быў першым лектарам на беларускай мове па прыродазнаўству для рабочых-беларусаў у Пецярбурзе. У 1912 г. там-жа арганізавалася першая студэнцкая беларуская каса, першым старшынёй якой быў Яз. Ф. У 1906 і 7 г.г. працаваў па заданьнях Бел. Соц. Грамады і ў 1907 г. ў яго паліцыя знайшла некалькі тысяч экз. нелегальнай літаратуры: „Куды ідуць мужыцкія грошы“, „Што такое свабода“, „Хрэст на свабоду“ і інш. За гэта Я. Ф. быў засуджаны на год крэпасьці. З 1917 да 1921 году працаваў на Віцебшчыне, як нацыянальна-рэволюцыйны дзеяч, а пасьля—у Менску і з 1924 г.—у Магілеве, як інспэктар нар. асьветы.

Гэта якраз і сьведчыць аб тым, што гэта першапачатковыя нататкі. Большы лік тых ці іншых вестак пераводзіць нататку ў больш каштоўны матар'ял, што, напр., відаць з наступных чатырох заметак:

*Васілеўскі,* Даніла Мінавіч (1889)—краязнаўца-гісторык. Асьвету атрымаў у Вобаль-Ануфраўскай другакляснай школе, Полацкай Настаўніцкай сэмінарыі і Віцебскім Настаўніцкім Інстытуце. У 1907 г. ўпяршыню пачаў чытаць беларускую літаратуру, што сэмінарыстыя набывалі ў полацкім кніжным магазыне Гофэн-Шэфэра. У 1909 г. разам з іншымі таварышамі-сэмінарыстымі ўвайшоў у гурток „Вестника Знания“, што знаходзіўся пад уплывам народніцтва і соцыял-дэмократаў і складаўся з вучняў і рабочых і служачых Полацкага віннага складу. З 1910 г. пачаў зьбіраць фольклёр у Старыцы Мікалаеўскай воласьці, Полацкага пав. і адсылаў яго інспэктару народных вучылішч 3 вучастка Віцебскай губ. Будучы студэнтам Віцебскага Настаўніцкага Інстытуту, Д. М. пасылаў допісы ў „Школу и Жизнь“ пад псэўдонімам М. Дабраведаўскага і ў „Нашу Ніву“—пад імем Шчырага, Вітэня і сваёй уласнай фаміліяй. Супрацоўнічаў і ў мясцовых віцебскіх выданьнях, як „Придвинский Край“ і інш. Тады-ж прымаў удзел у працы настаўніцкага таварыства ўзаемадапамогі і ў культасьветным „Образование“, што было хутка зачынена губарнатарам. У 1914-15 г.г. выкладаў у

школе „О-ва трудовой помощи“, дзе пачаў знаёміць моладзь з беларускай літаратурай. З пачатку рэволюцыі працаваў у розных установах Полацку, а з 1919 г.—на Віцебшчыне інструктарам школ і інш. У 1923 г. з‘організаваў Віцебскае Губэрскае Бюро Краязнаўства, што апіралася на Губ. Аддзел Асьветы, было зьвязана з Інбелкультам і ставіла мэтаю вывучэньне Віцебшчыны. Д. М. друкаваўся ў часопісах „Полымі“, „Нашым Краі“ і газэтах „Савецкай Беларусі“ і інш. З 1924 г. Д. М. працуе на Аршаншчыне.

*Красьнянскі,* Уладзімер Гаўрылавіч (1863)—гісторык. Скончыў Пецярбурскі Гістарычна-Філёлёгічны Інстытут. Краязнаўчую працу пачаў удзелам у курганавых раскопках у 1890 г. ў Эсьманах б. Барысаўскага павету, якія рабіў Авенарыус, а сыстэматычна пачаў весьці яе з 1900 г. пад уплывам атрыманай асьветы і часткова асабовага знаёмства з іншымі краязнаўцамі: А. П. Авенарыусам (Беласток), Е. Ф. Арлоўскім (Горадня), А. П. Смародзкім (Менск), І. Я. Строгісам, Ф. Н. Дабранскім, А. В. Бялецкім (Вільня) і С. Каладзенвым (Нова-Барысаў) і іншымі. З 1911 г. на Віцебшчыне як дырэктар мясцовага рэальнага вучылішча, а з 1920 г.—музэйны дзеяч. З краязнаўчых прац Ул. Г. мясцовае значэньне маюць: „Музэйныя помнікі старадаўніх віцебскіх рамесьніцкіх організацый“ („Віцебшчына“, 1), „Кніга прывілеяў м. Віцебску“ (Ibidem), „Витебск в 1812 г. по запискам Витебского интенданта Маркиза Пасторе“ [„Витебский Вестник“ за 1912 г.], „Витебское реальное училище“ („Полоцко-Витебская старина“), „Систематический каталог музейного фонда быв. музея В. П. Федоровича“, „Систематический каталог музейных фондов Витебского церк.-археологического древнехранилища и быв. музея б. Витебской Ученой Архивной Комиссии“, „История музейного строительства в Витебске и современное его состояние“, „Экономическое состояние Витебска в 1606 г. по данным ведомости Витебской таможенной заставы за этот год“, „Борьба гор. Витебска за свободу и самобытность“ (гіст. нарыс.), „Старый Витебск“ (гіст.-топограф. нарыс). Аб працах У. Г. друкавалася ў „Новом Времени“, „Историческом Вестнике“, „Kraj‘ю“, “Tygodnik‘ у Historyčnу‘м“, „Виленском Вестнике“ „Могилевском Вестнике“ і інш.

*Мельнікава,* Мар‘я Андрэеўна (1855)—вучоны архівісты. Скончыла Жаночы Пэдагогічны Інстытут, Архэолёгічны Інстытут і слухала курс на Вышэйшых (Бястужаўскіх) Жаночых Курсах. На Віцебшчыне з 1896 г. Дзейнасьць сваю пачала з выкладаньня ў Полацкім жаночым вучылішчы духоўнага ведамства ў Віцебску, дзе пад уплывам запыту Акадэміі Навук зрабіла спробу сабраць слоўнічак мясцовай мовы пры пасярэдніцтве больш здольных вучаніц, якая ўсё-ж не ўдалася. М. А. была актыўным членам „О-ва попечения о детях“, а з 1911 г.—членам мясцовай Вучонай Архіўнай Камісіі, дзе займалася чужаземным аддзелам бібліотэкі, а пасьля хаваўцай архіву; зараз яна член мясцовага т-ва краязнаўства. З прац М. А. трэба адзначыць: „Слово правды гр. Л. Н. Толстому“ („Витебские Ведомости“ № 190 за 1908 г.), „Материалы для истории войны 1812 г.“ („Витебская“ і „Полоцка-Витебская Старина“ вып. І, ІІ. ІІІ.), „Памятники 1812 и 1836 г.“ („Витебская Старина“, 1), „Завещание княжны Лович и монастырь мариавиток“, тэатральныя рэцэнзіі ў „Витебских Ведомостях“ за 1903, 1907, 1908, 1913 і 1915 г. і музыкальныя рэцэнзіі ў „Витебской Мысли“ за 1914 г.

*Нікольскі,* Леанід Зьмітравіч (1876)—ботанік і архэолёг. Скончыў Віцебскую Духоўную Сэмінарыю і Кіеўскую Духоўную Акадэмію. У 1903, 1911 і 1912 г. г. езьдзіў на Балканскую поўвыспу для выву-

чэньня старадаўніх фрэскавых сьценапісаў Афона, Константынопаля і Старой Сэрбіі. Вынікам паездак зьявіліся выданьні—„Афонские стенописи, ч. 1“, „Исторический очерк афонской стенной живописи“, СПБ, 1908, 122 ст., тое-ж, ч. II, „Технические приемы афонских стенописцев и образцы их искусства“ СПБ, 1908, 162 ст. і альбом В. Т. Георгіеўскага „Фрески Панселина“. За іх Л. З. быў абраны сапраўдным членам Расійскага Архэолёгічнага Т-ва і Кіеўскага Архэолёгічнага і Гістарычнага Т-ва. З мясцовых помнікаў старасьветчыны Л. З. навукова і дэталёва сфотографаваў сьценапіс Троіцкай царквы Маркава манастыра і Троіцкую царкву на Пескаваціку. Як выкладчык прыродазнаўства, Л. З. вывучаў мясцовую прыроду. Вынікам гэтага зьявілася колекцыя казюлек і жывы гэрбар (зельнік) у батанічным садзе Вэтінстытуту, што мае звыш 1.200 відаў расьлін—мясцовых і чужаземных. Аб садзе і працы Л. З. друкавалася ў „Віцебшчыне“, в. 1, „Заре Запада“ за 1926 г., „Живой Природе“ за 1926 г. і інш.

Прымаючы пад увагу, што большасьць вестак усё-ж павінна складацца з даных аб дзейнасьці ў даным і аб даным краі, неабходна падкрэсьліваць значэньне дзеяча ў агульна-нацыянальнай і інш. культуры, як, напр.:

*Адамаў,* Уладзімер Уладзімеравіч (1875)—ботанік. Першапачатковую асьвету атрымаў у Віцебшчыне, дзе і радзіўся, а потым у Пецярбурскім Унівэрсытэце ў лепшых профэсароў: Бекетава, Гобі, Генкеля і інш., дзе і працаваў пасьля сканчэньня навукі больш 10 год у Ботанічным габінэце. *Організаваў шэраг садоў у Цьвярской, Курскай, Пецярбурскай і інш. губ.,* а з 1903 г. Большалетчанскі Ботанічны Сад, што належаў Міністэрству Земляробства, розным установам і вышэйшым школам, а ў апошні час—Інбелкульту. Пачатак ботанічных колекцый гэтага саду складаўся з расьлін, атрыманых з Пецярбурскага ботсаду, палеолёгічнага саду Рэгеля, шмат якіх садоў б. Расіі, Нямеччыны і Францыі, а далей сад папаўняўся і папаўняецца ў парадку абмену. *Ул. Ул. працаваў, апрача таго, у розных мясцох за межамі б. Расіі,* а ў 1918 г. прымаў удзел у організацыі Віцебскага Ботанічнага Саду (уласнасьць Вэтінстытуту] і заснаваў Віцебскі ботанічны сад б. Пэдагогічнага Інстытуту; зараз навуковая дзейнасьць гэтага саду спынена. Ул. Ул. выкладаў у Віцебскіх: Політэхнікуме, Сельгасптэхнікуме, Сельгаспінстытуце, Практычным Пэдінстытуце і інш. навучальных установах, а пасьля выкладчыкам Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту Сельскай і Лясной Гаспадаркі і доцэнтам Сельгаспакадэміі (Горкі). Зараз працуе ў розных установах Менску па сваёй спэцыяльнасьці. З прац Ул. Ул. агульна-нацыянальнага значэньня мясцовы характар маюць: „Працы экспэдыцыі па вывучэньні сенажацяй ля прытокаў Дзьвіны—Лучосы і Чарніцы“, „Каталёг расьлін Большалетчынскага Ботанічнага Саду“ № 1 і № 2, „Нарыс флёры паўночнай часткі Мазырскага Палесься“ і інш. Аб Ул. Ул. успамінаецца ў „Dor flor's Botaniker Adressbuch“ 1909 і інш. спэцыяльных выданьнях.

*Даўгяла,* Зьмітра Іванавіч (1871)—гісторык і архэолёг. Радзіўся ў Казьянах Гарадоцкага раёну, дзе і скончыў двухклясную школу, а потым Віцебскую Духоўную Сэмінарыю і Пецярбурскую Духоўную Акадэмію. У 1893-4 г. слухаў курс у Архэолёгічным Інстытуце. З 1894 г. да 1903 г. працаваў у Віцебску ў якасьці настаўніка па гісторыі, загадчыка Віцебскага Цэнтральнага Архіву і ахоўцы Віцебскага дрэўняхавалішча. Пасьля, з 1903 да 1915 г. працаваў у Вільні і з 1915 г. да 1925 г.—у Магілеве, а з 1925 г.—у Менску. Навуковую

працу пачаў у 1893 г. працаю „Лісоўскі і беларуская уніяцкая царква“ на аснове матар‘ялаў віцебскіх архіваў, Тадулінскага манастыра і пецярбурскіх. Сярод выданых навуковых прац агульнанацыянальнага значэньня З. І. ёсьць шмат прац мясцовага краязнаўчага значэньня, як: „Марковские гайдамаки“, Віцебск, 1896, 8⁰ 48 стар.; „Описание Витебского церк.-археологического древнехранилища“, вып. 1, Витебск, 1897, 8⁰ 160 стар.; „Материалы для истории местной Витебской прессы“, Віцебск, 1899, 16⁰ 82 стар.; „Никольская церковь в Задвинской слободке м. Бешенкович“, Віебск, 1899, 8⁰ 23 стар.; „Віцебская Духовная Семинария 1806—1906. Заметки и воспоминания“, Віцебск, 1907, 8⁰ IV+84 стар., „Историко-юридические материалы“ і іншыя як паасобнымі выданьнямі, так і ў мясцовым пэрыодычным друку, а таксама ў рукапісах. З 1910 да 1915 г. З. І. рэдагаваў „Записки Северо-Западного Отдела Русского Географического О-ва“, якіх вышла 4 кніжкі. Апрача іх, *З. І. мае, як ужо ўспаміналася, шмат друкаваных орыгінальных прац іншага краёвага і агульнабеларускага маштабу.* Сам З. І. вызначае ўплыў проф. Ў. І. Ламанскага і А. П. Сапунова, пад якім склалася прыхільнасьць да працы ў вузкіх рамках гісторыі.

*Мялешка,* Міхась Вінцэсевіч [1892]—гісторык. Скончыў Археолёгічны Інстытут. З 1915 да 1922 г. актыўна працаваў у Віцебшчыне як організатар Бел. Соц. Грамады ў барацьбе з мясцовымі антыбеларускімі групоўкамі і г. д. У 1923—24 г. чытаў у Віцебскім Вышэйшым Пэдагогічным Інстытуце курс беларускай этнографіі. З 1914 г. выступае ў беларускім друку [„Наша Ніва“ № 23 за 1914 г.], усьвядоміўшы сябе беларусінам у ленінградзкім гуртку Э.-Шыпілы. З прац, *апрача агульнабеларускіх,* М. В., што адносяцца да Віцебшчыны, неабходна адзначыць: „Забытый край“ [час. „Витебский Край“ № 12—17 за 1917 г.], „Заданьні часу“ [Савец. Беларусь“ № 149 за 1921 г.], „Нашы старажытнасьці“ [„Вольны Сьцяг“ № 6 за 1921 г.], „Беларуская культурная праца ў Віцебшчыне“ [Вестник Нар. Ком. Просвещения“ № 5—6 за 1922 г.], „Паншчына на Беларусі: сялянскія бунты за прыгонам на Віцебшчыне 1832—1857“ [„Полымя“ № 4—6 за 1925 г.], „Проф. А. П. Сапуноў“ [„Зборнік Інбелкульту“], „Сялянскі рух на Віцебшчыне ў 1905 г.“ [„Полымя“ № 7-8 за 1925 г.], „Дельцы“ [Витебские Известия“ за 1917 г.] і інш. З 1922 г. М. В. працуе ў Цэнтраархіве Беларусі.

Зьбіраючы падрабязныя біографічныя весткі аб дзеячу, як продукту свайго атачэньня; дакладна дасьледуючы, што з мясцовага краю адбіта і дзе ў працах данага дзеяча; што ім унесена ў агульнанацыянальную культуру і што прынесена сваёю дзейнасьцю ў мясцовы край, а таксама адшукоўваючы пэўную сувязь паміж дзейнасьцю працаўнікоў паасобных галін ведаў *), неабходна асаблівую ўвагу зварачваць на бібліографію прац данага дзеяча. Самыя маленькія дробненькія заметкі павінны быць занатаваны, бо яны ёсьць дадзены ім краязнаўчы матар‘ял—першы этап навуковай працы. Біографія з дакладнай бібліографіяй дзеяча зьяўляецца ўжо апрацаваным матар‘ялам, які пасьля сыстэматызацыі ўсіх іншых матар‘ялаў можа заняць месца ў слоўніку дзеячоў данага краю. Ня маючы магчымасьці з-за браку месца зьмясьціць поўную біографію, усё-ж даём узор бібліографіі дзеяча пасьля біографічнай заметкі.

---

*) Пар. Фатов. „О краеведческом изучении литературы“, стар. 37. „Родной язык в школе“ № 9 за 1926 г.

*Шлюбскі,* Аляксандар Ануфрэеў. Радзіўся 4 чэрвеня [старога стылю] 1897 г. ў сяле Межава б. Полацкага павету (ад Полацку ў 60 вярстах) у бацькоў, якія адзначаліся вялікай рэлігійнасьцю; быў ахрышчаны ў праваслаўную веру і ў 12 год быў аддадзены ў духоўнае вучылішча ў Полацак, з якога праз тры гады быў звольнены за шкодны кірунак сваіх думак (афіцыяльна было адзначана—„по крайней малоуспешности"), між тым як па разрадных сьпісах, выдрукаваных у „Полацких Епархіальных Ведомостях" за папярэднія гады, быў адным з першых вучняў. Бацькі, ня гледзячы на гэта неяк ухітрыліся аддаць А.А. вучыцца далей у Віцебскае духоўнае вучылішча, пасьля сканчэньня якога, ён перайшоў у Віцебскую духоўную сэмінарыю, якую скончыў у 1917 г., ня быўшы ў двух апошніх спэцыяльна багаслоўскіх клясах. Далей у 1922 г. скончыў Маскоўскі Археолёгічны Інстытут па археографічным факультэце.



*I рад:* Сушынскі, Нікольскі
*II рад:* Усьпенскі
*III рад:* Адамаў, Даўгяла.

Бацькі А. А. па нацыянальнасьці былі беларусамі, вышаўшымі з народных сялянскіх гушчаў; роднай мовай як іх, так і А. А. была мова беларуская, але значна зрусыфікаваная. Па соцыяльным стане быцькі А. А. былі мяшчанамі (прыпісанымі да мяшчан г. Полацку), якія жылі з апрацаваньня зямлі, якую яны арандавалі.

З прычыны таго, што продкі А. А. былі прыгоннымі (ксяндза в. Гарбачэва Полацкага павету), у ліку іх няма нікога выдатнага ў галінах культурнага жыцьця, за выключэньнем брата А. А.—мастака, які загінуў у расійска-нямецкую вайну 1914—17 г. г.

Краязнаўчая дзейнасьць А. А. пачалася 23 сакавіка 1913 г., калі ён у першы раз пачаў запісваць беларускія народныя песьні ў сяле Бялынічах (у 10-ці вярстах ад Віцебску), з якога часу праца А. А. па зьбіраньні этнографічнага матар'ялу Віцебшчыны цягнулася 10 год. За гэты час ім было сабрана ў б. паветах Віцебскім, Вяліскім, Полацкім, Лепельскім, Сеньненскім і Аршанскім каля 3.000 розных відаў народнай творчасьці (песьні, казкі, загадкі, прыказкі) і вялікі лік другога фольклёрнага і бытавога матар'ялу.

Штурхачом, які пабудзіў А. А. заняцца зьбіраньнем этнографічнага матар'ялу і наогул этнографічнымі заняткамі, былі вядомыя працы віцябляніна Міколы Нікіфароўскага: „Очерки простонародного житья-бытья"... і „Простонародные приметы и поверья"... ніякіх іншых уплываў ня было, да і не магло быць, бо абкружаючыя А. А. як крэўныя (за выключэньнем брата мастака), таварышы, так і самая школа, у якой ён вучыўся, глядзелі на заняткі А. А., як не на сур'ёзную справу.

Для папулярызацыі ідэі зьбіраньня этнографічнага матар'ялу сярод слухачоў Віцебскага Аддзяленьня Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту выдаваўся па ініцыятыве А. А. і пад яго рэдакцыяй часопіс „Белорусский Этнограф“; вышла 2 нумары, надрукаваныя ў ліку 50 экз. на пішучай машынцы; выданьне спынілася з прычыны ліквідацыі Інстытуту.

Асноўныя заняткі А. А. у краязнаўстве Беларусі наогул і Віцебшчыны—у прыватнасьці займае галіна этнографіі і яе гісторыі. Жывучы на Віцебшчыне [Вяліж, Полацак, Віцебск] у 1918—1923 г., А. А. прымаў вельмі актыўны ўдзел у архіўнай працы, ім былі організаваны пры вялікіх труднасьцях [поўнай адсутнасьці грошай і іншых сродкаў наогул] два Архіўныя Аддзелы ў Вяліжы і Полацку і рабілася некалькі спроб організацыі Аддзелу ў Воршы. Дзякуючы гэтым аддзелам, захавана было шмат мясцовых архіваў; асабліва каштоўны Вяліскі Аддзел, зьмешчаны ў старадаўнім будынку, які толькі адзіны на Беларусі мае некалькі цалкам захаваных валасных архіваў з 1861 г., маючых бязумоўна юрыдычна-бытавую значнасьць; гэтая праца А. А. знайшла адбітак у яго артык. „Зьнішчэньне беларускіх архіваў на Віцебшчыне“ [„Савецкая Беларусь“, 1922, № 238].

Зараз А. А. працуе ў Інбелкульце.

*I. Сьпіс прац і газэтных артыкулаў.*

1. О собирании материалов по этнографии, „Известия Велижского Уездного Совета“. Велиж, 1919, № 138 [191].

2. Сведения по собиранию устного народного творчества в Белоруссии. Велиж, 1919, 11×19 см., 15 старонак.

3. Белоруссы, собирайте устное народное творчество, „Жизнь национальностей“. Петроград, 1920, № 5 [61].

4. Беларускі рух на Вітабшчыне, „Савецкая Беларусь“. Менск, 1921, № 252 [362]; 1922 г., № 232 [637].

5. Беларускае адраджэньне на Вітабшчыне, ibidem. 1921 г. № 267 [377].

6. Программа по собиранию сведений о религиозных верованиях белоруссов, „Белорусский Этнограф“. Витебск, 1922 г., № 1.

7. Ліст з Вітабшчыны. Беларускі тэатр у Вітабску, „Савецкая Беларусь“ 1923, № 7 [704].

8. Лёс маёнтнасьцяў Вітабскага Археолёгічнага Інстытуту, ibidem. 1923, № 13 [710].

9. Беларуская сэкцыя ў Вітабску, ibidem. 1923, № 16 [713].

10. Новыя кнігі аб Вітабшчыне [рэцэнзія], ibidem. 1923, № 27 [724]; 33 [730].

11. Вітабскія часопісы [рэцэнзія], ibidem, 1923 г. № 40 [737].

12. „Гісторыя Беларусі“ Ігнатоўскага і Альбэрт Паўловіч, ibidem. 1923, № 96 [793].

13. Зьдзекі польскіх окупантаў над беларускім сялянствам, ibidem. 1923, № 97 [794].

14. З працы этнографічнай экспэдыцыі, ibidem. № 132 [829].

15. Конфіскацыя твораў Дуніна-Марцінкевіча, ibidem. 1923 г. № 135 [832].

16. У часы польскай окупацыі, ibidem. 1923 г. № 155 [852].

17. Конфіскацыя першай беларускай часопісі „Наша Доля“, ibidem. 1923, № 159 [856].

18. Погляды царскай улады на беларускія часопісі „Наша Ніва“, „Biełarus“ і „Саха“, ibidem. 1023 г., № 165 [862].

19. Лёс бібліатэкі і архіву Сёмкава-Гарадка, ibidem. 1923, № 172 [869].

20. Новыя працы па беларускаму правазнаўству, ibidem. 1923, № 196 [893].

21. Абмылка ці шкодны погляд, ibidem. 1923 г., № 202 [899].

22. Беларусь у расійскіх навуковых выданьнях 1923 г., „Полымя“. Менск, 1923, № 7-8.

23. Навука расійская ў адносінах да Беларусі, „Радавая Рунь“. Менск, № 3-4, 1924 г.

24. Паны і сяляне ў першай палове XIX стагодзьдзя, Менск, 1924, 13×17, 23 стар.

25. Бядуля, як этнограф, „Полымя“, 1925, № 4. Гэты нарыс вышаў асобным адбіткам у ліку 100 экз.

26. Да гісторыі конфіскацыі „Нашай Нівы“, „Полымя“, 1925, № 4.

27. Да гісторыі Б. С. Р., „Полымя“, 1924, № 5

28. Матар'ялы да крыўскае гісторапісі. Доля кнігасховаў і архіваў, „Крывіч“, 1925, № 1 [9]. Гэта праца выдадзена асобным адбіткам у ліку 100 экз.

29. Матар'ялы да гісторыі крыўскай этнографіі, 1, П. Шэйн, „Крывіч“, 1925 г,. № 2 [10].

30. Крашаніна [набіванка]. Віцебск, 1926, 13×17, стар. 32.

31. „Мужыцкая Праўда“ К. Каліноўскага, „Полымя“, 1926, № 1.

32. Беларусь у расійскіх навуковых выданьнях 1924 г. „Крывіч“, 1925 г., № 1 [9].

33. Дзьве кнігі [рэцэнзія], „Маладняк“. Менск, 1926, № 11 [2].

34. І. Фурман. Крашаніна [рэцэнзія], „Голас Беларуса“. Рыга, 1926, № 23 [5].

35. Пшчолка і „Вражда из-за языка“, „Савецкая Беларусь“ № 164, 1926 г.

*II. Рэцэнзіі аб працах:*

Аб—„Беларускім Этнографу“—Сведения по собир. устн. нар. тв.“, „Беларускі Сьцяг“, Коўна, 1922, № 4, стар. 63-64. 10, 1923, стар. 178-179.

Аб—„Панох і сялянах у перш. палове XIX ст.“, „Савецкая Беларусь“, 1924, № 290 [1287]. „Крывіч“. Коўна, 1924, № 2 [8], стар. 113-144.

Аб—„Бядуле, як этнографу“. „Крывіч“, 1925, № 1, стар. 108.

Аб—„Крашаніне-набіванцы“, „Савецкая Беларусь“, 1926, № 30. „Маладняк“. Менск, 1926, № 11 [2], стар. 173—175.

*III. Справаздачы аб навуковых дакладах:*

а] *М. Мялешка*—„Куды дзявалася кніжнае і рукапіснае багацьце беларусаў“ [аб дакладзе па зьнішчэньні беларускіх рукапісаў і бібліотэк]. „Савецкая Беларусь“, 1923, № 56.

б] *Булатавец:* Аб забароне беларускага друку расійскім урадам. „Савецкая Беларусь“, 1925, № 53.

К.—Адносіны сучаснай расійскай навукі да Беларусі. „Савецкая Беларусь“, 1925, № 109.

*IV. Рукапісы, гатовыя да друку.*

1. Творчасьць Крывічоў [навукова апрацаваны зборнік матар'ялаў, які мае 2.667 нумароў розных відаў народнай творчасьці Віцебшчыны].

2. Да пытаньня аб забароне беларускага друку расійскім урадам.

3. Бібліографія беларускай этнографіі [друкуецца], мае каля 2.000 №.

4. Беларуская мова гэбрэйскай і арабскай транскрыпцыяй.

5. Програма па зьбіраньні вуснае народнае творчасьці.

6. Програма на апісаньне народнай матар'яльнай культуры [будоўля, вопратка, убраньне, ежа і піцьцё].

7. Да пытаньня аб паходжаньні назоў: „Белая Русь" і „Крывія".

8. Вынікі зьбіраньня вуснае народнае творчасьці ў паўночна-заходняй частцы Беларусі [б. Віцебская губ.].

У выпадку ўкладаньня бібліографіі жывога дзеяча трэба клапаціцца аб яе пастаянным папаўненьні.

Калі, з прычыны адсутнасьці вестак, нельга даць поўную бібліографію, можна паказаць галоўныя працы, напр., такія для заметкі аб Даўгяле:

*I. Друкаваныя працы.*

1. 1895 г. Крест Ефросинии Полоцкой. Истор.-Археол. Эскиз. Витебск, 8⁰, стар. 48.
2. 1896. Марковские гайдамаки. Исторический очерк из истории Витебского Марковского Монастыря XVIII в. Витебск, 8⁰, стар. 25.
3. 1897 г. Описание Витебского церк.-археологич. древнехранилища, Вып. I. Витебск, 8⁰, стар. 160.
4. 1898 г. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, том 27. Витебск, 5⁰, стар. XL+461.
5. 1899 г. Материалы для истории местной Витебской прессы. Витебск, 16⁰, стар. 82.
6. 1899 г. Никольская церковь в За-Двинской слободке м. Бешенковичи Леп. у. Витебск, 8⁰, стар. 23.
7. 1900 г. Историко-юридич. материалы... т. 28. Витебск, 4⁰, стар. XVI+356+167+VI.
8. 1901 г. Историко-юридич. материалы... т. 29. Витебск, 4⁰, стар. 472+68+XXXII.
9. 1902 г. Историко-юридич. материалы... т. 30, Витебск, 4⁰, стар. XI+360+164+XXXIV.
10. 1902 г. Лепельские архивы—Описание. Москва, 8⁰, стар. 46.
11. 1902 г. Полоцкая Еапрхія к 1908 году. Истор.-Статистич. Обзор. Витебск, 8⁰, стар. 160.
12. 1903 г. Истор.-юрид. материалы... т. 31. Витебск, 4⁰, стар. 440+94+XXVI.
13. 1904 г. Петр Великий в Белоруссии в 1705 г. Вильно, 8⁰, стар. 20.
14. 1905 г. Лепель, уездный город Витебской губ. Хроника. Витебск, 8⁰, стар. 205.
15. 1905 г. Археографический Сборник документов, относящихся к истории Зап. России, т. XIV. Вильна, 4⁰, стар. XI+229.

16. 1905 г. Смоленск в 1654 г. Вильно, 4⁰, стар. 40.

17. 1906 г. Историко-юридич. материалы... т. 32, Витебск, 4⁰, стр. XXIV+289+292+4.

18. 1906 г. 2] Могилев в 1577 году. Витебск, 4⁰, стр. 25.

19. 1906 г. 3] Друя—заштатный город Виленской губ. Истор.-географ. очерк. Вильно, 8⁰, стар. 41.

20. 1907 г. Радошковичи, заштатный город Виленской губ. Истор.-геогр. очерк. Вильно, 8⁰, стр. 52.

21. 1907 г. Витебская Духовная Семинария 1806—1906 г. Заметки и воспоминания. Витебск, 8⁰, стар. IV+84.

22. 1908 г. Акты Виленской Археографической Комиссии, т. 33, Вильно, 4⁰, стар. XXXIV+567.

23. 1909 г. Неменчин—местечко Виленской губернии. Истор.-геогр. очерк. Вильно, 8⁰, стар. 42.

24. 1909 г. Битва при Грюнвальде 15 июля 1410 г. Вильно, 8⁰, стар. 26.

25. З 1910 па 1915 год быў рэдактарам выданьня „Записки Северо-Западного Отдела Русского Географического О-ва“ і выдаў у 1910 годзе кніжку 1-ю—Вильна, 8⁰, стар. 268; у 1911 г. кніжку 2-ю—Вильна, 8⁰, стар. 380; у 1912 г. кніжку 3-ю—Вильна, 8⁰, стар. 397 і ў 1914 г. книжку 4-ю—Вильна, 8⁰, стр. 268, у якіх зьмясьціўгісторыю названага Аддзелу Географ. О-ва і шэраг артыкулаў па гісторыі гарадоў Беларусі.

26. 1915 г. Акты Виленской Археографической Комиссии, том 39, Вильна, 4⁰, стр. 560.

*II. Рукапісы.*

1. Новаградак—павятовы гор. б. Менскай губ. Гістарычна-географ. нарыс.

2. Монэтная справа ў Літоўска-Беларускай Дзяржаве. Гісторыя мынц на Беларусі.

3. Топографія г. Полацку.

4. Актавыя матар'ялы да гісторыі пропінацыі ў гор. Магілеве ў XVII в. і інш.

Як на дадатковую працу да ўсяго гэтага, можна паказаць на: 1) зьбіраньне і фіксаваньне твораў і кавалкаў іх, апісваючых даны край, 2] зьбіраньне фотографій, ілюстрацый мастакоў да твораў, фотографій дзеячоў і да т. п. іконаграфічнага матар'ялу; 3] укладаньне сьпісу месц, дзе знаходзіцца іконографічны і інш. матар'ял і г. д.

Увесь сабраны і апрацаваны матар'ял аб культурных сілах краю можа быць рэалізаваны ў відзе слоўніка або паасобных прац. Апрача таго, ён будзе мець і самастойнае вялікае значэньне.

Краязнаўчы рух шырака разгарнуўся, і сярод краязнаўцаў бясспрэчна знойдуцца сілы для выкананьня такой працы.



Д. Васілеўскі.

# З гісторыі Аршанскага друку.

Краязнаўчыя арганізацыі зараз старанна вывучаюць гісторыю сваіх раёнаў і акруг. Мясцовыя краязнаўчыя музэі захоўваюць у сабе найбольш цікавыя помнікі старажытнасьці і мастацтва данай мясцовасьці. Старадрукаваныя кнігі зьяўляюцца найбольш цікавымі паказчыкамі ня толькі культурных дасягненьняў роднае культуры ў даны час, але сваім зьместам сьведчаць аб барацьбе станаў, клясаў гэтае мясцовасьці, а загэтым вывучэньне гісторыі друку на Беларусі дае вельмі цікавы матар'ял для ўразуменьня ўзаемаадносін насельніцтва данага гораду ці мясцовасьці ў пэўны час гістарычнага жыцьця. Мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі праз вывучэньне гісторыі друку змогуць часткай высьветліць некаторыя куткі з мінулага сваёй акругі, а з другога боку—адшукаць вельмі каштоўны матар'ял для вывучэньня і дасьледваньня сваёй мясцовасьці.

Летам 1926 г. Аршанскае Акруговае Таварыства Краязнаўства пачало вывучаць і зьбіраць аршанскія старадрукі. Выдзеленая гісторыка-этнографічнай сэкцыяй бібліографічная камісія ў кароткі час адшукала досыць каштоўны матар'ял па гісторыі мясцовага друку, аб якім дасюль ня было пэўных вестак.

Друкарская справа на Аршаншчыне шырака разгарнулася толькі ў першай палове XVII сталецьця. Аб кнігах, якія пісаліся ў Воршы да гэтага часу, няма пэўных вестак. Так званае „Аршанскае Эвангельле“ XIV сталецьця, якое было адшукана пасьля францускай навалы ў Кутэінскім манастыры і захоўвалася ў бібліотэцы Кіеўскай духоўнай акадэміі, хутчэй за ўсё пісалася ў Смаленску, бо ў Воршы ў XIV сталецьці ня было значных асяродкаў для перапісу богамольных кніг, бо весткі аб праваслаўных манастырох у Воршы сустракаюцца толькі ў матар'ялах па гісторыі гораду з XVII сталецьця. Іншых рукапісных кніг, апрача гэтага Эвангельля, дасюль у межах сучаснай Аршаншчыны ня знойдзена. XVII сталецьце ў гісторыі Воршы адзначаецца буйным узростам каталіцкіх кляштараў і ўпартай барацьбой паміж шляхецтвам і заможнымі слаямі гораду за перамогу на ўнутраных і замежных рынках. Беларуская шляхта імкнецца падначаліць свайму ўплыву гарадзкое насельніцтва, і гарадзкія магістраты вядуць упартае змаганьне за свае прывілеі. Усё гэта адбываецца на фоне рэлігійнай барацьбы. Каталіцкія кляштары, пры падтрыманьні апалячаных магнатаў і з дапамогай каралеўскага ўраду, пачынаюць дружны націск на экономічныя інтарэсы праваслаўных царквей і мяшчанства. Гараджане даюць моцны адпор праз свае брацтвы і поплеч з каталіцкімі кляшта-

рамі ўзрастаюць праваслаўныя манастыры і пры іх брацкія школы ў Воршы, Магілеве і другіх гарадох. Фундатар беларускай лаўры ў Кутэйне, Багдан Сьцяткевіч у сваім фундашным запісу 1623 г. абавязваў манахаў Кутэінскага манастыру мець друкарню і школу. Каля 1630 году ў Кутэйне была заснавана 3-яя друкарня Сьпірыдона Собаля, мешчаніна гораду Магілеву, якая друкавала кнігі на беларускай, славянскай, польскай і лацінскай мовах. Кутэінскіх старадрукаў на польскай і лацінскай мовах да нас не дайшло. Мажліва, што іх і зусім ня было. Затое шырока разгарнуўся друк богамольных кніг на беларускай і славянскай мовах. Апрача гэтага, друкаваліся падручнікі для брацкіх школ і кнігі навучальнага зьместу для чытаньня праваслаўным парахвіянам. Рынкам для збыту кніг Аршанскае друкарні была Ўсходняя Беларусь і Масковія. Беларускія кнігі прадаваліся ў Маскве пад назовам „літовскіх". Гандаль „літоўскімі" кнігамі вёўся так шырака, што маскоўскія папы не змаглі конкураваць з беларускімі друкарамі і пачалі дамагацца ад маскоўскага цара забароны на продаж кніг беларускага друку. Такая забарона была выдадзена царскім урадам у 30-х гадох XVII сталецьця, але значнага ўплыву на пашырэньне кніг беларускага друку ў Масковіі яна не зрабіла. Кутэінскія выданьні выходзілі, пачынаючы з 1630 г. па 1654 г. у Воршы, а пазьней перадрукоўваліся ў Маскве. З аршанскіх кутэінскіх выданьняў найбольш вядомы „Часаслоў альбо шастоднеў", які вышаў першым выданьнем у 1632 г., а другім выданьнем—у 1646 г. ў аднолькавым формаце 4⁰. „Новый Завет" з „псалтыром" вытрамаў 4 выданьні—1632 г., 1642 г., 1651 г. і 1652 г. У выданьні 1642 г. ёсьць прысьвечаньне гэтага выданьня Багдану Сташкевічу ад імя першага ігумена Кутэінскіх манастыроў Іоіля Труцэвіча. „Буквар, сірэч начало учэнія детям, начынающчым чтенію ізвыкаці. У Кутэйне ізобразіся 1631 г.", 12⁰. Гэта былі найбольш пашыраныя падручнікі ў брацкіх школах. Апроч падручнікаў, друкаваліся кнігі для навучальнага чытаньня праваслаўных:

Брашна духоўнае, 1630, якое выдадзена было 2-ма выданьнямі—1630 і 1639 г.

„Дідаскалія альбо навука о седмі сакраментах"—1637, 1653 г.—другім выданьнем формату 4⁰.

„Малітвы паседнеўныя ў общую пользу сабраны і із друку выданыя ў Кутэйне 3-й друкарні Спірідона Собаля" 1631 г.

„Цветаслоў 1654 г."

„Діоптр, альбо зерцало", 1651 г., 12⁰; другое выданьне 1654 г., 4⁰.

Гэтыя кніжкі мелі на ўвазе здаволіць патрэбу беларускага насельніцтва ў ведах па рэлігійным змаганьні з каталіцтвам. Найбольш характэрнае па духу часу выданьне ў Кутэйне была *„Исторыя альбо правдивое выпісаньне сьвятога Іоана Дамаскіна о жыціі прападобных атец Варлаама, Іосафа* і о наверненьню індіан. Стараньнем і коштам інакаў общежительнага манастыра Кутэінскага Новазгрэцкага і Словенскага на рускі язык прэложана", 1637 г., 4⁰. Уціск шляхты над беларускім сялянствам і гвалты над мяшчанствам, відаць, адпавядалі жыцьцю гэтых індыан, аб якіх пісала выданая „праўдзівая гісторыя". Само сабой зразумела, што эканомічная барацьба і перамога шляхты ў гандлі над мяшчанствам прымушала беларускае гандлярства звaрачаць свае надзеі на суседнюю Масковію, у якой у гэты час шырака разьвіналася сяброўства гандлёвага капіталу з царскім урадам, і па некаторых падзеях 1654 г. можна думаць, што Кутэйна мела падтрыманьне з боку маскоўскіх цароў.

Кутэінскі друк не абмяжоўваўся толькі рэлігійнымі пытаньнямі. Разыходзілася выданьне па мовазнаўстве. У 1653 г. быў выдадзены „Лексікон Славена-расійскі—імен талкаванія“. Гэта быў першы славена-беларускі слоўнік, які вытрамаў некалькі выданьняў. Складзены ён быў кіеўскім вучоным Панвай Берындай і ў першым выданьні надрукаваны ў Кіеве. Лексыкон гэты быў надрукованы ў формаце 4⁰ і на 324 балонах зьмяшчае тлумачэньне славянскіх слоў пабеларуску. У свой час гэты слоўнік меў такое-ж значэньне, як „Расійска-Беларускі Слоўнічак“ Байкова і Гарэцкага ў нашыя дні. Аршанскія выданьні былі вядомы ня толькі па ўсёй Беларусі, але і ў Масковіі, так што маскоўскі духоўны ўрад, зараз-жа па захапленьні гораду Воршы маскоўскім войскам, паклапаціўся забраць з Воршы Кутэінскую друкарню і друкароў. Патрыарх Нікан, прачуўшы пра Кутэінскую лаўру, загадаў аршанскім манахам з друкарняй выехаць у толькі што пабудаваны Ізерскі Спаскі манастыр у горадзе Валдаі. У 1655 г. Іоіль Труцэвіч забраў з Кутэйны друкароў-манахаў, друкарню і ўсю маемасьць беларускае лаўры, абразы і накіраваўся ў Наўгародчыну. У горадзе Валдаі Аршанская друкарня пасьпела перадрукаваць некаторыя з сваіх выданьняў, як „Брашна духоўнае“, „Новы Завет“ з псалтыром, але патрыарх Нікан так даражыў беларускімі друкарамі, што ў 1655 г. перавёў іх пад Маскву ў зноў заснаваны манастыр „Новый Ерусалим“. Далейшых ведаў аб кнігах Аршанскае друкарні няма, але ў Кутэінскім манастыры летам 1926 г. экспэдыцыя Інбелкульту ў складзе профэсароў Сербава і Даўгялы адшукала некалькі кніг, якія друкаваліся ў Маскве ў часы Аляксея Міхайлавіча і якія па сваім выглядзе і малюнку літар дужа падобны да аршанскіх выданьняў, так што З. Даўгяла адразу палічыў іх за кутэінскія выданьні. І толькі пры некаторым разглядзе ўдалося выявіць, што гэтыя кнігі друкаваліся ў Маскве пасьля 1655 г. Зараз гэтыя кнігі захоўваюцца ў Аршанскім акруговым музэі.

Далейшых вестак аб беларускіх старадруках па Аршаншчыне няма. На працягу XVIII і першай паловы XIX сталецьця на Аршаншчыне друкаваліся яўрэйскія рэлігійныя кнігі, і Аршанская езуіцкая калегія выдавала вучнёўскі часопіс на лацінскай мове. Беларускае насельніцтва было паднявольным, а ўніяцкіх выданьняў на Аршаншчыне не ўдалося адшукаць. На працягу XIX сталецьця ў межах Аршанскае акругі досыць шырака разгарнулася выданьне кніг на расійскай мове. „Запіскі“ Горацкага Земляробскага Інстытуту даюць досыць цікавы, каштоўны краязнаўчы матар'ял, але польскае паўстаньне ў 1863 г. і ўзмацненьне русыфікацыі ў краі спыніла краязнаўчы кірунак тутэйшых выданьняў і накіравала грамадзкую думку ў бок набліжэньня да Вялікай Расіі. Вялікаруская культура праз школу і ўрадовыя ўстановы пачала прасочвацца ў гарады і мястэчкі, і сярод яўрэйскіх буржуазных мас запанавалі імкненьні хутчэй аўладаць расійскай мовай, каб вырвацца з мяжы аселасьці.

Першая газета на Аршаншчыне „Оршанский Вестник“, які выходзіў з 1915 г. па 1918 г., часткова адбіваў гэтыя настроі. Газэта выходзіла штодзённа пад рэдактарствам *Іоселевіча*. Хроніка мясцовага жыцьця ў газэце досыць падрабязна высьвятлялася. Часам у некаторых артыкулах праглядвалі сыоніцкія настроі, адчуваецца значны бундаўскі ўплыў.

Шпаркае разьвіцьцё друку ў Воршы пачынаецца пасьля Кастрычнікавае Рэволюцыі. Кастрычнік усхваляваў жыцьцё і экономіку

акругі. У вагні клясавых змаганьняў друк зноў набывае вялікую вартасьць, і ў 1918-19 г. адразу можна заўважыць траякі кірунак аршанскіх выданьняў. Яўрэйская дробная буржуазія гуртуецца каля „Оршанского Вестника“, працоўныя школы на чале з павятовым саветам выдаюць газету „Известия Совета Рабочих, Крестьянских, Батрацких и Красноармейских Депутатов“. У 1919 г., замест гэтай газеты, выдаецца Аршанскім Павятовым Выканкомам газэта „Набат“. У пачатку жніўня 1918 г. адбылося паўстаньне левых эс-эраў. Быў організаваны ваенна-рэволюцыйны камітэт Аршанскага павету, які выдаў адзін № „Бюллетень № 1 Военно-революционного комитета Оршанского уезда“ 7-га жніўня 1918 г.

Народніцкія і соцыял-дэмократычныя настроі мясцовага дробнабуржуазнага насельніцтва знайшлі выяўленьне сваіх думак у часопісу паўночнага аб‘яднаньня коопэратываў Магілеўскай і Гомельскай губэрні—„Новая Жизнь—Социалистический журнал учительства и кооперации“. Гэты часопіс выдаваўся на працягу 1918-19 г. У часопісу шмат увагі аддавалася пытаньням асьветы і коопэрацыі на вёсцы. Паўночнае аб‘яднаньне выдавала некалькі асобных кніг: 1) МДРОМ Классовая или единая потребительская кооперация. Вопросы взаимоотношения рабочей и общегражданской кооперации, 1919 г.; 2) проф. Виноградов. Аграрный вопрос в России. Орша, 1919 г.; 3) отчет о 2-ом Учительском с‘езде 1920 г.

З 1921 г. пашыраецца савецкі друк. Аршанскім Аддзяленьнем аб‘яднаньня настаўнікаў-інтэрнацыяналістых быў надрукаваны „Отчет о 1-ом с‘езде учителей-интернационалистов Оршанского уезда 1921 г.“

З 1922 г. пашыраецца выдавецтва Аршанскага Павятовага Аддзелу Народнае Асьветы. У лютым г. г. выдадзен № 1 часопісу „Вестник Просвещения“. У тым-жа годзе аддзел кіраўніцтва Аршанскага Павятовага Выканкому выдае „Справочник Оршанского уезда Витебской губернии“, у якім даюцца сьпісы паселішчаў павету, лік насельніцтва вёсак, мястэчак, гарадоў павету, лік двароў, зямлі, плошча вазёр, тарфянікаў.

У 1922 г. павятовы выканком выдаў „Протоколы резолюций и постановления 10-го и 11-го Уездных С‘ездов Советов Рабочих, Крестьянских, Красноармейских и Батрацких Депутатов Оршанского уезда. Таксама выдаваўся профэс. орган „Рабочая жизнь“.

У гэтыя-ж часы, пасьля доўгага перапынку, пачынаюць выходзіць „Записки Горецкого Сельско-хозяйственного Института“.

У 1923 годзе працягваецца выданьне Аршанскага Павятовага Аддзелу Народнае Асьветы. Перадрукоўваецца „Букварь“ Вахтерова, выдаюцца „Программы для 4-летней школы 1-ой ступени. Программы летних экскурсий в школе“.

Беларускія выданьні на Аршаншчыне зноў уваскрасаюць пасьля далучэньня Аршаншчыны да Савецкай Беларусі. Пачынае выходзіць газэта, два разы ў тыдзень, „Камуністычны Шлях“. У друкарні імя Ф. Скарыны выходзяць непэрыодычныя выданьні—„Аршанскі Маладняк“, 5 нумароў, Аршаншчына“ № 1; апроч таго, выдаецца некалькі брошур Акруговым Камітэтам КПБ і да 2-га з‘езду саветаў Акруговым Выканкомам выдадзена досыць поўнае апісаньне Аршаншчыны пад назвай „Оршанский округ“.

У 1926 годзе зьявіўся з друку том I „Прац Навуковага Таварыства па вывучэньні Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае гаспадаркі ў Горках“. Зараз ужо вышаў другі том гэтых

прац. Гэтыя выданьні Навуковага Таварыства адкрываюць новую старонку ў гісторыі друку Аршаншчыны. Зьмешчаныя ў 2-х томах „Прац Навуковага Таварыства“ артыкулы маюць вялікае значэньне ня толькі для БССР, але вельмі карысны для гаспадаркі ўсяго нашага Саюзу.

Беларуская навуковая думка на Аршаншчыне знаходзіць сабе шырокае выяўленьне ў друку. Беларускі працоўны люд разгортвае вялікую ўпартую працу па адраджэньні беларускай культуры.

На жаль, вывучэньне друкарскае справы на яўрэйскай і польскай мове ў межах Аршанщчыны толькі пачынаецца і загэтым няможна даць малюнку друкарскае справы на гэтых мовах.

Неабходна ўпарта даведвацца і рэгістраваць усе выданьні мясцовых друкарань. Зьбіраць іх у раённыя і акруговыя Музэі. Такое зьбіраньне з працягам дзесяткаў гадоў дасьць пэўны малюнак гісторыі грамадзкай думкі на Беларусі.



# Анкеты, програмы і інструкцыі.

## СХЭМА

### санітарна-бытавога дасьледваньня і апісаньня вёскі.

Паданая ніжэй „Схэма“ друкуецца, папершае, для таго, каб палепшыць працу па навукова-санітарных досьледах беларускае вёскі, а падругое, каб у гэтыя досьледы і асабліва ў апісаньні рэзультатаў гэтых досьледаў увесьці пэўную сыстэматызацыю і аднастайнасьць у сэнсе агульнага падыходу да гэтае працы і ў сэнсе разьмеркаваньня матар'ялаў у апісаньнях.

Калі навукова-санітарныя досьледы будуць ахапляць маштаб раёнаў, акруг і ўсяе рэспублікі, то, зразумела, што гэтыя сыстэматызаваныя і аднастайна распрацаваныя матар'ялы значна лягчэй можна будзе выкарыстаць у сэнсе падсумаваньня агульных вывадаў і выяўленьня агульнага санітарна-бытавога стану нашае вёскі і фізычнага стану яе насельнікаў.

У далейшым гэтыя працы дадуць, паміж іншым, магчымасьць улажыць санітарную карту рэспублікі. Карта гэта будзе мець вялізнае значэньне—навуковае і практычнае—як для ўстаноў рэспубліканскага маштабу, так і для паасобных працаўнікоў.

Адна з прычын выпуску гэтае „Схэмы“ ёсьць тое, што да гэтага часу ня было па гэтым пытаньні падобных дэтальна распрацаваных схэм, якія-б усебакова разглядалі беларускую вёску ў санітарна-бытавым разрэзе і якія-б маглі служыць узорным плянам для досьледаў і апісаньняў. Паасобныя-ж навуковыя працы, часам надта цікавыя і надта каштоўныя, ня могуць замяніць сабой даную схэму, бо яны то асьвятляюць стан вёскі з аднаго якога-небудзь боку, то занадта адсталі ад сучаснасьці і ў іх адсутнічае цяперашні грамадзкі і палітычны падыход да справы, і, урэшце, працы гэтыя даюць апісаньні *не* беларускіх вёсак.

Цікава тут адзначыць, што адначасна і амаль што ў тых-жа самых рамках, незалежна ад нас, на Украіне ўложаны падобны проект пад назвай „Програма санітарна-дэмографічнага і культурна-бытавога дасьледваньня вёскі“. Гэты проект нам пашанцавала атрымаць і нават часткова выкарыстаць.

Гэты факт яскрава сьведчыць аб тым, што патрэба ў падобных схэмах надта вялікая і што даўно ўжо насьпела магчымасьць пачаць навуковую распрацоўку гэтага пытаньня, паставіўшы яе плянова і ў шырокім абхваце.

Практыка зьбіраньня мэдычна-краязнаўчых матар'ялаў выключна шляхам анкет паказала, што 1) працаўнікі на мясцох прымушаны абмежавацца мэханічным запаўненьнем анкетных граф і ня могуць вы-

явіць свае ініцыятывы ў сэнсе пашырэньня і больш усебаковага асьвятленьня тых пытаньняў, якія часта зусім не прадугледжаны анкетай; 2) анкетны шлях найбольш падыходзіць для вывучэньня вузкіх акрэсьленых пытаньняў, якія могуць паўстаць у рэзультаце агульнага вывучэньня становішча вёскі.

Пытаньні, азначаныя ў гэтай схэме, ёсьць асноўныя для агульнай санітарна-бытавой характарыстыкі вёскі, але кожны дасьледчык можа дапаўняць і яшчэ больш дэталізаваць у залежнасьці ад об'ектыўных умоў самае дасьледчае працы і ад тых асаблівасьцяй, якімі вызначаецца даная вёска.

Схэма разьлічана ня толькі на спэцыялістых—санітарных дактароў,—але на тое, каб працаўнікі розных спэцыяльнасьцяй, дасьледуючы вёску паводлуг паасобных разьдзелаў гэтае схэмы, маглі, злучаючы рэзультаты сваіх паасобных досьледаў, даць колектыўны і поўны малюнак санітарна-бытавога становішча вёсак.

Дактары на мясцох, скарыстоўваючы ўжо гатовыя матар'ялы мясцовых краязнаўчых таварыстваў, гурткоў або нават паасобных краязнаўцаў і дапаўняючы гэтыя матар'ялы спэцыяльнымі досьледамі паводлуг гэтае схэмы, маюць магчымасьць, ня трацячы многа часу і даволі лёгка, даць поўны малюнак вёсак свайго вучастку. А гэта якраз гаворыць за тое, што краязнаўчая праца дактароў, асабліва санітарных, павінна быць цесна ўвязана з працай краязнаўчых організацый і наадварот—у сэнсе ўзаемнай дапамогі, інформацыі і г. д.

Апроч гэтага, схэма мае на мэце як мага болей і шырэй уцягнуць у мэдычную краязнаўчую працу студэнтаў-мэдыкаў, якія па краязнаўчай лініі аб'ядналіся ў мэдсэкцыю пры унівэрсытэце. Для іх гэта схэма паслужыць плянам для першых краязнаўчых досьледаў у часе экспэдыцый.

Хаця схэма складаецца з паасобных разьдзелаў, якія могуць быць зусім самастойнымі, але яны ў часе апісаньня павінны быць цесна ўвязаны між сабой па прычыннай сувязі і па зьместу, прычым галоўнай асновай усяго мусіць быць санітарнае становішча вёскі і фізычны стан яе насельнікаў.

Праводзячы досьледы і апісаньне, трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на прычынную залежнасьць паміж санітарным становішчам вёскі і экономічным станам і культурным узроўнем яе насельніцтва; усюды падкрэсьліваць гэтую залежнасьць, характарызуючы яе лічбамі.

Таксама ўсюды, па магчымасьці, вызначаць характарыстыку і асабліва абапіраць вывады на лічбовых даных.

Пажадана да апісаньня вёскі дадаваць схэматычны плян гэтае вёскі і ваколіцы з азначэньнем на пляне старонак сьвету, распляваньня вёскі, вадазбораў, лесу, могілак і іншых пунктаў, які могуць характарызаваць сабой санітарны бок данае вёскі. На пляне паказаць яго маштаб.

Пасьля схэмы падаем бібліографічны сьпіс навуковых прац, якія могуць быць карысны для данае работы, а таксама для азнаямленьня наогул з краязнаўствам і, у прыватнасьці, з мэдычнымі працамі аб Беларусі.

# СХЭМА

## санітарна-бытавога дасьледваньня і апісаньня вёскі.

*Азначэньне (дакладнае) назвы вёскі, сельсавету, раёну і акругі.*

### I. Кароткі гістарычны нарыс.

1. Час узьнікненьня вёскі да сучаснага моманту і ўплыў знадворных фактараў на яе культурна-экономічнае разьвіцьцё (войны, паншчына, рэволюцыйны рух, шляхі зносін, культурныя цэнтры, апошняя вайна, Кастрычнікавая рэволюцыя і інш.).

### II. Топографія, гідрагеолёгія і клімат мясцовасьці.

1. Апісаньне агульнага рэльефу данае мясцовасьці (горы, узвышшы, даліны, нізіны, балоты, рэкі, вазёры і г. д.).
2. Апісаньне парод глебы (па назіраньнях стромкіх берагоў ракі, глыбокіх ям, студняў), назвы парод глебы, парадак напластаваньня іх, ваданосныя пласты.
3. Клімат па матар‘ялах бліжэйшае мэтэоролёгічнае станцыі.
4. Апісаньне расьліннасьці данае мясцовасьці.

### III. Топографія і расплянаваньне вёскі.

1. Адлегласьць ад сельсавету, раённага і акруговага цэнтру, мястэчка, шосы, чыгункі, фабрык і заводаў.
2. Характарыстыка месца, дзе стаіць вёска,—роўнае, высокае, нізкае, сухое, балоцістае; схіл—да чаго і ў які бок адносна старонак сьвету.
3. Лік вуліц і завулкаў, кварталаў, кірунак вуліц адносна старонак сьвету, пануючых вятроў (якіх); абарона вёскі ад вятроў (лес, горы і інш.)
4. Грамадзкія плошчы [школьная, базару, выгану і інш.] і месца іх.
5. Характарыстыка дабрабыту вуліц (дрэванасаджэньні, брук, насьцілы, яміны, лужы, канавы і інш.).
6. Колькасьць двароў. Разьмеркаваньне двароў адносна вуліц (паабапал, з аднаго боку). Разрывы паміж дварамі (у мэтрах): максымальныя, мінімальныя і сярэднія.
7. Сады і палісаднікі, распаўсюджанасьць іх, пароды дрэў, велічыня садоў і значэньне іх у гаспадарцы.

### IV. Вадазабясьпека і вадакарыстаньне.

1. Характар вадазбораў для карыстаньня піцьцёвай вадой і вадапою жывёлы: адкрытыя (рэкі, вазёры, крыніцы і інш.), закрытыя (студні). Колькі двароў, якімі вадазборамі карыстаецца *).
2. Характарыстыка адкрытых вадазбораў: а) кірунак рэк, шырыня, глыбіня, хуткасьць цячэньня іх, характар берагоў і дна; б) вазёры, плошча іх, зьмена вады, глыбіня, характар берагоў і дна; в) разьмеркаваньне адносна вёскі; г) спосабы дставаньня вады; д) прычыны забруджаньня, якія (мыцьцё бялізны, могілкі, вулічныя сьцёкі і г. д.) і ў якім месцы адносна забору вады.
3. Характарыстыка студняў: а) якія і колькасьць; б) прыватныя,

*) Лічбовыя вызначэньні, па магчымасьці, дадаць поўнасьцю па ўсіх пытаньнях, групуючы іх у паасобныя табліцы па зьместу і прычыннай сувязі. Гэта самае датычыць і іншых падзелаў.

грамадзкія (калі карыстаецца больш 3-х двароў); в) месца, дзе знаходзяцца студні (двары, вуліцы і г. д.); г) адлегласьць аднае студні ад другое (максымальн., мінімальн. і сярэдняя—у мэтрах); д) будаўнічы матар'ял і тэхніка пабудовы; і) спосаб даставаньня вады (вочап, чарпак, калаўрот, агульнае вядро і інш.); к) прычыны забруджваньня (дрэнная пабудова, няспраўнасьць зрубу вакол студні, хлявы, вадапой жывёлы, вулічныя сьцёкі і г. д.); л) спосабы абароны ад забруджваньня (пакрышкі, брук, нахілы ад студні); м) глыбіня студняў у мэтрах (ад узроўню глебы да дна); н) апісаньне пластоў глебы, праз якія выкапаны студні, таўшчыня іх (са слоў жыхароў, якія бачылі капаньне студні); о) дастача вады, прычыны недастачы.

4. Сьвідравальныя студні. Якія (артэзыянскія, абісынскія), характарыстыка вадакарыстаньня імі.

5. Характарыстыка іншых вадазбораў, з якіх карыстаюцца піцьцёвай вадой паводле пунктаў 2 і 3.

6. Годнасьць вадазбораў для тушэньня пажару ў сэнсе колькасьці вады і лёгкасьці здабычы яе.

7. Санітарная ахова вадазбораў, якія трэба і магчыма ўжыць мерапрыемствы для палепшаньня вадазабясьпекі.

8. Якасьць вады (колер, пах, смак, празрыстасьць і інш. фізычныя адзнакі).

9. Хатнія ўмовы захаваньня вады і ўжываньня яе (дзе, у якой пасудзіне трымаецца запас вады, колькі часу, умовы забруджваньня і якія іменна і г. д.).

10. Колькі ў сярэднім вёдзер вады ўжывае ў суткі адна гаспадарка—узімку і ўлетку; колькі ўжываецца вады на хатнія патрэбы людзей аднае сям'і і на гаспадарчыя патрэбы і на якія.

11. Якая наглядалася і наглядаецца сувязь паміж вадазабясьпекай, спосабамі карыстаньня вадой і страўнічна-кішэчнымі хваробамі (па ўласным нагляданьні, са слоў насельніцтва і па даных мэдыцынскага вучастку).

### V. Дэмографічная характарыстыка насельніцтва.

1. Колькасьць насельніцтва: агульная, па плоці і ўзросту (па даных сельсавету), колькасьць сямействаў. Нацыянальны склад.

2. Шлюбы, разводы, нараджэньні і сьмяротнасьць (па даных ЗАГС'у).

3. Іміграцыя ў вёску і эміграцыя з яе і прычыны гэтага.

### VI. Экономічная характарыстыка.

1. Асноўныя заняткі насельніцтва па часьцінах году. Пабочныя заработкі, якія (адыходныя промыслы, саматужныя і інш.), іх характарыстыка, колькі двароў займаецца імі, іх значэньне ў агульнай экономіцы гаспадаркі.

2. Забясьпечанасьць насельніцтва зямлёй—наогул і падворна. Колькасьць усяе зямлі, ворнае, сенажаці, лесу, няўжыткаў, ураджайнасьць (па даных с/с); спосаб апрацоўкі зямлі.

3. Забясьпечанасьць насельніцтва хатняй жывёлай (буйной і дробнай), сельска-гаспадарчым інвэнтаром (па даных с/с).

4. Разьмеркаваньне насельніцтва па заможнасьці: беднякі, серадняки, кулакі (па даных с/с).

5. Коопэрацыя, віды коопэрацыі і яе разьвіцьцё.

6. Прыватны гандаль, хто ім займаецца і характарыстыка яго.

7. Кірмашы, дзе бываюць і экономічнае значэньне іх для вёскі.

## VII. Двор.

1. Агульная плошча сядзібы і асобна двара (максым., мінім. і сярэдняя ў кв. мэтр.).

2. Тыпы забудовы двароў (вянком, адно-двухшэраговыя, літарай „П“, „Г“ і інш.). Вольная плошча двароў. Падзел двароў на чыстыя і брудныя. Утрыманьне двароў (месца зьбіраньня сьмецьця, гною; нужнікі і спосаб іх ачысткі).

3. Характарыстыка гаспадарчых будынкаў па колькасьці і прызначэньні іх. Будаўнічы матар'ял. Тэхніка пабудовы. Абарона ад зімніх халадоў. Утрыманьне будынкаў.

## VIII. Хата.

1. Разьмеркаваньне хат адносна вуліцы і двара.

2. Тыпы хат (пяцісьценка, чатырохсьценка, з дзьвёх палавін і інш.). Розьніца між імі. Распаўсюджанасьць асобных тыпаў. Рост адных тыпаў і заняпад іншых, прычыны гэтага.

3. Будаўнічы матар'ял хат. Тэхніка пабудовы паасобных частак хаты: а) падмурак (глыбіня ў зямлі і над зямлёй, цокаль, аддушыны, трываласьць); б) сьцены (ізоляцыя ад вільгаці глебы, чым, характар вуглоў, дзьвёры і г. д.); в) столь (сьціпнасьць насьцілу, ацяпленьне); г) стрэхі (матар'ял); д) падлога (спосаб укладкі, падвойная, ордынарная і г. д.); е) падпадложжа (адлегласьць ад зямлі да падлогі, ацяпленьне падпадложжа, вэнтыляцыя і г. д.).

*Увага:* Паводлуг п. п. 2 і 3—апісаць сенцы.

4. Пляноўка хат паводле асобных тыпаў: колькасьць пакояў для жыльля, іх прызначэньне, характар перагародак, прызначэньне сенцаў і камор.

5. Памеры хат паводле асобных тыпаў (максымальн., мінімальн. і сярэднія ў мэтрах (разам з сенцамі і бяз сенцаў). Вышыня сьцен знадворку (ад зямлі да верхняга вянка), унутры хаты (ад падлогі да столі). Даўжыня і шырыня сьцен знадворку і знутры ў мэтрах. Агульная хатная плошча падлогі і кубатура.

6. Аддзелка і стан сьцен знутры хаты, распаўсюджаньне тынкаваньня, пабелкі, абклейкі, габляваньне, цясаньне і г. д.

7. Асьвятленьне хаты: а) лік вакон паводле асобных тыпаў хат, разьмеры выразу ў сьцяне на адно вакно, агульная плошча ўсіх выразаў да агульнае плошчы падлогі; б) форма і таўшчыня вaконных рам, распаўсюджанасьць у хатах падвойных рам, створчатых вакон, фортак; в) разьмеркаваньне вакон адносна старонак сьвету, вуліцы і двара; г) спосабы абароны вакон у часе зімніх халадоў і г. д.

8. Штучнае асьвятленьне: карасінаю, лучынай, камінкамі г. д. і чым пераважна.

9. Печка. Характарыстыка яе паводле тэхнікі пабудовы і матар'ялу, расход апалу. Плошча і кубатура, занятая печкай.

10. Захаваньне цяпла. Прычыны адсутнасьці цяпла ў хаце ўзімку (холад з-пад падлогі, з боку вакон і інш.).

11. Распаўсюджанасьць узімку ў хатах вільгаці і ступень яе. Прычыны, ад якіх яна залежыць (вялікая залюднёнасьць, адсутнасьць падмурка і ізоляванасьць ад глебы, ордынарныя вокны і інш.). Распаўсюджанасьць у хатах грыба (дрэванішчыцеля).

12. Залюднёнасьць хат (па ліку сямействаў, ліку душ і адносна карыснае жылое плошчы на чалавека).

## IX. Санітарны быт насельнікаў вёскі.

1. Абсталяваньне хаты: формы і назвы паасобных рэчаў, іх прызначэньне, матар'ялы, з якіх яны зроблены, сьціпнасьць работы, разьмеркаваньне іх у хаце і г. д. Рэчы гаспадарчага ўжытку, якія маюць сталае месца ў хаце і сенцах.

2. Час, які праводзяць у хаце ўзімку дарослыя (мужчыны, жанчыны і дзеці, прычыны гэтага (умовы працы, нястача абутку і адзежы ў дзяцей і г. д.).

3. Жыўленьне: а) характарыстыка ўжываемых продуктаў жывёльнага і расьліннага пахаджэньня. Продукты, якія пераважна ўжываюцца па часе году. Дастача продуктаў жыўленьня. Месца, умовы і спосаб захаваньня запасаў і залежнасьць ад гэтага якасьці продуктаў. Асноўныя стравы („мэню“) і спосабы гатаваньня іх. Жыўленьне ў часе рэлігійных пастоў. Ужываньне гарачае стравы па часе году і колькі разоў у суткі. Колькасьць і якасьць купляемых продуктаў жыўленьня; б) характарыстыка пасуды паводле формы, назваў, матар'ялу, з якога зроблена і г. д. Утрыманьне пасуды ў чыстаце; месца і ўмовы хаваньня яе.

4. Умовы спаньня: а) характарыстыка спальных месц: паводле разьмераў, займаемага месца; форма, назвы, дастатак і г. д. Сталыя спальныя месцы і выпадковыя—па якой прычыне; б) спэцыяльныя пасьцельныя рэчы, дастатак іх, што замяняе пры недахопе, як часта зьмяняецца пасьцельная бялізна і якая іменна; в) *па колькі асоб разам сьпяць (хто з кім, па ўзросту і плоці);* г) колькі часу сьцяць узімку і ўлетку (дарослыя мужчыны і жанчыны, дзеці).

5. Падтрыманьне асабовай чыстаты: а) характарыстыка штодзеннага ўмываньня раніцаю па ўзростах; частата і спосаб умываньня. Умываньне рук і ў якіх выпадках. Распаўсюджанасьць умывальнікаў і форма іх. Рушнікі (з якой тканіны, чыстата іх); карыстаньне імі (супольнае, паасобнае); б) абмываньне ўсяго цела па ўзростах і часе году; частата. Месца мыцьця (хата, лазьня, рэчка, ёўня і інш.). Спосабы ўмываньня ў залежнасьці ад месца і пасуды. Санітарная характарыстыка лазьняў паводле разьмеру, тыпу, спосабу пабудовы, расплянаваньня; в) нацельная бялізна. Характарыстыка яе (матар'ял, фасон, фабрычнага, хатняга вырабу). Частата зьмены бялізны ў розныя часы году; г) мыла. Расход мыла ў год на *сям'ю (у кілёгр).* Ужываньне паасобна па патрэбах (мыцьцё рук, твару і цела дарослых, дзяцей, бялізны).

6. Утрыманьне хаты ў чыстаце: а) штодзеннае прыбіраньне хаты і спосабы яго. Агульная і дакладная чыстка хаты, частата і спосабы; б) распаўсюджанасьць шкодных шасьціножак і віды іх. Спосабы змаганьня з імі; в) адбываньне натуральных (фізыолёгічных) патрэб у хаце, пасудзіны для гэтага; г) трыманьне жывёлы ў хаце (якой і прычыны гэтага); д) выкананьне гаспадарчых (па догляду за жывёлай) процэсаў, гаспадарча-вытворчых і саматужных процэсаў, якія пагаршаюць санітарнае становішча хаты (прыгатаваньне пойла, паранак, мякіны; апрацоўка валакна, ганчарная праца і інш.).

## X. Шлюбнае і плоцьцевае жыцьцё насельніцтва.

1. Звычайны пачатак плоцьцевага жыцьця, распаўсюджанасьць онанізму і прычыны гэтага. Адносіны паміж асобамі мужч. і жаночай плоці да шлюбу. Уплыў досьвіткаў, вячоркаў, ігрышч і гульняў на

плоцьцевы быт. Распаўсюджанасьць нараджэньняў да шлюбу. Сярэдн. ўзрост уступаючых у шлюб.

2. Сямейныя адносіны і сямейная дысцыпліна. Частата і прычыны разводаў. Узаемаадносіны паміж бацькамі і дзяцьмі.

3. Распаўсюджанасьць сярод насельніцтва абортаў і ўмовы выкананьня іх (дзе і кім). Ужываемыя меры проці цяжарнасьці.

4. *Умовы нараджэньня* і гадаваньня дзяцей. Адносіны цяжарных да парадзіх. Час і спосабы штучнага кармленьня дзяцей.

5. Сьмяротнасьць і хваравітасьць у сувязі з родамі.

### XI. Сялянская праца.

1. Санітарная ацэнка працоўных процэсаў у сельскай гаспадарцы і ў хатнім быце паводлуг асобных відаў працы дарослых (паасобку мужчын і жанчын). Працяг рабочага часу і адпачынку. Праца падлеткаў. Шкоднасьці сялянскае працы.

### XII. Фізычны стан, хваравітасьць насельніцтва і мэдычная дапамога.

1. Агульная ацэнка хваравітасьці насельніцтва: асобна паводлуг пошасных (тыфусы, крываўка, дзіцячыя пошасьці і інш.) і паводлуг соцыяльна-бытавых (сухоты, сыфіліс, ваўчанка, кароста і інш.) хвароб, па матар'ялах мэдычнага пункту.

2. Інваліднасьць, калецтвы сярод насельніцтва і прычыны гэтаму. Агульны лік непрацаздольных.

3. Забясьпека мэдыка-санітарнай дапамогай, віды яе (акушэрская, лячэбная, ясьлі і інш.) Дзейнасьць мэдыка-санітарных установ па аздараўленьні вёскі. Адносіны насельніцтва да мэдычнае дапамогі.

### XIII. Характарыстыка культурнага ўзроўню насельніцтва.

1. Распаўсюджанасьць пісьменнасьці і *крыніцы* яе да вайны і пасьля вайны. Характарыстыка літаратуры, якая ёсьць у насельніцтва і ў культурна-асьветных установах. Ахапленьне школай дзіцячага ўзросту.

2. Санітарнае становішча культурна-асьветных установ (характарыстыка іх у сэнсе пабудовы, утрыманьня, санітарных норм, абсталяваньня і г. д.). Школьная нагрузка вучыцялёў і дзяцей, працяг школьнага дню. Умовы прабываньня дзяцей у школе. Фізкультура ў школе, віды яе і ўмовы правядзеньня. Роля школы ў папулярызацыі гігіенічных навыкаў. Фізычны стан школьнікаў па даных мэдычных аглядаў.

3. Характарыстыка скарыстаньня насельніцтвам часу ў сьвяточныя дні. Распаўсюджанасьць п'янства, у прыватнасьці, самагону. Адносіны насельніцтва да рэлігійных абрадаў. Хуліганства і меры змаганьня з ім. Праявы новага быту сярод насельніцтва.

### XIV. Грамадзка-палітычны быт.

1. Характарыстыка мясцовых грамадзкіх організацый, яхія (іх склад, праца і вынікі працы). Актыўнасьць сялянства ў грамадзкай працы. Ініцыятыва санітарнае вясковае камісіі ў правядзеньні аздаравіцельных мерапрыемстваў, іх ацэнка і вынікі.

2. Характарыстыка мясцовых адміністрацыйных установ, адносіны да іх сялянства. Ступень палітычнай сьвядомасьці і актыўнасьці сялянства.

3. Мясцовыя партыйныя організацыі, іх дзейнасьць, аўторытэт і ўплыў на сялянства.

## XV. Агульныя вывады.

1. Бліжэйшыя, неабходныя і конкрэтна экономічна-магчымыя мера-прыемствы па палепшаньні санітарнага становішча вёскі і па азда-раўленьні насельніцтва.

---

## ЛІТАРАТУРА.


Проф. *Мачинский В. Д.*—Благоустройство крестьянского двора. 1924 год. Москва.

*Он-же.*—Сельская изба и двор. 1925 г. Москва.

*Шингарев А. И.*—Вымирающая деревня. 1907 г.

*Радищев.*—Путешествие из Петербурга в Москву.

*Томилин С. А.*—Материалы о социально-гигиеническом состоянии украинской деревни.

*Хворостанский М. А.*—Главнейшие итоги выборочной санитарно-демографической переписи в Харьковской губ. 1924 г. Харьков.

*Козлов П. М.*—Материалы к изучению санитарного состояния сел Киевской губ. 1925 г.

— Опыт изучения социально-гигиенического состояния Донской деревни. 1925 г.

*Хотянов Л. К. и Федоров.*—Кресьянский дом Коломенского уезда в его прошлом и настоящем. „Московско-Медицинский журнал“ № 1—2. 1925 г.

Проф. *Нусбаум Н.*—Сырость в домах. 1909 г.

*Бабенко.*—Этнографические очерки народного быта Екатеринославского края.

— Россия. Под редакцией *В. П. Семенова,* том IX. „Верхнее Приднепровье и Белоруссия.

*Абрамович М.*—Жилищный вопрос в греческом селе. „Профилактическая медицина“ № 11. 1925 г.

*Александровский Б. П.*—Украинская сельская изба, санитарная оценка и жизненные возможности улучшения ее устройства. „Профилактическая медицина“ № 11. 1925 г.

Инж. *Кондратьев Н. И.*—К вопросу о типе нормального крестьянского жилища. „Профилактическая медицина“ № 7-8. 1924 г.

— Благоустройство деревни. Сборник статей под редакцией *Б. Б. Веселовского.* 1925 г. Москва.

*А. Н. Морзеев.*—Жилища и санитарный быт сельского населения Украины. 1927 г. Харков.

*А. Татаров.*—О плане изучения питания сельского населения. „Гигиена и Эпидемиология“ № 3. 1926 г.

*Вигилев Н. К.*—К вопросу о нормах водопользования в сельских местностях. „Гигиена и Эпидемиология“ № 5. 1926 г.

*Княжинский.*—Отчего умирает наш крестьянин по собственному определению. „Гигиена и Эпидемиология № 5. 1926 г.

*Крюков В.*—Результаты обследования сельского водоснабжения в Полтавском округе. „Гигиена и Эпидемиология“ № 6. 1926 г.

*Мукосеев Л. А.*—К вопросу об изучении вредностей сельско-хозяйственного труда. № 7-8. 1926 г.

*Терешкович А.*—Опыт обследования питания московского кр-на. „Гигиена и Эпидемиология“ № 10. 1926 г.

*Гуревич Я.*—Жилищный быт сельского населения Петровского уезда, Саратовской губ. „Гигиена и Эпидемиология“ № 12. 1926 г.

*Оргләрт А. И.*—Медико-топографическое и статистическое описание слободы Головчины, села Антоновки и деревни Тополей Грайворонского у. Курской губ. 1898 г.

*Мачинский В. Д.*—Крестьянское строительство в России. 1924 г. Москва.

*Майоров А.*—Санитарные очерки по сельскому водоснабжению. „Профилакт. мед.“ № 5. 1926 г.

*Попелышко А.*—Краткая характеристика бюджетов крестьянских хозяйств 1923—1924 г. „Бюллетень ЦСУ БССР“, выпуск 3. 1925 г.

*Киркевич М.*—К динамике крестьянских хозяйств БССР с 1917 по 1924 г. „Бюллетень ЦСУ БССР“, выпуск 2. 1925 г.

*Симилейский Л.*—Сельское водоснабжение и способы его улучшения в Радомысльском районе на Волыни. „Профилактическая медицина“ № 3. 1927 г.

*Н. Филиппов.*—Основные вопросы дифференциации белорусской деревни. „Савецкае будаўніцтва“ № 1. 1927 г. Менск.

*Блюм В. И.*—Питание населения в Тульской г. в 1919—1925 г. г. „Гигиена и Эпидемиология“ № 2. 1927 г.

*Брон Т. М.*—Проблема изучения быта. „Гигиена и Эпидемиология“ № 2. 1927 г.

*Магілеўчык З. К.*—Кватэрныя ўмовы беларускага сялянства ў санітарных нарысах, нарыс I; тое самае, нарыс II. „Записки Белорусского Государственного Сан.-Бак. Института“, т. I. 1926 г. Менск.

Д-р *Раховский, Случин и Столяров.*—Малярия в Мозырском уезде в 1924 г. „Беларуская Мэдычная Думка“, т. II. № 7-9. 1926 г.

Д-р *Казанская.*—Обзор эпидемического состояния БССР за 1923-24-25 г. г. „Беларуская Мэдычная Думка“, т. II, № 1-2. 1926 г.

*Н. Я. Никифоровский.*—Простонародные приметы и поверья. Витебск. 1895 г.

*Шэйн Р. В.*—Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. 4 кн. СПБ. 1887—1901 г. г.

„Как изучать свой край“.—Сборник статей по краеведению, составленный Советом Географо-экономического Исследовательского Института. Под редакцией проф. *С. А. Советова,* директора *Г.-Э. И. И.* и *Н. И. Кузнецова,* заместителя директора.

Д-р *Г. Попов.*—Русская народно-бытовая медицина по материалам Этнографического бюро князя В. И. Тенишева. С.-Петербург.

*А. И. Дзенс-Литовский* и *И. С. Абрамов.*—Познание местнаго края. Ленинград. 1925 г.

*А. Татаров.*—Детские инфекции в Смоленской губ. за период времени с 1893—1925 г. „Белар. Мэдычная Думка“, т. II, № 10—11. 1926 г.

Д-р *Казанская.*—Быт и санитарное состояние крестьян в Белоруссии. „Бел. Мэд. Думка“, т. II, № 3. 1926 г.

*А. А. Вирский.*—План всестороннего обследования района. Ленинград. 1926 г.

Д-р *Казанская.*—Итоги годовой работы сантроек на селе. „Бел. Мэд. Думка“, т. II, № 7—9. 1926 г.

*Никитин.*—Справочная книга санитарного врача.

*Феноменов М. Я.*—Изучение быта деревни в школе. Москва. 1924 г.

*Феноменов.*—Современная деревня, т. 2; т. 3. Москва. 1925 г.

*Яковлев.*—Деревня как она есть.

*Большаков.*—Советская деревня 1917—1924 г. г. Ленинград. 1924 г.

*Большаков.*—Современная деревня в цифрах. Ленинград. 1925 г.

*Ярошевский. А. Б.*—Обществоведение в школьной краеведческой работе. Ленинград. 1925 г.

---

**М. Зьбіткоўскі.**

# Настаўленьне да зьбіраньня расьлін і назіраньняў над імі *).

## Вывучэньне расьліннага акрыцьця.

Другім заданьнем, пасьля азнаямленьня з флёраю данай мясцовасьці, да зьдзейсьненьня якога можна і трэба імкнуцца, зяўляецца ўжо вывучэньне не паасобных расьлін, як гэткіх, а *расьліннага акрыцьця* данай мясцовасьці, іначай кажучы тых груп расьлін, якія ствараюць на данай тэрыторыі розныя *расьліныя згуртаваньні*. Гэта заданьне складанае. Для зьдзяйсьненьня яго трэба мець знаёмства з відавым складам флёры данай мясцовасьці, а таксама і з тымі знадворнымі абставінамі, сярод якіх гэты склад існуе і яднаецца ў тыя ці іншыя згуртаваньні. Абставіны гэтыя складаюцца з кліматычных, глебавых умоў і ўмоў рэльефу акаляючай мясцовасьці, а таксама ўплыву чалавека, і г. д.

Расьлінныя згуртаваньні, узятыя ў буйным масштабе, носяць назву расьлінных *формацый*. Напрыклад, лясная формацыя, лугавая, балотная, вадзяная і г. д. У любой мясцовасьці мы часьцей за ўсё назіраем, што гэтыя формацыі або тыпы расьліннасьці ў тым ці іншым злучэньні чаргуюцца адзін з другім, або, як кажуць, адбываецца пярэстая зьмена краявідаў. Вывучэньне разьмеркаваньня тыпаў расьліннасьці, г. зн. лясоў, лугоў, балот, вадзяных абшараў і г. д. і *нанясеньне іх разьмеркаваньня на карту* зьяўляецца першым крокам да вывучэньня расьліннага акрыцьця. Кожны з паказаных тыпаў расьліннасьці (формацыі) у сваю чаргу прадстаўляе з сябе *аб'яднаньне* з надзвычайна вялікаю колькасьцю назіраемых груповак расьлін. Напрыклад, лясы бываюць ігластыя, мяшаныя і лісьцёвыя, сенажаці—поймавыя і сухадольныя, балоты—сфагнавыя і гіпнавыя (траваныя) і г. д. Кожнае з гэтых падразьдзяленьняў прыводзіць у канцы канцоў да канкрэтна назіраемых раслінных групповак у адпаведным комплексе знадворных умоў. Гэткія канчатковыя групоўкі расьлін носяць назву расьлінных згуртаваньняў, або—дрэвастанаў (у лесе).

Яднаючы ўсе расьлінныя згуртаваньні або дрэвастаны іх, якія маюць аднолькавы характар свайго складу і аднолькавае топографічнае разьмеркаваньне ў пэўнай географічнай мясцовасьці, атрымліваем паняцьце: *расьлінная асоцыяцыя*. Гэта—паняцьце адцягненае, якое атрымліваецца ў выніку нашага абагульненьня, яно імкнецца ўстанавіць дакладныя рамкі, вызначыць пэўныя межы сярод градацый зьяў, што назіраюцца ў прыродзе. Дзеля таго, што гэтыя зьявы самі па сабе складаныя, а таксама нярэдка носяць на сабе сьляды рознародных уплываў, напрыклад, прасяканьне ўплыву чалавека ў прыроднае жыцьцё

---

*) Гл. „Наш Край“ № 5 (20).

расьлінавых згуртаваньняў, дык пры ўстанаўленьні паняцьця „расьлінная асоцыяцыя“ нярэдка паўстаюць перашкоды. У прыродзе мы знаходзім паасобныя *„вучасткі“* тэй ці іншай асоцыяцыі (згуртаваньня, дрэвастану). Вывучэньне большага ці меншага ліку „вучасткаў“ якой-колечы „асоцыяцыі“ дае нам магчымасьць падыйсьці шляхам сумаваньня і адцягненьня да разуменьня самой асоцыяцыі.

Напрыклад, сфагнавае балота з нізкарослаю хваінаю—поўная асоцыяцыя. Данае-ж сфагнавае балота з нізкарослаю хваінаю—гэта паасобны вучастак асоцыяцыі. Скупнасьць пэўных сфагнавых балот з нізкарослаю хваінаю (некулькі вучасткаў) зьяўляецца асоцыяцыяй: сфагнавае балота з нізкарослаю хваінаю (адцягненае паняцьце).

Для азначэньня згуртаваньняў асоцыяцый карыстаюцца назвамі тыповых і пераважных у іх расьлін. Прывядзем прыклад для хваёвых згуртаваньняў.

Pinion {
Сухі хваёвы бор з кладоніяй=Pineto-Cladionosum.
„ „ „ з верасам=Pineto-Callunosum.
Хваёвы бор з мохам Hylocomim=Pineto-Hylocomyosum.
„ „ з брусьніцай і чарніцай=Pineto pruticosum.
„ „ з зельлевым акрыцьцём=Pineto herbosum,
„ „ з сфагнавым імхом=Pineto sphagnosum.
„ „ з бярозай=Pineto betulosum і г. д.

Усе згуртаваньні з пераважнаю колькасьцю хваіны носяць кароткую назву Pinion, яловыя—Picion, і г. д.

Даны стан таго ці іншага дрэвастану адбівае ў сабе асноўную рысу жыцьця ўсякага расьліннага згуртаваньня, менавіта—барацьбу за харчы і сьвятло або *барацьбу за існаваньне,* якая вядзецца паміж паасобнымі адзінкамі згуртаваньня. Калі мы возьмем для прастаты чысты хваёвы дрэвастан (Pinus silvestris) дык у гэтым згуртаваньні лёгка заўважыць, што паасобныя экзэмпляры хваінак аднолькавага ўзросту розьняцца адзін ад аднаго як па таўшчыні і вышыні, так і па характары сваіх крон. Гэтая розьніца зьяўляецца вынікам жыцьцёвага змаганьня паасобных хваінак за прастору, сьвятло і пажыўныя матэрыі ў глебе.

Гэта розьніца лягла ў аснову клясыфікацыі для дрэў у лесе (Крафт), а менавіта:

1. Дрэвы выключна разьвітыя, кроны іх узвышаюцца над агульным полагам=*выключна-пануючыя.*

2. Дрэвы ствараючыя полаг лесу, кроны іх некулькі слабейшыя, чымся ў папярэдняй клясcе-*пануючыя.*

3. Дрэвы з сьціснутымі каронамі, уваходзячымі таксама ў полаг лесу, але некулькі ніжэй, чымся дрэвы II-е кл.=*супануючыя.*

4. Дрэвы, кароны якіх ніжэй за полаг лесу і нярэдка аднабаковыя гэта—*заглушаныя.*

5. Дрэвы, кароны якіх цалкам ніжэй агульнага полагу лесу—гэта адміраючыя ці адмершыя дрэвы=*зусім прыгнечаныя.*

Падобны-ж малюнак, але ў больш складаным злучэньні, можна наглядаць і ў мяшаным лесе, а таксама і ў любым іншым расьлінным згуртаваньні як дзікіх, так і культурных дрэўных і зельлевых расьлін.

Хваіна, што вырасла на волі і хваіна з расьліннага згуртаваньня маюць вялікую розьніцу ў знадворным выглядзе. У першай крона разложыстая, моцна разьвітая, вольная ад галін частка пня—невялікая, а ў апошняй—пень колёнавідны, крона сьціснутая, займае толькі верхавіну дрэва. Падобны-ж прыклад можна знайсьці і сярод зельле-

вых расьлін (канюшына) на лузе, на балоце і г. д. Такім чынам, ужо знадворны выгляд расьлін паказвае, ці жыла гэтая расьліна ў згуртаваньні ці па-за межамі яго. У жыцьці расьлін у згуртаваньні ўплыў расьліны аднэй на другую зьяўляецца агульным назіраемым фактам. Калі згуртаваньне складаецца па вышыні з некулькіх паверхаў (гл. вышэй), дык расьліны ў іх разьмяркоўваюцца ў парадку зьмяшнаючайся патрэбы ў сьвятле. Апроч таго павярховасьць значна памяншае ўзаемную конкурэнцыю расьлін і ў адносінах да прасторы—у любым відзе згуртаваньня, дазваляючы лепш выкарыстаць акаляючыя ўмовы (азначэньне павярховасьці гл. вышэй). Прыкладам аднапаверхавага згуртаваньня можа служыць балотны хвошч, які стварае нярэдка цэльныя зарасьнікі па балотных берагох рэк, чароты на чаротавым балоце. Нярэдка пад чаротамі разьвіваецца паверх імхоў—у такім разе гэта будзе ўжо двохпаверхавае згуртаваньне. На імшары з нізкарослай хваінкай можна наглядаць трохпаверхавую асоцыяцыю, менавіта, хваіна, ніжэй падвей і дробныя хмызьнікі ў адным поверсе і, нарэшце, акрыцьцё з сфагнуму. Чатырохпаверхавае—хваіна, ніжэй багун, буякі, маташнік, журавіна і расіца, і апошні паверх—мохавае акрыцьцё.

Кожны паверх мае ўплыў на наступны і ўзаемныя адносіны, напрыклад, мохавага паверху з наступнымі строга каардынаваны; напрыклад, сфагнум штогодна нарастае на пэўную таўшчыню. Па меры яго росту распасьцёртыя спачатку лісьці расіцы падымаюцца, а на наступны год замест пахаванага акружку лісьцяў у расіцы зьяўляецца новы на адлегласьці ад леташняга роўнай па велічыні прыросту мохавага акрыцьця. Такім чынам па адлегласьці паміж цэўкамі расіцы можна судзіць аб ходзе росту тоўшчы імхоў у бліжэйшыя папярэднія гады. Тое самае робяць і хмызьнякі, і багун, і буякі—разьвіваючы на пахаваных мохам кавалках сьцяблоў, дадатковыя карэньні. Хваіна-ж, ня маючы гэтай здольнасьці, на сфагнавым балоце знаходзіцца ў прыгнечаным стане, і расьце вельмі павольна.

На лугох таксама трапляецца некулькі паверхаў, напрыклад, па сярэдняй плыні р. Птыч, у маі 1914 году поймавы луг каля в. Гарэлец (Бабр. акр.) меў такі склад:

A. Filipendula ulmaria, Lychnis flos cuculi — рэдка.
B. Poa pratensis.
Anthoxanthum odoratum—раскідана.
Polygonum Bistorta, Veronica longifolia — адзінкамі.
Taraxacum Sp.
C. Ranunculus repens, Ranunculus acer — часта; дае фон.
Carex goodenovii—часта.
Potentilla anserina—раскідана.
Cardamine pratensis, Luzula multiflora, Veronica chamaedrys, Plantago lanceolata, Equisetum arvense, Geum rivale, Lycopus europaeus і інш. — рэдка.
D. Climacium dendroides—месцамі.

Climacium canescens (па лагчынках). А, В, С і Д азначаюць паверхі: А—азначае зельлевае акрыцьцё вышэй за 50 см., В—ад 50 да 20 см., С—ніжэй за 20 см. і Д—азначае мохавае акрыцьцё *).

Найбльшага-ж разьвіцьця павярховасьць дясягае ў лесе. У найбольш зацянёным яловым лесе трапляецца прынамсі два паверхі—елкі і самы ніжні—небагатыя імхі і лішайнікі, часьцей-жа да гэтых двух далучаецца яшчэ і трэці паверх з траў. Залежнасьць ніжніх паверхаў ад елкі зусім зразумела.

У хваёвых згуртаваньнях можа быць да 5 паверхаў: 1-ы паверх хваіна, 2—дуб, 3—ляшчына, рабіна, 4—травы і 5—імхі. Апроч павярховасьці ў згуртаваньнях наглядаюцца іх зьмены па порах году або так званыя зьмены *аспэктаў,* напрыклад, пад дрэвамі, пакуль на іх яшчэ не распусьціліся лісьці, красуюць адны травалісныя расьліны, а ўлетку—другія, а некаторых з першых ужо і сьледу няма. Такім чынам, склад згуртаваньняў мяняецца па порах году.

Тое самое наглядаецца і ў іншых згуртаваньнях, напрыклад на лугох можна адрозьніць наступныя стадыі вэгетацыі.

1. Рознатраўная вясеньняя.—Разьвіты Veratrum, Caltha palustris, Frollius europeus, Geum rivale, Polygonum Bistorta, Cardamine pratensis.

2. Траўная летняя, anthoxantum odoratum. Poapratensis, Deschampsia caespitosa і інш. траў.

3. Рознатраўная—летне-васеньняя: Filipendula Ulmaria, Lychnis flos cuculi, Leontodon autumnalis і інш.

У кожнай з гэтых стадый можна адрозьніць некулькі фаз, якія характарызуюцца кожная найвышэйшым красаваньнем у пэўным парадку зьмяняючых адна другую расьлін. Фаза найбольшага красаваньня ў лугавым згуртаваньні, напр., Cardamine pratensis—і будзе момантам знаходжаньня гэтае расьліны ў аспэкце. Для прыкладу прыведзена частка фэно-эколёгічнага спэктру жытняга поля ў Зах. Эўропе, які паказвае, як графічна прадставіць зьмену аспэктаў у згуртаваньні. Бесьперарыўныя рысы азначаюць пэрыод спакою расьліны; найбольш тоўстая частка азначае пэрыод найбольшага разьвіцьця (аспэкт) расьліны. Раўнаючы фэноэколёгічныя спэктры якога-небудзь згуртаваньня на працягу шэрагу гадоў можна прасачыць і хронолёгічную зьмену аспэктаў для данага згуртаваньня, якая адбівае на сабе ўплыў за гэты пэрыод кліматычных умоў. Гэтая зьмена аспэктаў паасобных расьлін у згуртаваньні побач з іншымі ўмовамі яго існаваньня дазваляе найлепш выкарыстаць цэльнаму згуртаваньню вытворчыя сілы асяродзьдзя. Такім чынам усякае нязьмененае чалавекам згуртаваньне зьяўляецца організацыйным цэлым, якое мае свой лад, структуру, пры гэтым соцыяльныя ўзаемаадносіны паміж расьлінамі, складаючымі тое ці іншае згуртаваньне, азначаюцца іх барацьбою за існаваньне. Гэтая барацьба ўкладае ў пэўныя рамкі паасобныя расьліны, складаючыя згуртаваньне. І па знадворным выглядзе паасобных расьлін згуртаваньня можна судзіць як аб посьпеху іх удзелу ў узаемнай барацьбе за існаваньне (напр. пустазельля і збожжа на полі), так і аб стане цэльнага згуртаваньня (напр., вышыня травастою на лузе, хваіна на балоце і хваіна на пяску), якое адбівае як у люстры добрыя або дрэнныя ўмовы, напр., глебавыя, умовы вільготнасьці і г. д., альбо, як кажуць, адбівае сваю *прыстасаванасьць* да даных знадворных умоў.

*) В. С. Доктуровский и Н. Н. Жукова. Ботанические исследования по среднему течению р. Птичь.

У гэтых адносінах тая ці іншая расьліна ў даным згуртаваньні можа адчуваць сябе ў поўнай гармоніі з акаляючымі яе ўмовамі, альбо ледзь-ледзь мірыцца з імі. Пры нагляданьні над іншым бокам узаемаадносін расьлін у згуртаваньні можа дапамагчы наступная табліца градацый прыстасаванасьці або жыцьцяздольнасьці (прапанав. Braun-Blanquet'ам і Pavillard'ам).

1. Расьліны, што праходзяць увесь свой нормальны цыкль.

2. Расьліны з няпоўным цыклем разьвіцьця, аднак вэгетацыйнае разьвіцьцё значнае.

3. Як папярэднія, але вэгетацыйнае разьвіцьцё слабое.

4. Расьліны, што толькі іншы раз даюць парасткі, але ў далейшым гінуць.

Расьліны, што ствараюць згуртаваньне, будуць адносіцца да першай катэгорыі. Расьліны некрасуючыя, як напр., на лугох больш сухіх, (Carex vesicaria, Carex Gracilis і інш.)—да другой; на лугох, напр., як рэшткі ранейшай забалочанасьці, можна спаткаць маленькія, некрасуючыя экзэмпляры Caltha palustris; у зацянёных мясцох каля лесу можна спаткаць кепска разьвітыя розныя травы, якія ў сьветлых мясцох належаць да першай катэгорыі. Да апошняй належаць усходы дрэўных ліставых парод у яловым лесе, якія ў глебе даюць 2—3 лісткі, але далей іх разьвіцьцё ня ідзе. Зусім зразумела, што ў розных згрутаваньнях адна і тая-ж расьліна адносіцца да розных катэгорый.

Наглядаючы флёрыстычны склад розных згуртаваньняў, няцяжка заўважыць, што адны расьліны заўсёды трапляюцца ў пэўных згуртаваньнях і толькі ў іх, іншыя, аддаючы перавагу пэўным згуртаваньням, рэдка або часта трапляюцца і ў іншых і, нарэшце віды, якія трапляюцца ў розных згуртаваньнях.

Такая больш-менш сталая прыстасаванасьць тых або іншых відаў да пэўных згуртаваньняў дазваляе вызначаць у ім віды—*характэрныя:* а) якія трапляюцца толькі ў пэўным згуртаваньні (журавіна на торфяніках, аір, чарот, сіт на травяных балотах, на вільготных лугох—Deschampsia caespitosa і г. д.) в) віды; якія трапляюцца пераважна ў даным згуртаваньні, але таксама, хоць і рэдка, у згуртаваньнях блізкіх. Drosera rotundifolia трапляецца пераважна на сфагнавых, тарфяных і на тарфян. з зазюлкавым ільном і с) віды, якія трапляюцца шмат у якіх згуртаваньнях, але аддаюць перавагу пэўным згуртаваньням,—паземкі, Primula officinalis.

Віды *нехарактэрныя*—яны трапляюцца ў больш-менш значнай колькасьці шмат у якіх згуртаваньнях, напр. дзьмухавец, брунэлька і нарэшце *выпадковыя* віды. Апошнія звычайна бываюць чужакамі ў даным згуртаваньні.

Вызначэньне *вернасьці* згуртаваньня або выдзяленьне з сьпісу згуртаваньня расьлін характэрных, вымагае папярэдняга вывучэньня ўсіх згуртаваньняў, акія трапляюцца ў данай мясцовасьці. Але строга кажучы, калі згуртаваньне разумець вузка ў сэнсе аднэй асоцыяцыі, дык характэрныя віды для гэтай толькі асоцыяцыі выдзяліць ня так та лёгка.

Для прыкладу прывяду падзел некаторых расьлін яловага лесу (разумеючы пад ім групу блізкіх асоцыяцый) па *вернасьці* або іх характэрнасьці на наступныя групы:

5. Monesis uniflora, Gymnadenia cucullata, Linnaea borealis, Anemone nemorosa.

4. Circaea alpina, Goodiera repens, Aspidium Dryopteris.

3. Trieutalis europaea, Oxalis acetossella, Pirola secunda.

2. Fragaria vesca, Convallaria majalis, Poa nemoralis, Paris quadrifolia, Melampyrum nemorosum.

1. Calamagrostis Epigeios, Epilobium angustifolium, Melilotus officinalis.

Адгэтуль вынікае, што пры вывучэньні расьліннага згуртаваньня трэба грунтавацца на большым ліку нагляданьняў (сьпісаў відаў) з зазначэньнем шэрагу іншых умоў для таго, каб, раўнаючы іх, дакладна вызначыць характэрны склад асоцыяцый данай мясцовасьці.

Так званае *багацьце*—г. зн. колькасны ўдзел данага віду ў складаньні згуртаваньня (лік экзэмпляраў) падлічваецца (гл. вышэй) і панаваньне данага віду ў згуртаваньні, г. зн. плошча займаемая даным відам у згуртаваньні—можна якасна ўлічваць для кожнага віду па наступнай шкале:

| Багацьце | | Панаваньне. |
|---|---|---|
| Вельмі багата | = 5 = | Поўнае панаваньне. |
| Багата | = 4 = | Адноснае панаваньне. |
| Не багата | = 3 = | Некаторая прыметнасьць. |
| Мала | = 2 = | Нязначная прыметнасьць. |
| Вельмі мала | = 1 = | Поўная падлегласьць. |

Пры якасным падліку „багацьця“ і „панаваньня“ як відаць, гэтыя паняцьці супадаюць, дзеля таго іх можна адзначыць лічбавай шкалай.

Характар разьмеркаваньня відаў на данай плошчы згуртаваньня атрымаў назву *трапляемасьці* (гл. азнач. багацьця). Больш дакладны падлік выяўляецца ў %. На даным вучастку бяруць некулькі пляцовак аднолькавага памеру і з поўнага флёрыстычнага сьпісу выводзяць мясцовую трапляемасць. У расьлінным згуртаваньні віды рэдка разьмяркоўваюцца роўнамерна, часьцей мы іх знаходзім групамі, чыстымі зарасьнікамі, больш-менш разьяднанымі, ці паасобнымі індывідуумамі. Гэты ўдзел відаў у складаньні згуртаваньня можа быць ахарактарызаваны наступнымі градацыямі:

1. Від трапляецца паасобнымі індывідуумамі,

а) адзінкавымі сьцяблямі,

б) па некулькі сьцяблоў з аднаго сьцябло-кораня або кораня пучком (кустом),

в) дзернавінамі (Deschampsia caespitosa) або падушкамі,

г) латкамі, г. зн. пухкімі зарасьнікамі, прычым паасобныя часткі зарасьніку зьвязаны паміж сабой жывымі часткамі ў адно цэлае (Pirola, Oxalis).

2. Від, які трапляецца ў злучэньні некулькіх індывідаў.

д) групамі (куртинами)—паасобныя расьліны, што складаюць групу, губляюць паміж сабой жывую сувязь і растуць паасобнымі індывідамі, хоць і блізка адна да другой,

е) плямамі—калі паасобныя расьліны і куп‘яваты растуць больш-менш зьбліжана.

Такім чынам удзел віду ў даным згуртаваньні можна разглядаць з розных бакоў. Кожны з іх, мае на мэце падыйсьці бліжэй да правільнага разуменьня ролі паасобнага віду ў згуртаваньні.

Суадносіны, у якіх мы знаходзім у згуртаваньні кожны паасобны від расьліны—выяўляюць ня толькі ўсю суму ўмоў існаваньня яго сярод даных жыцьцёвых абставін, але таксама і ўзаемны ўплыў расьліны аднэй на другую.

Аголеная паверхня зямлі, якая толькі што пачынае засяляцца розным выпадковым падборам відаў расьлін, ня будзе згуртаваньнем да тэй пары, пакуль расьліны, ізоляваныя спачатку адна ад аднэй, не пачнуць злучацца раней падземнымі, а потым і надземнымі часткамі. Як толькі гэта здарыцца, дык выпадковы зарасьнік, дзякуючы ўплыву відаў аднаго на другі (барацьба за глебу і сьвятло), пачынае органі-




Фэно-эколёгічны спэктр.



Экзэмпляр канюшыны, што ўзрасла ў згуртаваньні.



Разьмеркаваньне дрэў па клясах крафта.



Экзэмпляр канюшыны, што ўзрасла на волі.

зоўвацца ў згуртаваньне. Нежыцьцяздольныя віды пры гэтым зьнікаюць, тыя, што застаюцца, разьмяркоўваюцца паводле сваёй прыстасаванасьці да даных умоў. Процэс гэты адбываецца вельмі павольна, на працягу цэлага шэрагу гадоў, аднак, у канцы канцоў, калі ня будзе штучных уплываў на жыцьцё данага згуртаваньня, яно складзецца ў гэткае, якое будзе найлепш прыстасавана да клімату, глебы, вільготнасьці і інш. умоў данае мясцовасьці. І падобна да таго, як мы знаёмімся з эколёгіяй і біолёгіяй паасобнага віду, таксама без знаёмства з біолёгіяй і эколёгіяй згуртаваньняў нельга прысьці да поўнага разуменьня жыцьця згуртаваньня. Гэтыя бакі вывучэньня згуртаваньняў далёка яшчэ не сказалі свайго апошняга слова.

Калі мы зьбіраем гэрбары і імкнемся да вывучэньня ўсёй match стайнасьці форм расьлін, якія трапляюцца ў абранай намі для назіраньняў мясцовасьці, мы падыходзім да вывучэньня расьлін *флёрыстычна.* Калі нас цікавяць пытаньні, як расьліны разьмяркоўваюцца ў даных умовах, чаму так, а ня іначай разьмяркоўваюцца і групуюцца, якія знадворныя абставіны іх абкружаюць і якія зьмены яны ў іх выклікаюць, у гэтым выпадку вывучэньне прымае *эколёгічны* характар. Нарэшце, калі мы разам з тым ставім сабе заданьнем высьветліць узаемаадносіны расьлін, якія прымаюць удзел у згуртаваньні, або, як кажуць, зьявы фітосоцыяльнага парадку, дык у такім разе об'ектам нашага назіраньня зьяўляецца ўжо не паасобны від расьліны, а цэльнае згуртаваньне іх. Падобна да таго, як і вывучэньне грамадзкіх зьяў сярод людзей зьяўляецца складанай проблемой, таксама і высьвятленьне зьяў грамадзкасьці ў расьлін зьяўляецца цяжкім заданьнем, асабліва дзеля таго, што гэта—заданьне новае, вывучаць яго пачалі толькі 30 год тому назад.

Апісаньне фактычнага складу згуртаваньня, фіксаваньне складу яго шляхам гэрбарыю, зьяўляецца спосабам дакумэнтальнага спосабу высьвятленьня складу згуртаваньня. Гэта грунт вывучэньня расьліннасьці.

Эколёгічнае вывучэньне разглядае знадворныя ўмовы, сярод якіх жывуць расьліны, а таксама і вынікі гэтага ўплыву, якія выяўляюцца ў прыстасаванасьці расьліны да даных умоў. Зробім кароткі агляд іх.

Знадворныя ўмовы—гэта сьвятло, цяпло, вільготнасьць, глеба, рэльеф (макро і мікро-клімат, макро і мікро-рельеф), а таксама і іншыя фактары, якія ўплываюць цяпер ці рабілі ўплыў у даўно мінулыя часы (як, напр., Ледавіковы пэрыод).

1) *Вільгаць* мае для расьлін вялізарнае значэньне і робіць вялікі ўплыў на іх разьмеркаваньне. Дацкі вучоны Вармінг падзяліў расьліны па адносінах да вільгаці на ніжэйпаданыя тыпы: сухалюбы (ксэрофіты), вадалюбы (гідрофіты) і мэзофіты, г. зн. расьліны, якія задавальняюцца сярэдняй колькасьцю патрэбнай для іх вільгаці. Усе гэтыя тыпы маюць прадстаўнікоў у флёры БССР. На сухіх пяшчаных узгорках (выдмах) мы знаходзім Helychrysum arenarium, Anthenaria dioica, Hieracium pilosella, Potentilla argentea, Berteroa incana, Verbascum Thapsus, Thymus angustifolius і цэлы шэраг іншых відаў, якія адносяцца да гэтага тыпу. Трапляюцца ў нас і расьліны суккуленты Sedum acre, Sedum maximum (Расходнік вялікі) і sempervivum. Да сухалюбаў належаць і хмызьнякі з скураватымі лісьцямі, якія трапляюцца як на сухіх мясцох (мучаньнік, верас), так і на балотах (багун, журавіны, андромэда, буякі, брусьніца, чарніца і г. д. Прысутнасьць расьлін ксэрофітнага тыпу на тарфяным балоце, звычайна багатым на вільгаць, тлумачыцца тым, што, ня гледзячы на абсолютнае багацьце вільгаці ў субстраце, гэтая вільгаць цяжка дастаецца расьлінамі, лёгкаму паступлепьню вады перашкаджае нізкая t° глебы тарфяніку і яе квасьнасьць, з гэтае прычыны расьліны набываюць здольнасьць абараняць сябе ад лішняе страты вільгаці пры дапамозе апушаных лісьцяў, павялічанай колькасьці іх і г. д.

Вадалюбы гэта расьліны вадзяныя і прыбярэжныя, прынамсі карэньні іх заўсёды знаходзяцца ў глебе, багатай на вільгаць. Рэшта расьлін належыць да мэзофітаў. Яны жывуць ва ўмовах вільготнасьці сярэдняй паміж гэтымі дзьвюма крайнасьцямі.

2) *Цяпло.* Расьліны разьмяркоўваюцца па земнай кулі адпаведна

сваім патрэбам у цяпле. У адным і тым самым географічным пункце minimum'ы, optimum'ы і maximum'ы тэмпэратур, патрэбных для пасобных відаў, бываюць розныя. Паступовае нарастаньне тэмпэратуры ад пачатку вэгетацыі (вясны) к лету абумаўляе паступовае і пасьлядоўнае разьвіцьцё адных расьлін усьлед за другімі. Раней—вясновыя расьліны—крупкі, Heratica triloba, браткі, Corydabis, Gagea—зьмяняюцца пазьней вясновымі, як лантуш, Ficaria і інш. Напрыклад, жыта пачынае прарастаць пры t⁰+4⁰, пшаніца пры t⁰+14⁰. Распусканьне лісьцяў нашых дрэўных парод таксама адбываецца ўстрогай адпаведнасьці з паступовым нарастаньнем тэмпэратуры.

Шыротнае разьмеркаваньне расьлін у канчатковым падрахунку залежыць ад сумы цяпла, якая атрымліваецца тым ці іншым географічным пунктам у пэрыод вэгетацыі. Калі скласьці разам найвышэйшыя t—ры дзён ад пачатку вэгетацыі да канца яе, дык сума іх дасьць лік так званых градусаў дзён. Напрыклад, у Полацкай акрузе пры вэгетацыйным пэрыодзе ў 170—180 дзён лік градусаў дзён=1.350—1.500. У Мазырскай, Рэчыцкай і Гомельскай акругах пры пэрыодзе вэгетацыі да 200 дзён лік градусаў дзён роўны 1.800—1.900. У рэшце акруг гэтыя велічыні будуць займаць сярэдняе месца паміж памянёнымі. Напрыклад, Слуцкая акруга пры вэгетацыйным пэрыодзе ў 190—200 дзён мае лік градусаў дзён роўны 1.700—1.800.

3) *Сьвятло.* Па адносінах да сьвятла расьліны падзяляюць на сьвятлалюбы, г. зн. тыя, якія могуць пераносіць толькі нязначнае зацяненьне, і расьліны ценялюбы. Па вымаганьнях да сьвятла, напрыклад, можна разьмеркаваць нашы дрэўныя пароды ў наступныя шэрагі:

I. Бяроза, Асіна, Чорная вольха.

II. Сасна, Ясень, Дуб, Вяз, Клён (Acer pseudoplatanus).

III. Елка, Ліпа, Граб.

У параўнаньні з расьлінамі сьвятлалюбамі, якія трапляюцца на сонечных адкрытых мясцох, расьліны ценялюбы знаходзяцца на глебе зацянёнага лесу, колькасьць сьвятла, якую яны атрымліваюць у некалькі дзесяткаў разоў меншая ў параўнаньні з першымі. Да расьлін ценялюбаў належаць наступныя: Asarum europaeum, Paris quadrifolia, Majanthemum bifolium, Orobus vernus, Melika nutans, віды Pyrola (глушанкі), Pulmonaria, брызьліны, Воўчае лыка і г. д.

4) *Глеба.* Глеба робіць, галоўным чынам, уплыў на топографічнае разьмеркаваньне расьлін. Галоўнейшыя тыпы глеб—пяшчаная, глiністая і перагнойная. Усе яны маюць многа адменьнікаў і зьвязаны паміж сабою пераходамі (напр., ад пяскоў праз супесі, суглінкі да глiністай глебы). У Беларусі шырака распаўсюджаны *падзолістыя* глебы: слаба-падзолістыя на пяскох, сярэдня-падзолістыя на супесях і лёгкіх суглінках (яловыя лясы) і моцна-падзолістыя на суглінках і глінах. Тамака, дзе ёсьць збытак вільгаці, можна спаткаць падзоліста-балотныя глебы, якія характарызуюцца прысутнасьцю вохрыста-бурай праслойкі ў глебе або так званага орштэйну. Гэткія глебы трапляюцца па краёх буйных балоцістых нізін, у замкнутых катлінах і западзінах, куды сьцякае падаючая на глебу з паветра вільгаць, а нарэшце, там, дзе пухкі верхні пласт глебы мае пад сабой вадаўпорную пароду (гліну), мае квасны перагной.

Тарфяныя глебы, якія трапляюцца ў нізінах і катлінах, шырака распаўсюджаны на Беларусі; найбольшага пашырэньня яны дасягаюць у балотна-пяшчаных раёнах БССР (трафяныя балоты Палесься).

5) *Рэльеф.* Уплыў рэльефу на разьмеркаваньне расьліннасьці выяўляецца ў разьмеркаваньні вільгаці і цяпла ў глебе.

Найбольш узвышаная частка БССР гэта краіна морэн, з вышынёю над роўнем мора ад 120 саж. і вышэй (Лысая гара 160 саж.)—Гарадокска-Нэвельская, Менска-Лепельская грады. На ўсход і паўднёвы ўсход ад Менска-Лепельскай грады знаходзіцца раўнінная частка Беларусі (выш. 120—80 саж.), а на поўдзень ад лініі Слуцак-Бабруйск-Рагачэў—нізінная частка БССР (выш. 80—40 саж.), найбольш зьніжаная ў раёне Мозыр-Слуцак-Пінск (даліна р. Прыпяці). Раўнінная частка БССР мае часьцей за ўсё ўзгоркаваты рэльеф, а ў нізіннай абшары балот зьмяняюцца пяшчанымі градамі (выдмамі), дзеля чаго гэтая частка БССР атрымала назву пяшчана-балотнага раёну. Кірунак схілаў узгоркаў робіць уплыў на разьмеркаваньне на іх расьліннасьці, таксама як і іх стромкасьць. Паўночныя схілы і паўднёвыя значна розьняцца паміж сабой як па сваёй расьліннасьці, так і па часе яе зьяўленьня і разьвіцьця. Апроч уплыву рэльефу або, як кажуць, макрорэльефу, трэба ўлічваць і мікрорэльеф, г. зн. тыя нязначныя паглыбленьні і ўзвышшы, якія ёсьць паўсюды, нават на аднастайнай раўніне балот. Умовы існаваньня расьлін, напрыклад, на кочках і паміж імі розьняцца, а гэта робіць уплыў і на самую расьліннасьць. Вышэйпералічаныя эколёгічныя фактары жыцьця расьлін у сваёй суме складаюць тое, што носіць назву клімату краіны. Клімат БССР, раўняючы яго, напр., з маскоўскім, характарызуецца наступнымі рысамі: больш мяккая зіма і больш прахалодлівае лета; нявыразныя, бадай што няпрыметныя пераходы ад зімы к вясьне і ад восені к зіме; частыя пераходзячыя дажджы, нястатак сонечнага яснага надвор'я, павышаная адносная вільготнасьць паветра, адсутнасьць наогул рэзкіх контрастаў, г. зн. пераход да морскага клімату (Касаткін).

Гэты клімат, дзякуючы вялікім абшарам БССР (з поўдня на поўнач 600 в.), а таксама дзякуючы і орографічным даным, значна зьмяняецца, што дазваляе БССР падзяліць не некалькі наступных раёнаў.

1. Паўночны—Полацак-Менск-Горкі—узвышаны вазёрны раён і краіна канцовых морэн. Працяг вэгетацыйнага пэрыоду 170—180 дзён. Сярэдняя тэмпэратура вэгетацыйнага пэрыоду $13^{0}$, ападкі 600—650 mm, лік градусаў дзён 1.500—1.350.

2. Цэнтральны—Магілеў-Барысаў-Бабруйск—раўнінны.

3. Паўднёвы — Гомель-Рэчыца-Мозыр—нізінны пяшчана-балотны. Працяг вэгетацыйнага пэрыоду 190—200 дзён, сярэдняя тэмпэратура вэгетацыйнага пэрыоду 13,6—$14{,}5^{0}$. Ападкі 600—650 mm, лік градусаў дзён 1.700—1.900.

У межах гэтых раёнаў паасобныя элемэнты клімату зьмяняюцца і дазваляюць вызначыць падраёны, напрыклад, усходнія і заходнія, а ў паўночным—Полацкі, Горацкі і Менскі.

6. *Уплыў чалавека* таксама зьяўляецца вялізным фактарам у жыцьці расьлін. Вынікі гэтага ўплыву: зьнішчэньне ранейшых згуртаваньняў, утварэньне новых (так званая сікантропная расьліннасьць—расьліннасьць, якая спадарожнічае чалавеку). Усё гэта можна назіраць на кожным кроку. На лугох сталая касьба сена ўплывае на склад гэтых згуртаваньняў, раней узараныя, а потым закінутыя абшары, асушаныя балоты, лесасекі, лясныя пажарышчы і г. д. мяняюць відавы склад расьлін, і калі там і аднаўляецца згуртаваньне відаў, уласьцівых натуральным згуртаваньням, дык усё-ж такі сярод іх можна спаткаць віды, якія сьведчаць аб тым ці іншым уплыве на стварэньне но-

вай групоўкі відаў. Так, напрыклад, на пагарэлых балотах часта ў значнай колькасьці зьяўляецца пухоўка шыракалістая (Thypha latifolia), па пяшчаных баравінах, на мясцох даўно закінутых палёў можна спаткаць галадок (Sclevathus annuss) і г. д. Іншы раз які-небудзь від, які трапляецца сярод гэтага згуртаваньня, можа даць указаньні на тыя зьмены, якія перажыло гэтае згуртаваньне з моманту свайго ўзьнікненьня. Гэтая цікавая старонка жыцьця расьліннасьці бадай што зусім не закранута ў БССР, а між тым яна зьяўляецца ўдзячным матар'ялам для фактычных назіраньняў над жыцьцём згуртаваньняў.

Пры вывучэньні расьлінных згуртаваньняў карыстаюцца мэтодам спробных пляцовак. Сутнасьць гэтага мэтоду ў тым, што ў згуртаваньні, якое вывучаецца, выдзяляюць пляцоўку, якая носіць назву „плошчы выяўленьня“. Велічыня яе можа быць розная—ад 1/2, 1/4 гэкт. да аднаго кв. мэтра, у залежнасьці ад уласьцівасьцяй згуртаваньня. Напрыклад, на імшары, на сфагнавым балоце задаволіць пляцоўка ў 1 кв. мэтр, на больш багатых і рознастайных па сваім складзе згуртаваньнях пляцоўку трэба браць большую.

Мінімальная патрэбная велічыня пляцоўкі азначаецца на практыцы такім спосабам. Бяруць некалькі спробных пляцовак рознай велічыні і раўняюць іх відавы склад. Калі велічыня іх меншая, чым патрэбна, дык агульных відаў у іх будзе мала. Павялічваючы памеры пляцовак і раўняючы іх відавы склад, атрымаем большы лік агульных для іх відаў. Калі віды, агульныя для абраных пляцовак, трапляюцца ня менш як да 80% усіх пляцовак, дык гэтыя віды будуць *константамі* для данага згуртаваньня. Выяўленьне констант мае на мэце знайсьці больш-менш цесную сувязь відаў з даным згуртаваньнем. Зразумела, што колькасьць пляцовак павінна быць узята выстарчальная, лепш браць як мага больш, бо толькі ў гэтым выпадку вынікі ўжываньня гэтага мэтоду ня будуць выпадковымі.

Расьлінныя згуртаваньні не застаюцца нязьменнымі. Калі знадворныя ўмовы не мяняюцца, дык сама расьліннасьць іх зьмяняе ў той ці другі бок. Пры зьмене-ж умоў зьмяняецца і расьліннасьць. Адным з агульных фактараў зьмены расьліннасьці зьяўляецца *клімат*. У межах Беларусі, кіруючыся з поўдню на поўнач, мы бачым, як адны згуртаваньні зьмяняюць другія. Напрыклад, на поўдні БССР няма яловых лясоў, але затое трапляюцца дубова-грабавыя дрэвастаны, якія, прыблізна, крыху на поўдзень ад шыроты Менску зьнікаюць. Паўночней шыроты Менску пачынаюцца дрэвастаны шэрай вольхі, звычайнай пароды на поўначы БССР, але якую нельга спаткаць на поўдні. (зьвілістасьць межаў тых ці іншых парод тлумачыцца ўмовамі рэльефу, глебы і мясцовага клімату, таксама і мікро-клімату). Такім чынам, кліматычныя ўмовы выклікаюць так званую зональнасьць расьліннасьці (зона шыракалістага лесу з грабам, зона мяшанага лесу з перавагаю елкі, зона яловых лясоў). *Простастаўную зональнасьць* разьмеркаваньня расьліннасьці добра можна наглядаць там, дзе якая-небудзь істотная для жыцьця расьліны ўмова хутка зьмяняецца. Напрыклад, у *вадзяным асяродзьдзі,* у якім-небудзь возеры, ад берагу ідучы ўглыб, разам з нарастаньнем глыбіні зьмяняецца і расьліннасьць. Прыбярэжная вадзяная зона зьмяняецца зонаю падводных мікрофітаў, і далей, да гранічнае глыбыні—праніканьня сьвятла—пашыраецца зона мікрофітаў; або, напрыклад, ад цэнтральнай часткі балота да яго краю, ад даліны ракі да вадападзелу зьмяняюцца і формацыі, а ў межах аднэй формацыі можна добра наглядаць і зьмены асоцыяцый. Менш

рэзкімі зьяўляюцца межы лугавых асоцыяцый, але яны больш за ўсё маюць на сабе сьлядоў уплыву на іх жыцьцё з боку чалавека; аднак, ня гледзячы на гэта, і тут можна заўважыць даволі пэўную зональнасьць у сувязі з рэльефам (мікрорэльефам) і зьвязанай з ім зьменай вільготнасьці глебы. У тых выпадках, калі мікрорэльеф прадстаўляе з сябе пёстры малюнак, які хутка мяняецца, але і паўтараецца ў тойжа час, дык такі самы малюнак хуткай зьмены і паўтарэньняў дадуць і расьлінныя згуртаваньні. Раздробленыя вучасткі іх будуць належаць да розных асоцыяцый і ўвесь краявід будзе прадстаўляць з сябе *комплекс асоцыяцый,* напрыклад, на балоце, пакрытым кочкамі.

Прыкладам зьмены згуртаваньняў самою расьліннасьцю служыць зарастаньне вадзяных абшараў, утварэньне балот травяных ці імшараў. Гэткія прыклады надзвычайна часта можна спаткаць на Беларусі.

Засяленьне новай глебы, раней пазбаўленай расьліннасьці, як рэчныя пяшчаныя наносы, вопаўзьні, схілы жал.-дар. насыпаў, зьяўляюцца таксама цікавымі об'ектамі дляназіраньняў над засяленьнем новай глебы (адкрытая, іначай кажучы, няшчыльная асоцыяцыя, выпадковы склад відаў). З утварэньнем шчыльнага акрыцьця паміж відамі пачынаецца асабліва моцная барацьба, якая вядзе да выцясьненьня некаторых відаў і ўтварэньня спачатку зельлевых асоцыяцый, а потым і дрэўных.

У накіраваньні гэтага процэсу іграюць ролю і глебавыя бактэрыі, насяленьне якіх зьмяняецца ў сувязі са зьменаю расьліннасьці і зьменамі, якія ўносяцца ў глебу тымі і другімі.

Зьмена асоцыяцый назіраецца і ў лясной формацыі. Сасна зьмяняецца елкаю. Пад полагам сасновага бору часта можна знайсьці яловы паверх. Гэта будзе натуральная зьмена парод. Выпадковыя прычыны (лясныя пажары, высечкі, касьба, паша, разворваньне, абгаленьні глебы) выклікаюць таксама зьмены расьліннасьці, але гэтыя зьмены ў канцы канцоў аднаўляюць першапачатковы склад дрэвастану. Напрыклад, пасьля высечкі сасны, нярэдка яна замяшчаецца бярозаю. Беразьнякі таксама ў канцы канцоў ізноў аддаюць сваё месца сасьне.

У пяшчана-балотных раёнах БССР (паўднёвая БССР) зьмены глеб і расьліннасьці прадстаўлены на схэмах (па В. Касаткіну, гл. далей).

1. *Разьдзьмуваемыя пяскі* то вольныя ад усякай расьліннасьці, то пакрытыя рэдкімі адзінкавымі сасонкамі, бярозкамі і няшчыльным зельлевым акрыцьцём з адзінкавых расьлін або раскіданых кавалкаў дзернавін з ліку сухалюбаў. Knautia arvensis Coult. Silene venosa (Gilb). Asrhers. Linaria vulgaris L. Potentilla argentea L. Achillea Millefolium L. Agcostisolba L. Artemisia campestris L. Helychrijsum arenarum, DC. Hieracium pilosella L., Berteroa incana DC. Calamagrostis Eprogeios Lam., Dianthus arenarius L.. Jasione montana, Silene Armeria L., Silene Otites Smith., Thymus augustifolius (Pers) Wald., дзіванны, Veronica Spicata.

2. *Лішайнікавы бор,* дзе пануе сасна з лішайнікамі на глебе (Cladonia rangiferina і Cladonia Silvestris), а апроч іх, зельлевае больш густое акрыцьцё, якое складаецца з вышэйпамянёных расьлін з дадаткам да іх і іншых. Тут можна спаткаць Festuca ovina, F. rubra, Hieracium umbellatum L., Solidago virgo anrea L., Vincetoxicum officinale Moënch (толькі на поўдні БССР), Pulsatilla patens L., Potentilla tormentilla, Hypericum perforatum L., Galium verum L., Dianthus deltoides L., Erigeron acer L. і інш.

3. *Верасавы бор*—сасна з Calluna vulgaris L. паступова пераходзіць у

4. *Ягадны бор.* Тут мы бачым сасну, іншы раз з дамешкаю бярозы і іншых дрэўных парод. Зельлевае акрыцьцё—чарніца, брусьніца, Anthoxanthum odoratum, глушанка, вароніка і шмат інш.

5. *Мяшаны лес* рознага складу:

a) з перавагаю *сасны,* бярозы і елкі, у зельлевым акрыцьці—ягаднікі; глеба падзолістая.

b) з перавагаю *грабу* і асіны; глеба падзолістая (сх. 6; толькі на поўдні БССР).

c) з перавагаю *бярозы,* сасны, вольхі, вярбы, багуну, буякоў.

6. Альхоўнікі на поўбалотных глебах (сх. b).

7. d) Зараджаючая мшара (балота).

e) Мшара з торпава-балотнай глебай (сх. 6).

7. f) Мяшаны лес па тарфяным балоце (сх. А).

8. g) Лугавое балота з глыбака-тарфянаю глебаю (схэма А), a) з перавагаю траў, b) асок, c) балотнага рознаельля, d) чаротаў.

9. Воды з зонамі (гл. вышэй).

Гэтая схэма прыгодна і для паўночнай БССР (Полаччына) з некаторымі зьменамі (яловыя лясы). Што да лугавых і балотных расьлінных асоцыяцый, дык можна выкарыстаць, як найбольш падходзячую (для орыентоўкі), схэму Сукачова для сумежнай з Паўночнай БССР Пскоўскай губ., а менавіта:

1. Лугі на верхавінах узгоркаў—асоцыяцыя сухіх узгоркаў: Anthenus tinctoria, Lychnis viscaria, Trifolium repens, Iasionr montana, Erigeron acer, Artemisia campestris, Breza media, Plantago Janceolate, Campanula patula, Anthenaria dioica, Knautia arvensis, Poiygala amara.

2. Лугі на сьвежых глебах, *ас. 2* з панаваньнем лаганцу (Leonto don) і Chrysanhemum Leucanthemum на сьветлых лёгкіх глебах:

3) Асоцыяцыя з панаваньнем лугавога валошкі (Centaurea Iacea) і Chrisanthemum Leucanthemum на сьвежых сярэдніх суглінках.

3. Лугі на сьвежых моцна ападзоленых глебах—асоцыяцыі на нядаўніх высечках з часовым нясталым складам.

4) Асоцыяцыя з панаваньнем каманішніку (Succisa) і сіўца звычайнага (Nardus stricta) на ападзоленых сьвежых глебах.

5) Асоцыяцыя з панаваньнем сіўца звычайнага (Nardus stricta) на падзолістых сьвежых глебах.

4. Лугі на вільготных глебах:

6) Асоцыяцыя з панаваньнем асок на вільготных глебах і часовыя асоцыяцыі на пасеках.

5. Вільготныя лугі на поўбалотных глебах:

7) Асоцыяцыя з панаваньнем мятліцы сабачай (Agrostis canina) і асакі (Carex Goodenowii) на вільготных поўбалотных глебах.

8) Асоцыяцыя з панаваньнем сіту (Iuncus) і асок (Carex) на вільготных поўбалотных глебах.

6. Лугі на асушан ых тарфяніках:

9) Асоцыяцыя з панаваньнем канюшыны (Trifolium) і асакі (Carex) на вільготных балотных глебах.

1. Балота траўна-асаковае.

10) Асоцыяцыя з панаваньнем маруны звычайнай і асакі на вільготных балотных глебах.

11) Асоцыяцыя з панаваньнем лісахвосту (Alopecurus) на глебах балотнага і поўбалотнага характару.

2. Балота з Betula humilis.

12) Асоцыяцыя з панаваньнем асакі і бярозкі (Betula humilis) на вільготных балотных глебах.

3. Балота асаковае.

13) Асоцыяцыя з панаваньнем асакі бяз дрэўнай расьліннасьці на вільготных балотных глебах.

4. Балота хвашчовае.

14) Асоцыяцыя з панаваньнем хвашча (Equisetum limosum) і асакі на вільготных балотных глебах.

15) Асоцыяцыя сьвежых лугавых глеб з часовым панаваньнем розных расьлін.

Для паўночнай БССР (Полаччына) да некаторай ступені можа быць ужыта схэма Сукачова.

Адразьняюць *асоцыяцыі адкрытыя* з няшчыльным расьлінным акрыцьцём. Прыкладам будуць згуртаваньні, якія засяляюць новую глебу.

*Замкнутыя асоцыяцыі,* ня зусім выявіўшыяся, *аднаскладовыя,* напрыклад, згуртаваньні, што засьмечваюць палі, як жоўтасот, зарасьнікі скрыпеню на пасеках і г. д. *Рознаскладовыя* з пёстрым выпадковым відавым складам, напрыклад, на пасеках. Засяліўшыя гэтыя месцы віды расьлін яшчэ ня выявілі сваіх узаемаадносін. Замкнутыя асоцыяцыі маюць сталыя ўзаемаадносіны паміж відамі. Характэрнай адзнакай такіх асоцыяцый зьяўляецца роўнамернае разьмеркаваньне ў ёй відаў. Да тыпаў гэткіх асоцыяцый належаць:

1. Лес. Пануючая соцыяльная група паверх дрэўных расьлін.
2. Хмызьняковыя зарасьнікі. Пануючая соцыяльная група паверх хмызьнякоў.
3. Лугі і лугавыя балоты. Пануючая соцыяльная група паверх зельлевых расьлін.
4. Імшара. Пануючая соцыяльная група паверх імхоў.

Зразумела, паміж гэтымі тыпамі можна спаткаць і пераходныя тыпы расьлінных згуртаваньняў.

Зельлевыя асоцыяцыі можна падразьдзяліць на простыя і складаныя. Простыя будуць тыя, у якіх азначаць асоцыяцыю будзе адзін які-небудзь від, напрыклад, сюды трэба аднесьці зарасьнікі сіту, сітніку, хвошчу балотнага і да т. п. У гэтых згуртаваньнях трапляюцца ў нязначным ліку іншыя віды, але ролі ня іграюць.

Складаныя зельлевыя асоцыяцыі ўтвараюць згуртаваньні, у якіх складаецца з некалькіх відаў, напр., траў, да іх прымешваюцца іншыя віды, эколёгічна блізкія да першых.

Нарэшце, самыя складаныя асоцыяцыі такія, у склад якіх уваходзяць розныя эколёгічныя тыпы, напр., сухадольныя лугі.

Гэтае разьмеркаваньне, як мы можам заўважыць, зроблена ў парадку зьмяншаючайся вільготнасьці субстрату—ад глеб са збыткам увільгатненьня да сухіх.

*Літаратура па соцыолёгіі:* Сукачев. Введение в фитосоциологию; Ильинский. Методика геоботанических исследований; Алехин. Что такое сообщество.

*Літаратура па эколёгіі:* Вармианг. Экология растений.

**Анкета для апісаньня расьлінных згуртаваньняў.**

1. Згуртаваньне.
2. Географічнае месцапалажэньне.
3. Топографія і ўмовы ўвільгатненьня.

4. Мікрорэльеф і характар паверхні.
5. Апісаньне глебы па паземах.
6. Дрэўная расьліннасьць, агульны стан.
7. Паўната.
8. Вышыня (у мэтрах).
9. 1 паверх.
10. Паўлесак.
11. Падрост.
12. Зельлевая расьліннасьць, агульны стан.
13. Гушчыня.
14. Вышыня.
15. Сьпіс відаў.
16. Мохавае і лішайнікавае акрыцьцё, агульны стан.
17. Агульныя заўвагі.

Камісіяй па пустазельнай расьліннасьці ўсесаюзнага зьезду батанікаў у Маскве ў 1926 г. ўхвалена наступная праграма-анкета:

## ПРОГРАМА-АНКЕТА

для апісаньня пустазельляў па мэтоду праф. С. С. Ганэміна і Н. В. Шыпчынскага.

№ __________ 192 года __________ мес. __________ чысла

1) БССР, акруга __________ раён __________ сельсавет __________ __________ населены пункт.

2) Назва культурнае расьліны __________ яравое, пар; азімае, залеж;

3) Плошча пасеву, пару, залежы (прыбл.) __________

4) Адкуль атрымана насеньне __________

5) Спосаб ачысткі насеньня __________

6) Рэльефныя ўмовы, кірунак схілу, мікрорэльеф __________

7) Глеба і падглеба __________

8) Месцапалажэньне поля ў адносінах да абкружаючых яго натуральных і культурных угодзьдзяў (схэматычны плян) __________

9) Месцапалажэньне спробнага або апісваемага вучастку сярод поля __________

10) Севазварот і гісторыя поля, пару залежы (папярэднія гады) __________

11) Спосаа і час апрацоўкі поля, пару, залежы, характарыстыка пару __________

12) Ці ўгнойвалася поле, чым і калі __________

13) Час і спосаб пасеву __________

14) Характар выкарыстаньня пару або залежы (паша, касьба) __________

15) Спэцыяльныя мерапрыемствы гаспадара па барацьбе з пустазельлем (полка і г. д.).

Рабіў абсьледваньне __________

Дата абсьледваньня .................................................. 192........ г.

| №№ па парадку | №№ гэрбарнага экз. расьлін. | Назва культурных расьлін і пустазельля (лац. і мясц.) | Сярэдняя вышыня ў сантымэтрах | Паверх | Ступень пашыранасьці | | Фаза разьвіцьця | | | | | | | | Біолёгічны тып | Увага (Характар разьвіцьця культурных расьлін і пустазельляў; псуцьцё расьліны грыбнымі чужаедамі і шасьціногімі і інш.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Па Мальцаву | Па Раункеру | Акружкі | Сьцяблы | Пачатак красаваньня | Поўнае красаваньне | Недасьпелыя плады | Дасьпелыя плады | Адміраньне | Абсемяненьне | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | |

**Тлумачэньні да анкеты.**

1) Пры аднаразовым маршрутным апісаньні засьмечанасьці поля трэба запоўніць пункты 1, 2, 6, 7, 8.

2) Пункты 3, 4, 5, 9, 10, 11, 12, 13, 14 і 15 запаўняюцца па меры магчымасьці.

3) Для найбольш поўнага высьвятленьня характару засьмечанасьці поля пажадана зрабіць пяцікратнае апісаньне аднаго і таго-ж самага вучастку яго: а) у момант куп'яваньня культурнае расьліны, б) калашэньня, в) перад зборам, г) пасьляжніўнае перад заворваньнем жніўя, д) перад падрыхтоўкаю поля на зіму. Такія апісаньні магчымы, зразумела, толькі для асобы, якая жыве на адным месцы.

4) Неабходна сабраць і засушыць усе расьліны, занесеныя ў анкету, дадаўшы да іх тыя №№, што і ў анкеце, а таксама адзначыць, да якой анкеты яно адносіцца.

5) Лацінскую назву расьліны можна зьмесьціць у анкету пасьля яе азначэньня; назву-ж зусім невядомае расьліны часова пакінуць мясцовую беларускую або расійскую.

6) Дзеля адзнакі вышыні культурных расьлін і пустазельляў прымаецца сярэдняя вышыня з азначэньнем меж хістаньняў, напр., 50 см. (70—30).

7) Да I паверху належаць пустазельлі, вышэйшыя за культурныя расьліны, да II—ня ніжэй сярэдзіны культурных, да III—ніжэй сярэдзіны культурных і да IV—імхі і прылягаючыя да зямлі расьліны. Культурныя расьліны заўсёды знаходзяцца ў II паверсе. Для адзначэньня павярховасьці на пары або залежы, культурныя расьліны, зразумела, пад увагу ня прымаюцца.

8) Ступень пашыранасьці ацэньваецца 4-ма баламі па мэтоду Мальцава: 1—адзінкамі, 2—раскідана, 3—даволі многа (пустазельля больш і яно глушыць культурныя расьліны). Групавое разьмеркаваньне і колькасьць груп адзначаецца дужкамі, напр., ⟨2⟩ (у групе, апроч апісанага пустазельля, ёсьць іншае). ⟨⟨2⟩⟩—(група ўтворана толькі адным пустазельлем).

9) Апісаньне ступені пашыранасьці па Раунікеру магчыма толькі на пары і залежы: бярэцца 50 спробных пляцовак у 1 кв. дэцымэтр, зазначаецца ў кожным з іх прысутнасьць або адсутнасьць данага пустазельля і сума ўсіх знаходжаньняў заносіцца ў графу анкеты.

10) Адзначаецца фаза разьвіцьця культурнае расьліны і кожнага пустазельля ў момант апісаньня, ставячы t у графу анкеты, адпаведна данай фазе разьвіцьця расьліны.

11) Адзначэньні біолёгічнага тыпу зьмяшчаюцца пасьля апрацоўкі гэрбарыю: кружок з кропкай усярэдзіне адзначае—яравое: кружок з 2 кропкамі ўсярэдзіне, зьмешчанымі паземна,—зімуючы яравы адналетак; дзьве поўакружыны сьпіною ўніз з кропкамі пасярод—азімы адналетак; 2 кружкі з кропкамі ў сярэдзіне—двохлетнік. Зельлевыя многалетнікі: $\gamma$—стрыжня-каранёвы, $\omega$—гронка-каранёвы і дзярновы, $\delta$—цыбулінавы і бульбінавы; $\mu$—сьцябло-кораневы і з сьцелючыміся надземнымі парасткамі; $\eta$—кораня-парасткавы.

Ботанічна-геаграфічны нарыс балот Валынскае губ. і папярэдняя справаздача Горанскай экспэдыцыі па дасьледваньні лугоў. Т-ва дасьледчыкаў Валыні, прыл. да т. VII прац. Житомір. 1914.

№ ..................
Год .............................. месяц ............................. чысло ..............................
Акруга ................................ раён ............................... сельсавет ..........................
Бліжэйшы населены пункт ...............................................................
Топографічнае становішча ...............................................................
Блізкасьць рэчнага вадазбору (ракі, возера) ........................................
Берагі балота (павышэньне над роўнем балота наўкольнае глебы)
.........................................................................................................
Рэльеф балота ...............................................................................
Паверхня балота (роўная або качкаватая) ...............................................
Памеры болата (у дзесяц.) ................................................................
Глыбіня балота ..............................................................................
Дно балота ....................................................................................
Ці ёсьць вазёры, вокны і як ідзе зарастаньне ...........................................
Ці няма крыніц, якія папаўняюць балота (ровень грунтовых вод)
.........................................................................................................
Астравы мінэральнае глебы сярод балота і іх расьліннасьць ..........
.........................................................................................................

Тып балота па расьліннасьці:

I. Імшара (сфагнавая, гіпнавая, пушычная).
II. Хмызьняковая імшара.
III. Імшара, парослая сасной.
IV. Імшара, парослая бярозай.
V. Траўнае (сітнік, чароты, пухоўкі, балотныя травы) ..........
.........................................................................................
VI. Хмызьнякова-траўнае.
VII. Асаковае.
VIII. Траўна-асаковае.

Сьпісы расьлін з паказаньнем: перавагі 5, часта 4, раскідана 3, рэдка 2, адзінкаю 1.

Тоўшча неперагніўшага пласту (спробы з 10, 20 см. і глыбей і спробы падглебавыя).

Кваснасьць торфу (лякмусавая папера)
Ці ёсьць уключэньні вівіанту
Ці ёсьць драўляныя рэшткі і на якой глыбіні
Ці слаісты торф ____________
Ці трапляюцца паблізу балота або на нязначнай глыбіні ў ім мінэральныя глебы і якія ____________
Мясцовая назва розных відаў балот і тарфянікаў ____________
Выкарыстаньне балота (касьба сена) ____________
Асушка ____________
Агульныя заўвагі ____________



# ХРОНІКА

## Менская конфэрэнцыя студэнцкіх краязнаўчых арганізацый.

Конфэрэнцыя адбылася 25/IV 27 г. Лік удзельнікаў яе да 70 асоб. Старшыня студэнцкай камісіі пры ЦБК т. Аніхоўскі, адчыняючы конфэрэнцыю, падкрэсьліў мэты, якія выклікалі конфэрэнцыю: закончыць арганізацыйны пэрыод існаваньня студэнцкіх краязнаўчых організацый, падвясьці вынікі працы, выявіць хібы і перашкоды ў працы за мінулы год і вызначыць шляхі па вытворчай працы организацый.

Конфэрэнцыя заслухала справаздачныя даклады: Т-ва краязнаўства пры БДУ, краязнаўчых гурткоў пры Белпэдтэхнікуме, Польпэдтэхнікуме, Гідротэхнікуме і інструкцыйны даклад навуковага сакратара ЦБК т. Касьпяровіча аб летняй краязнаўчай працы студэнцтва.

Т-ва пры Беларускім Дзярж. Унівэрсытэце за год правяло такую працу: дапасавала да сваіх умоў статут, пакладзены ў аснову ўсіх краязнаўчых організацый ВНУ на Беларусі; складзен орыентыровачны плян працы на год і на палову праведзен у жыцьцё; праведзена перарэгістрацыя сяброў т-ва; зараз у т-ве налічваецца 160 сяброў, з іх профэсуры 8 сяброў; нацыянальны склад: беларусаў 126 і яўрэяў 34; праўленьне т-ва складаецца з 12 сяброў. За справаздачны пэрыод адбылося 8 пасяджэньняў праўленьня і 3 агульныя сходы. Аформіліся і працуюць сэкцыі: мэдычная, культурна-гістарычная, соцыяльна-экономічная, прыродна-географічная і яўрэйская. Некаторыя сэкцыі падзяляюцца на камісіі, напр., культурна-гістарычная і прыродна-географічная. Кожнай сэкцыяй кіруе бюро з 3-х асоб пад ідэёвым кіраўніцтвам профэсуры і выкладчыкаў. Больш стала працуе мэдычная сэкцыя, якая знайшла правільны мэтод і зьмест працы. На сходах сэкцыі заслухан шэраг дакладаў, як, напр.: 1) Як і чым лечыцца сучасная вёска, 2) Вальляк па Менску, 3) Вальляк па Віцебшчыне і Аршаншчыне, 4) Санітарна-гігіечны досьлед Асіпавіцкага раёну і інш.

Культурна-гістарычная сэкцыя больш многалюдная, у ёй налічваецца 54 сябры. Сэкцыя заслухала шэраг дакладаў; некаторыя з іх маюць навуковую вартасьць, як, напр., даклад: „Менская батлейка“. У апошні час пры сэкцыі організавалася фольклёрна-дыялектолёгічная камісія. Другія сэкцыі толькі нядаўна аформіліся і вынікаў працы яшчэ няма. Галоўная ўвага т-ва ў цэлым у сучасны момант зьвернута на правядзеньне навукова-дасьледчай экспэдыцыі ў Мазыршчыну. Калі ўдасца наладзіць гэту экспэдыцыю, дык плян працы т-ва будзе выканан поўнасьцю.

Краязнаўчы гурток пры Белпэдтэхнікуме ў гэтым годзе налічваў у сваім складзе 48 асоб, з іх 54% комсамольцаў. Сэкцый гурток ня мае, праца вядзецца пад кіраўніцтвам культурных сіл ІБК. Існуе шчыльная сувязь з ЦБК. За зімовы час гурток правёў 9 сходаў і 4 пасяджэньні бюро гуртка, На сходах заслухоўваліся даклады на краязнаўчыя тэмы. Асабліва часта ставіліся даклады этнографа Сербава, на прыродазнаўчыя тэмы Азбукіна і другіх. Гурток больш усяго зрабіў у зьбіраньні фольклёрна-дыялектолёгічных матар'ялаў. У бліжэйшы час гурток думае прыняць удзел у раскопках курганоў каля Менску.

Краязнаўчыя гурткі пры Польпэдтэхнікуме і Гідротэхнікуме яшчэ ня стала працуюць. Наладжваюцца экскурсіі, агульныя сходы, на якіх ставяцца адпаведныя даклады.

У сваім дакладзе аб летняй краязнаўчай працы студэнцтва прадстаўнік ЦБК т. Касьпяровіч правёў асноўную думку, што летняя краязнаўчая праца студэнцтва зьяўляецца формай першай самастойнай навуковай працы. Каб мець глебу для гэтай працы, неабходна студэнтам прыняць удзел у популярызацыі краязнаўчай працы на сходах, у друку, у акруговых газэтах, неабходна паведамляць органы друку аб сваёй краязнаўчай працы і яе выніках, аб працы мясцовых краязнаўчых організацый і г. д.; падругое, трэба зьвязацца з мясцовай краязнаўчай організацыяй, а дзе няма яе, організаваць яе, бо краязнаўчая праца будзе больш продукцыйна, калі ў працы будуць памоцнікі; з гэтае прычыны неабходна інформаваць грамадзкія і савецкія ўстановы аб сваёй працы і мэтах яе, каб зацікавіць працай краязнаўчыя організацыі. Спыняючыся на мэтодычным баку справы, дакладчык падкрэсьліў, што перш, чым прыступіць да працы, неабходна вызначыць, акрэсьліць

тэму, улічыць сілы, магчымасьці, крыніцы. Трэба мець на ўвазе, што галоўная мэта лепшай краязнаўчай працы—сабраць як мага больш матар'ялаў, а потым па прыезьдзе апрацаваць іх. Студэнты ў большасьці зьяўляюцца зьбіральнікамі, апісальнікамі, а вывады прыдзецца рабіць пры дапамозе спэцыялістых.

У спрэчках па справаздачным і інструкцыйным дакладах выказаліся: старшыня ЦБК т. Бялуга, т. Кліменка, Аніхоўскі, Улашчык, проф. Даўгяла, проф. Зьбіткоўскі, Аляксееў, Турпакоў, Юрашкевіч, Марук, Гілеўскі, Мяцельскі і інш. Былі выказаны такія думкі. У працы Т-ва пры БДУ ёсьць недахопы. Існуюць лішнія камісіі, напр., праўная. Мэдычная сэкцыя стала на правільны шлях паасобных заданьняў, а таму мае і добрыя вынікі працы. Неабходна, каб матар'ялы працы сэкцый пабачылі сьвет, былі надрукованы. Т-ву неабходна мець свой краязнаўчы часопіс (т. Бялуга). Краязнаўчая праца тэхнікумаў праходзіць нездавальняюча, узялі няправільны напрамак, неабходна, каб спэцыялістыя толькі кіравалі працай, а праца вялася самымі студэнтамі. У гуртку пры Гідротэхнікуме магчыма наладзіць найбольш цікавую краязнаўчую працу—дасьледваньне вод, але гэтага няма, бо выкладчыкі тэхнікуму ня ўцягнуты ў працу (т. Даўгяла). Наогул студэнтам цяжка працаваць па краязнаўству, ня ведаючы правільных мэтодаў працы. Неабходна з гэтае прычыны пры БДУ з наступнага году ўвесьці катэдру краязнаўства (т. Аніхоўскі), а пры тэхнікумах увесьці мэтодыку краязнаўства, як прадмет выкладаньня (т. Гілеўскі).

## Год працы Смаленскага Таварыства Краязнаўства.

У дарэволюцыйны час у Смаленскай губэрні існавалі тры краязнаўчыя організацыі: „Навуковая Архіўная Камісія" (адчын. ў 1908 г.), „Таварыства вывучэньня Смаленскай губ." (адч. ў 1908 г.) і „Вяземскае таварыства дасьледваньня і садзейнічаньня разьвіцьцю роднага краю" (утвор. ў 1911 г.). Першая організацыя распалася ў 1919 г., апошняя спынілася невядома калі, і толькі адно „т-ва вывучэньня губэрні" працягвае сваё існаваньне да сучаснага моманту. Было некалькі спроб утварыць такое таварыства, якое было-б здольна організаваць працу па ўсебаковым вывучэньні краю і аб'яднаць у адзіную сям'ю ўсіх краяведаў, але гэтыя спробы ніклі бяз сьледу, а ўтвораныя організацыі праз год-два зачыняліся.

А між тым жыцьцё настойліва патрабавала ўтварэньня навукова-краязнаўчай організацыі,—і яна ўтварылася па ініцыятыве невялікай групы зацікаўленых вывучэньнем свайго краю асоб, якія і дамагліся зацьвярджэньня Статуту „Смаленскага Т-ва Краязнаўства" (19/III 1926 г.).

З гэтага моманту новае т-ва і прыступіла да працы.

Маладому таварыству, якое спачатку ня мела ні сродкаў, ні ўласнага памяшканьня, ні выстарчаючага вопыту, прышлося ўсе сілы свае зьвярнуць на тое, каб прыцягнуць да справы настаўніцтва, студэнтаў, вучнёўскую моладзь і ўсіх асоб, якія могуць быць карыснымі ў сэнсе вывучэньня сваёй краіны.

Год працы не прапаў дарэмна,—і можна констатаваць, што т-ва замацавалася і пашырылася.

Па організацыйнай галіне закончана ўтварэньне аддзяленьняў т-ва ў г. г. Вязьме, Сычоўцы і Дарагабужы. Мяркуецца адчыніць такія філіі ў Ельні і Рослаўлі, дзе ўжо ўтвораны ініцыятыўныя групы, якім даручана аформіць справу. Апроч гэтага, наладжана сувязь з Бельскім Павятовым Краязнаўчым Таварыствам і 7-ю школьнымі краязнаўчымі гурткамі, якім разасланы програмы і інструкцыі. Перапіску т-ва вядзе з Цэнтральным Бюро Краязнаўства РСФСР, Інстытутам Беларускае Культуры і Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры ім, Дзяржаўнай Мастацкай Акадэміяй, Украінскай Акадэміяй Навук, Мэтодычн. бюро Губана, Губпляну і інш.

Навукова-дасьледчая дзейнасьць выявілася ў наступных галінах: прыродазнаўчай, экономічнай, гістарычнай, архэолёгічнай і этнографічнай. У прыродазнаўчай галіне вялося зьбіраньне матар'ялаў па флёры і фаўне Бельскага павету. Працавалі А. В. Цьвяткоў, Даўгашоў, В. В. Дабравольскі і інш. Матар'ялы перададзены ў музэі. Па экономічнай галіне сябром т-ва Г. В. Парфенавым дасьледавана адна воласьць, аб чым быў зроблены даклад.

Зьбіраліся і вывучаліся матар'ялы па гісторыі Смаленскага краю наогул і—у прыватнасьці—па гісторыі рэволюцыйнага і профэсыянальнага руху ў губэрні. (Вялі працу сябры т-ва: Лапчынскі, Грачоў, Дзьмітраў, Рэдкоў, Дзергачоў і інш.).

Зроблены архэолёгічныя раскопкі 3 гарадзішч і каля 28 курганоў. Дасьледавана 3 нэолітычныя стаянкі, 30 гарадзішч, селішч і некалькі дзесяткаў кургановых груп. (Праводзілі—А. Н. Ляўданскі, В. Тарасенка, Г. Парфёнаў і інш.).

У галіне этнографіі: па фольклёры—сабрана звыш 50 песень, каля 300 частушак і інш. матар'ял; па матар'яльнай культуры вывучаліся і замалёўваліся тыпы будынкаў, с.-гаспадарчыя прылады і інш. (Працу вялі В. Дзьмітраў, А. Палашэнкаў і інш.).

Сабраныя матар'ялы часткова былі апрацаваны ў відзе дакладаў, якія пасьля былі зачытаны на адчыненых сходах таварыства. Усяго было 20 дакладаў, з якіх некаторыя зьяўляліся сур'ёзна апрацаванымі і каштоўнымі монографіямі, а іменна:

1. А. П. Лапчынскі. Аб задачах Смаленскага Т-ва Краязнаўства. 2. А. В. Цьвяткоў.

Багацьце Бельскага краю. 3. А. Н. Ляўданскі. Археолёгічныя раскопкі ў Заслаўскім раёне Менскае акругі ў параўнаньні са смаленскімі помнікамі старажытнасьці. 4. Н. І. Савін. Бунт прыгонных у 1812 г. у двары Барышнікавых (па матар'ялах Алексінскага архіву. 5. В. П. Лапчынскі. Профэсар Дакучаеў (да 20-годзьдзя з дню сьмерці). 5. В. В. Дзьмітраў. 1905 г. у Смаленскай пашт.-тэл. акрузе. 7. В. І. Грачоў. Гістарычныя запіскі аб г. Ельні. 8. А. Т Абрамовіч. Профэсыянальны рух смаленскіх швэйнікаў у 1917 г. 9. Н. І. Савін. Аб праўным і экономічным стане сялян ва ўладаньнях Барышнікавых. 10. Г. В. Парфёнаў. Географічнае і экономічнае дасьледваньне Любавіцкай воласьці. 11. П. С. Кулік. Чаму ўздрыгі і вульканічныя выбухі здараюцца найчасьцей узімку. 12. І. Ф. Баршчэўскі. О фалётэізьме ў сувязі з некаторымі бытавымі зьявамі, якія сустракаюцца па тэрыторыі Смаленск. губ. 12. В. П. Лапчынскі. З матар'ялаў для жыцьцёпіса Энгельгарта. 13. А. Н. Ляўданскі. Каменны век у межах Смаленскай губэрні *).

Апроч паказаных вышэй прац, т-вам зьбіраліся весткі аб шэрагу выдатных дзеячоў для біографічнага слоўніку.

Зьбіраліся таксама матар'ялы па бібліографіі краю.

Популярызаваньне ідэй краязнаўства праводзілася таварыствам двома шляхамі: праз зьмяшчэньне на старонках мясцовых пэрыодычных выданьняў падзей, заметак, хронікі і праз публічныя выступленьні на розных сходах, зьездах з дакладамі, напрыклад, на настаўніцкіх конфэрэнцыях Смаленск. пав., на сходах студэнцтва, у комсамольскіх організацыях і да т. п. Апрача гэтага, Таварыствам вылучаны дзеля чытаньня лекцый у Настаўніцкі Краязнаўчы гурток пры Доме Працаўнікоў Асьветы наступныя таварышы: В. І. Грачоў, В. П. Лапчынскі, В. В. Дзьмітраў і А. Н. Ляўданскі. Першы з іх да канца году ўжо закончыў цыкль гутарак па гісторыі Смаленскай зямлі.

У заключэньне патрэбна спыніцца на працы Праўленьня. Апошняе коордынавала і вяло працу па пляне, зацьверджаным агульным сходам Т-ва. Усяго за год пасяджэньняў было 17, на якіх разгледжана было 39 адміністр.-гаспадарчых пытаньняў і 51 організацыйнае.

Апрача таго, было праведзена 13 агульных сходаў, з якіх 9 былі афяраваны вышэйпаказаным дакладам, а 2—устаноўчых.

Склад Т-ва з 19 асоб-утварыцеляў узрос да 54 асоб, з якіх ганаровых сяброў—2, праўдзейных—47 і сяброў-супрацоўнікаў—5.

Усяго за год паступіла ў касу т-ва 18 р., з якіх выдаткована 7 р. 95 к. Усе выдаткі, у сувязі з паездкамі, прымаліся сябрамі т-ва за свой кошт. Адсутнасьць сродкаў не давала магчымасьці шырэй разгарнуць навукова-дасьледчую працу Таварыства, а таксама надрукаваць навуковыя працы, якіх ужо сабралася досыць значная колькасьць.

Усё-ж такі трэба адзначыць, што, ня гледзячы на цэлы шэраг няўдач і матар'яльных цяжкасьцяй, таварыствам праороблена вялікая праца як у організацыйнай галіне, так і ў навукова-дасьледчай.

Пачатак зроблены, справа, можна сказаць, наладжана,—у далейшым яе трэба працягваць, пашыраць, паглыбляць.

В. Дзьмітраў.

*) Апрача гэтага, 7 дакладаў былі прысьвечаны памяці і дзейнасьці В. Н. Дабравольскага, які шмат зрабіў у справе дасьледаваньня і вывучэньня Смаленшчыны.

## Праца Краязнаўчага Гуртка пры Магілеўскай Саўпартшколе.

Гурток канчаткова афармаваўся 20/III 26 г. Пачынаючы з гэтага часу асабліва ў часе летніх вакацый краязнаўчую працу вялі адзельныя сябры гуртка. Так, сябра гуртка Лапіцкі даў весткі аб існаваньні ў аднаго гр. в. Булаўкі Мазырскай акругі каменнай сякеры вагой да 4 пудоў. Другія сябры зьбіралі фольклёр, словы жывой мовы, колекцыі для краязнаўчага музэю пры школе. З пачаткам навучальнага 1926—27 г. праца ажывілася. Заснаваўся краязнаўчы музэй, які стаў папаўняцца экспонатамі, што прывезьлі сябры гуртка пасьля вакацый. Рэгулярна пачалі адбывацца сходы гуртка, на іх зачытваліся анкеты, інструкцыі па краязнаўству і часопіс „Наш Край“.

## Краязнаўчае Т-ва пры БДУ.

21/IV 27 г. адбылося пасяджэньне Прэзыдыуму Праўленьня Краязнаўчага Т-ва пры БДУ. Былі заслуханы справаздачы аб працы соцыяльна-экономічнай і культурна-гістарычнай сэкцыі т-ва, быў разгледжан і зацьверджан плян дальняй экспэдыцыі, зацьверджана яўрэйская сэкцыя і каляндарны плян працы т-ва.

Соцыяльна-экономічная сэкцыя налічвае ў сваім складзе 25 сяброў. З профэсуры ў працы сэкцыі прымаюць удзел проф. Пічэта, Канаплін і Сянкевіч. Сэкцыя падзелена на 2 камісіі: праўную і экономічную. Больш працуе праўная камісія, якая правяла 2 даклады: „Дасьледваньне пахаджэньня слова „гвалт“ і „Насьледчае права“. Экономічная камісія да сталай працы не прыступала за адсутнасьцю кіраўніка-профэсара. Яна правяла толькі адзін сход і два пасяджэньні бюро камісіі, на якіх разглядаліся пытаньні організацыйнага характару.

Культурна-гістарычная сэкцыя ў сваім складзе налічвае 54 сябры. Сходы сэкцыі спачатку адбываліся адзін раз у тыдзень, а пасьля перад канцом году 2 разы ў месяц.

Сэкцыя заслухала даклады: 1. Дасьледваньне цячэньня ракі Сьвіслачы; 2) Гісторыя „Маладняку"; 3) Экскурсія ў Заслаўль; 4) Гісторыя міліцыі; 5) Гісторыя крымінальнага вышуку і 6) Батлейка ў Менску. Усе даклады выклікалі вялікую зацікаўленасьць з боку студэнцтва. У апошні момант сэкцыя падзялілася на камісіі: культурна-гістарычную і фольклёрна-дыялектолёгічную; кіраўнікам апошняй камісіі запрошан проф. Бузук.

Па справаздачных дакладах сэкцый Прэзыдыум прызнаў, што сэкцыі організацыйна аформлены, але праца не разгорнута згодна пляну. У далейшым Прэзыдыум лічыць неабходным знайсьці правільны мэтод і зьмест працы сэкцый, наладзіць мэтодычнае кіраўніцтва з боку профэсуры і навуковых працаўнікоў. У бліжэйшы тэрмін перэабраць бюро культурна-гістарычнай сэкцыі, распрацаваць і абвясьціць тэмы, якія пажадана распрацаваць у летні час і правесьці падрыхтоўчую працу для студэнтаў, якія ад'яжджаюць у экспэдыцыі.

Плян экспэдыцыі краязнаўчага т-ва пры БДУ зводзіцца к наступнаму. Экспэдыцыя наладжваецца ў Мазыршчыну. Удзел прыймаюць усе сэкцыі. Мэдсэкцыя мае мэтай вывучыць: санітарна-гігіенічнае становішча раёну, распаўсюджанасьць трасцы, сыфілісу, каўтуна і народнай мэдыцыны. Культурна-гістарычная сэкцыя намячае: дасьледваць гарадзішча каля Турава і раскапаць 3-4 курганы, зрабіць спробу адшукаць стаянкі нэолітычнага пэрыоду, абсьледваць знойдзены ў 1907 г. саркофаг чырвонага шыфару і г. д.; у галіне этнографіі: даць апісаньне антрополёгічнага тыпу насельніцтва, дасьледаваць матар'яльную культуру, сямейны, грамадзкі і соцыяльны быт насельніцтва, вывучыць яго мову, рэволюцыйны рух краю і культурна-асьветны стан. Прыродазнаўча-географічная сэкцыя ставіць мэтай сабраць навуковыя экспонаты па зоолёгіі, батаніцы, біолёгіі, геолёгіі і запісаць географічныя назвы месц раёну. Соцыяльна-экономічная сэкцыя будзе вывучаць формы звычаёвага права і экономічны стан раёну. Яўрэйская сэкцыя будзе абсьледаваць экономіку і быт яўрэйскага насельніцтва раёну. У экспэдыцыі прымуць удзел 16 асоб. Мэдсэкцыя і культурна-гістарычная сэкцыя вылучае 5 асоб, прыродазнаўчая—5, соцыяльна-экономічная —1 і яўрэйская—1. Са складу навуковых працаўнікоў БДУ згоду прыняць удзел у экспэдыцыі далі т.т. Сербаў, Шчапоцьцеў, Зьбіткоўскі, Магілеўчык. Выдаткі на экспэдыцыю вызначаны ў суме 600 руб.

Прэзыдыум зацьвердзіў гэты плян, прызнаўшы неабходным паслаць у Мазыршчыну для падрыхтоўчай працы т. Бараноўскага і Ўлашчыка. Таксама прызнана неабходным згаварыцца з Мазырскім акруговым і Тураўскім раённым т-вамі аб матар'яльнай дапамозе экспэдыцыі пры ўмове, што матар'ялы экспэдыцыі мясцовага значэньня будуць перададзены мясцовым організацыям.

## Сеньненскае раённае т-ва краязнаўства.

26 сакавіка гэтага году адбыўся агульны сход сяброў Сеньненскага раённага т-ва краязнаўства. Прысутнічалі 68 чалавек. Абгаварваліся наступныя пытаньні: 1) Праца 2-га Ўсебеларускага краязнаўчага зьезду—даклад Я. Сяргеенкі; 2) Вынікі вывучэньня рэволюцыйнага руху на Сеньненшчыне—даклад А. Макоўскага; 3) Вынікі вывучэньня прыроды раёну—даклад т. Вялішчанскага; 4) Вынікі вывучэньня фольклёру—даклад Я. Сяргеенкі; 5) Аб чарговых задачах працы т-ва (школьнае краязнаўства і музэйная праца)—даклад т. Слаўцова.

Вывучэньне рэволюцыйнага руху, згодна дакладу т. Макоўскага, больш-менш энэргічна вядзецца толькі $2^1/_2$ месяцы. Зьбіраецца фактычны пісьмовы матар'ял—рэволюцыйны друк, протоколы сходаў, мэмуары. Запісаны характэрныя ўспаміны ўдзельнікаў рэволюцыйнага руху 1905 г. Матар'ялы зьбіраюць 5 асоб і выключна па гісторыі рэвол. руху ў горадзе. На падставе гэтых матар'ялаў ужо ёсьць магчымасьць высьветліць працу рэволюцыйных організацый у Сяньне ў пачатку XX стал. Па матар'ялах гэтых у 1904—1905 г. ў Сяньне існавала 7 гурткоў, якія вялі ў легальных умовах шырокія масавыя дыскусіі і пропаганду.

Прырода Сеньненскага раёну вывучвалася, галоўным чынам, гуртком „маладых натуралістых". Вынікі працы: складзен зельнік 82 сямей (да 430 відаў); сабраны орнітолёгічныя колекцыі і колекцыі шасьціножак (да 100 відаў), рэгулярна вяліся фэнолёгічныя запісы. Як ілюстрацыя працы т-ва па вывучэньні прыроды, для сходу быў пабудаван часовы музэй мясцовай прыроды.

У зьбіраньні фольклёру т-ва шмат зрабіла. Сабраны матар'ял пачынае адбіваць асаблівасьці мовы Сеньненскага раёну, чаго раней не прыключалася.

## Асьвейскае раённае т-ва краязнаўства.

Дасьледваньне Асьвейскага раёну вядзецца па сельсаветах. Для кожнага сельсавету вызначаны наступныя пункты вывучэньня: 1) Рэчкі, руччы, вазёры і крыніцы сельсавету; 2) Лясы сельсавету; 3) Коопэрацыя ў сельсавеце за апошняе дзесяцігодзьдзе. Апісаньне сельсаветаў па гэтых асноўных пунктах т-ва даручыла 24 сябрам т-ва, прычым вывучэньне некаторых сельсаветаў даручана групам сяброў. Апрача гэтага, т-ва даручыла тройкам, якія добраахвотна склаліся, сабраць матар'ялы па такіх галінах жыцьця Асьвейшчыны: 1) рэўрух у раёне; 2) Асьвета; 3) Рэлігія раньш і цяпер; 3) Сельская гаспадарка ў раёне ў мінулым і сучасным; пэрспэктывы яе ў раёне; 4) Коопэрацыя на

Асьвейшчыне за 10 год. На травень-ліпень т-ва правядзе абгляд і вучот царкоўных архіваў, складзе схэматычную карту помнікаў раёну, набудзе моноліты глебы Асьвейскага раёну і пераорганізуе музэй.

## Краязнаўчы гурток пры Аршанскім Рабфаку і Пэдтэхнікуме.

З 25 лютага г. г. па 1 траўня аб'яднаным краязнаўчым гуртком пры Рабфаку і Пэдтэхнікуме было праведзена 4 агульныя сходы і 2 сэкцыйныя сходы. На іх былі зачытаны наступныя інформацыі і даклады: 1) Інформацыя т. Цэхановіча аб працы II Усебеларускага краязнаўчага зьезду, 2. Слоўнікавая праца студэнтаў Рабфаку і Пэдтэхнікуму, 3. Чытаньне і разгляд фольклёрнага матар'ялу, які сабран т. Пазьняком, Рабіновічам, Бандаруком, Свайняком і др., 4. Мэтоды вывучэньня глебы, паверхні водных прастораў, 5. Інформацыя т. Карасёвай аб псальмах, якія сьпяваюцца ў Копыскім раёне, 6. Плян працы па дасьледваньні летам Дубровенскага раёну. Даклады рабіліся як выкладчыкамі, так і студэнтамі.

## У ЦБК РСФСР.

### Мэтодычная выстаўка па краязнаўству.

У Ленінградзе зачынілася наладжаная студэнцкай сэкцыяй ЦБК мэтодычная выстаўка па краязнаўству. Выстаўка складалася з аддзелаў: агульнага, геолёгічнага, батанічнага, энтомолёгічнага, мэтэоролёг., эконом., антроп., этногр. і іншых.

Выстаўка мела вялікі і заслужаны посьпех. Яна паставіла сваёй мэтай пазнаёміць масы вучнёўства і настаўніцтва з мэтодамі і тэхнікай палевой краязнаўчай работы і апрацоўкі сабраных матар'ялаў.

Выстаўку наведала шмат экскурсій і ўсімі было выказана пажаданьне, каб гэту выстаўку ператварыць у пастаянны мэтодычны музэй, які зьявіўся-б вялікай дапамогай у працы мясцовых краязнаўцаў.

ЦБК мае намер такі музэй у хуткім часе організаваць.

### Усерасійская конфэрэнцыя студэнцкіх сэкцый краязн. орган.

Вядзецца падрыхтоўчая праца да скліканьня ўсерасійскай конфэрэнцыі студэнцкіх сэкцый краязнаўчых організацый.

Конфэрэнцыя мае на мэце больш організаваць і ўцягнуць студэнцтва ў краязнаўчую працу. Конфэрэнцыі прыдаецца вялікае значэньне. Яна мае адбыцца ў Маскве, зьедуцца да 50 дэлегатаў ад краязнаўчых організацый розных ВНУ.

## Новая этнографічная часопісь.

Дагэтуль спэцыяльны этнографічны пэрыодычны друк абмяжоўваецца часопісьсю „Этнографія", якая выдаецца ў Маскве (хутка выходзіць 3 нумар). Шпаркі рост этнографічнае навукі ня можа задаволіцца аднэй часопісьсю і ў хуткім часе ў Ленінградзе пры Этно-Аддзел. Геофана Л. Дз. У. пачынае выходзіць пад рэдакцыяй проф. Ул. Г. Багараза-Тапа новы журнал „Этнограф-Исследователь".

Журнал будзе выходзіць штомесяц на 32 стар. і будзе зьмяшчаць кіраўнічыя артыкулы па этнографіі, працы студэнтаў, мэтоды краязнаўчай працы, хроніку і бібліографію.

## Краязнаўства ў Пятрыкоўскім раёне Мазырскае акругі.

Т-ва краязнаўства ў Пятрыкове організавалася 19/IX 1926 г. і цяпер налічвае 43 сябры. Склад гэтае краязнаўчае організацыі наступны:

| | | |
|---|---|---|
| Асьвета | Ніжэй сярэдняе | 12 |
| | Сярэдняя | 23 |
| | Вышэйшая | 6 |
| Нацыянальнасьць | Яўрэяў | 4 |
| | Беларусаў | 37 |
| Партыйнасьць | Беспартыйных | 36 |
| | Членаў і кандыдатаў КСМ | 1 |
| | Членаў і кандыдатаў КП(б)Б | 4 |
| Па родзе занятнаў | Вучняў | 1 |
| | Служачых, сяброў саюзу | 40 |
| | Сялян | 0 |
| | Рабочых | 0 |
| Жанчын | | 16 |
| Мужчын | | 25 |

Краязнаўства ў межах раёну і гораду яшчэ не популярызавана, калі ня лічыць 2-3 дакладаў, пастаўленых на сходах асьветнікаў, з боку значнае часткі якіх яшчэ даволі індыфэрэнтныя адносіны да краязнаўчае працы. На чале т-ва стаяла праўленьне з 9 асоб, рэвізыйныя камісія складалася з 3 асоб.

Ні пры сямілетках, якіх у г. Пятрыкове 3, ні пры с/саветах ня было організавана гурткоў краязнаўства, дый працы ў гэтым кірунку амаль што не вялося.

На сэкцыі т-ва краязнаўства ня было падзелена, хоць і вызначаны былі ўпоўнаважаныя з ліку сяброў праўленьня для кіраўніцтва асобнымі галінамі працы.

Т-ва мае невялічкую бібліотэку; апрача гэтага, атрымлівае да 5-6 нумароў часопісу „Наш Край“.

Пасяджэньні праўленьня т-ва да 25/III 27 г. больш-менш праводзіліся рэгулярна і адчувалася паступовае наладжваньне кіраўніцтва краязнаўчай працай, але пасьля гэтага яно (праўленьне) па розных акалічнасьцях зусім прыпыніла сваю дзейнасьць.

Зразумела, што пры такім становішчы організацыя краязнаўчага руху і навукова-дасьледчая праца т-ва ня мелі сталага і сыстэматычнага характару, а таму і вынікі навукова-дасьледчае працы ў Пятрыкоўскім р-не, у параўнаньні з іншымі раёнамі, яшчэ нязначныя. За час свае дзейнасьці т-ва сабрала 451 слова для слоўніка жывое мовы, удзел у гэтай працы прымала 12 асоб, з ліку якіх найбольш і найлепш правяла працу Н. Навіцкая. Краязнаўцаю Н. Рудакоўскаю сабрана 29 песьняў і прыпевак. Кр-цам Буднікам праводзіліся фэнолёгічныяназіраньні (дастаўлена 2 зводкі), над рэжымам р. Прыпяці (дастаўлена 2 анкеты). У гэтым-жа кірунку працаваў і Мароз, даслаўшы 1 зводку фэнолёгічных назіраньняў і 1 па рэжыме р. Прыпяці, ім-жа пададзены зьвесткі аб стане аховы прыроды ў раёне. З 2-х месц р-ну дастаўлена апісаньне глін з абразцамі, даслана адно паведамленьне аб вадзяным арэху (trapa natans) з пладамі самога арэху. Апрача гэтага, дастаўлена адно апісаньне культурна-гістарычнага характару і зроблены некаторыя крокі да апісаньня г. Пятрыкова па програме апісаньня паселішч гарадзкога тыпу. Усяго, такім чынам, тую ці іншую працу правяло 15 сяброў т-ва, што складае толькі каля 35% ад агульнага ліку сяброў т-ва.

Пэрспэктыў на летнюю краязнаўчую працу ў межах усяго р-ну мала, але значныя ёсьць пэрспэктывы для разгортваньня працы ў межах гораду.

З іншых галоўнейшых недахопаў у працы т-ва трэба вызначыць наступныя:

1) у праўленьні т-ва мала адчуваецца адказнасьці за краязнаўчую працу, а частка сяброў праўленьня зусім непрацаздольная;

2) не праведзена папулярызацыя краязнаўства сярод партыйнай, комсамольскай організацый і сярод шырокіх колаў працоўных як у горадзе, так і на раёне, не праведзена праца па ўцягненьні ў краязнаўчую організацыю шырокіх колаў працоўных;

3) не праведзена організацыйная праца па аформленьні т-ва краязнаўства (не організаваны сэкцыі), ня толькі не організаваны гурткі краязнаўства пры с/саветах і сямілетніх школах, а не вялася і праца ў гэтым кірунку;

4) зусім мала разгорнута навукова-дасьледчая праца, ня гледзячы на налічча значнае колькасьці кіраўнічых матар'ялаў і сіл;

5) не організавана выкананьне тэхнічнае працы па т-ву, а зьнішчыць гэты недахоп можна лёгка, прыцягнуўшы да гэтае працы вучняў.

Зьнішчаючы ўсе пералічаныя недахопы, т-ва будзе паступова пашыраць краязнаўчую працу.

Навукова-дасьледчая праца павінна складацца з наступнага: 1) апісаньня гліны і збору абразцоў яе, 2) з апісаньня жалезнае руды і збору абразцоў яе, 3) апісаньня месц распаўсюджваньня вадзянога арэху (trapa natans), 4) з збору вестак па лясной анкеце, 5) з збору вестак аб грунтавых водах па анкеце Гідролёгічнага Інстытуту, 6) з правядзеньня фэнолёгічных назіраньняў і над рэжымам рэк, 7) з апісаньня г. Пятрыкова па програме апісаньня паселішч гарадзкога тыпу.

Затым патрэбна пашырыць збор слоўнага і фольклёрнага матар'ялу, правесьці працу па выяўленьні хатніх рамёстваў і саматужных заняткаў, організаваць збор матар'ялаў па монографіі паселішч. Патрэбна таксама правесьці вучот помнікаў культуры і старасьветчыны, якіх у Пятрыкоўскім раёне, паводле самых няпоўных зьвестак, ёсьць значная колькасьць, і наладзіць іх ахову, а пасьля заняцца ўжо апісаньнем саміх помнікаў. Нарэшце, патрэбна організаваць збор матар'ялаў па гісторыі рэволюцыйнага руху і зусім ня лішняю, зразумела, зьявілася-б праца пісаньня краязнаўчага летапісу.

А. Крукоўскі.

## Праца Беларускага Нав.-Дасьл. Гуртка ў Ленінградзе.

Са сканчэньнем вучэбнага году спыніў сваю працу на летні пэрыод і беларускі гурток у Ленінградзе.

Сябры гуртка за апошні час досыць шырока разгарнулі працу па ўсебаковым дасьледваньні Беларусі. Ёсьць ужо шэраг работ, прыгатаваных да друку. За мінулы пэрыод на пасяджэньнях гуртка былі заслуханы і абгавораны наступныя даклады:

1. Дубатоўкі—„Комуна „Красная Заря“ Менскай акругі“.

2. Проф. Гарчынскага—„Аб Беларускай Акадэм. Конфэрэнцыі“.

3. Грынблята—„Каўтун у Палесьсі“.

4. Дышчанкі—„Тэхніка апрацоўкі лёну і пянькі на Беларусі“.

5. Ёселева—„Народная мэтэоролёгія ў навуковым асьвятленьні“.

6. Маркевіча—„Творчасьць М. Чарота“.

7. Пагарэльскай—„Поэма „Новая Зямля“ Я. Коласа“—на пасяджэньні., прысьвечан. 20-год. юбілею пісьменьніка.

На летні час ад'яжджаючым у Беларусь сябром гуртка дадзены спэцыяльныя заданьні па краязнаўству.

Значна пашырылася бібліотэка гуртка.

# Бібліографія.

**Александрович (Насыфи) Джемиль,— Литовские татары. Краткий историко-этнографический очерк** (Известия О-ва обследования и изучения Азербайджана. № 2. Баку, 1927 г., стр. 77—95).

Чаму аўтар у працах, прысьвечаных далёкаму Азэрбайджану, зьмясьціў свой артыкул аб „литовских татарах“ [1]—невядома, бо ніколі яны ня мелі дачыненьня да Каўказу...

Мажліва, што гэты артыкул меў сваёй мэтай даць зьвестку аб тэй далёкай на паўночным захадзе Эўропы турэцка-татарскай галіне, якая там засталася ад сярэднявечча і страціла сваю мову і сувязь з сваёй нацыянальнай стыхіяй, а між тым у свой час мела надзвычайна вялікае значэньне ў заснаваньні Літоўска-беларускае дзяржавы XIV—XV ст.

Аўтар падзяляе свой артыкул на дзьве часткі:

*Частка 1.* „Пахаджэньне літоўскіх татар“ паднаўляе толькі тыя зьвесткі, якія падаў у 1875 г. проф. Ленінградзкага унівэрсытэту А. Мухлінскі [2]). Аўтар карыстаецца новымі працамі па гісторыі тюрка-татарскага народу, які зьявіўся ў прычорнаморскіх стэпах ужо ў X ст., і падкрэсьлівае наліčча высокай культуры татар Залатое арды пад уплывам культур кітайскай, арабскай і пэрсыдзкай.

Печанегі, полаўцы, мад'яры і узы, аб якіх кажа гісторыя Паўднёвай Русі ў X і XI ст., па думцы аўтара, пранікалі і ў Літву. Але пэўна вядома, што толькі татары Батыевай арды пасьля 1241 г. разбурылі Слонім і Наваградак.

Паміж 1280 і 1288 г.г. атрады слыннага татарскага хана Нагая (†1300 г.) пабывалі ў Берасьці, Наваградку і Горадні. У пачатку-ж XIV ст. па розных месцах Літвы і Беларусі, як сумежнай з ёй, брадзілі з сваімі ордамі крэўныя Нагая. Вось чаму Гэдымін, „заснавацель магутнасьці Літоўскае Дзяржавы“, першы раз скарыстаў т а т а р, якія з'арганізавалі самастойнае в о й с к а для барацьбы супроць крыжакоў, заняўшых бераг Бальтыцкага мора паміж Віслай і Дзьвіной. Ужо ў пачатку княжэньня Гэдыміна (1316—1341 г.), менавіта ў 1319 г., татары складалі передавое войска ў вял. князя Літвы, і апошні ўвесь час свайго княжэньня вёў дружбу з Залатой Ардой. Палітыка Гэдыміна мела свой працяг і пасьля яго сьмерці, пры яго сынох Монівідзе (1341—1345) і Альгэрдзе (1345—1377).

Але самым выдатным часам у гісторыі колёнізацыі Літвы і Беларусі татарамі было княжэньне Вітаўта (1392—1430 г.), які даў прытулак слыннаму хану Тахтамышу і ўвесь час затым падтрымліваў самую вялікую дружбу з Тахтамышам (†1406 г.) і з яго сынамі. Цяпер зьявіліся на Літве і Беларусі ўсе галоўныя колёніі татарскія, як-то: на р. Вака каля Вільні, а таксама ў паветах Троцкім, Лідзкім, Ашмянскім, а часткай у Горадзеншчыне і Меншчыне. З 1397 г., калі Вітаўт захапіў у палон некалькі тысяч нагайскіх татар Азоўскае арды, ён пасяліў іх, нічым не выдзяляючы, паміж вольных колёністых-татар.

У пачатку XV ст. ў Літоўска-Беларускай дзяржаве была такая значная колькасьць татар, што ў бойцы на Грунвальдзкай даліне (1410 г.) яны складалі перадавыя войскі да 30 тыс. і дапамаглі перавазе славян над немцамі.

У пачатку XVI ст. (1503, 1506 г.) татары крымскія зрабілі цэлы шэраг набегаў на Беларусь і Польшчу. Вядома, што яны былі тады пад Клецкам і Менскам і з гэтага часу тут засталася таксама колёнія татарская.

У 1616 г. агульная лічба татар на Беларусі і Літве даходзіла да 100 тыс. Усё гэта была вольная насяленнасьць, меўшая поўныя грамадзянскія правы вайсковых пасяленцаў. Частка з іх, „татарскія казакі“, якія развозілі княскія загады і пошту і празваліся (ад татар. назвы „ліпан“ або „ліпкан“) „лупка-татар“ або „липковские татары“.

Затым аўтар дае кароткі нарыс гісторыі прававога становішча літоўскіх татар да часу падзелаў Рэчы Паспалітай, калі, пад уплывам уціску, татары масамі пачалі перасяляцца ў Турэччыну, і гэта імкненьне ня спынялася і ў часы расійскага кіраваньня, чаму б. татарскія колёніі на Літве і Беларусі пачалі прыходзіць у спусташэньне.

У другой частцы свайго артыкулу аўтар дае нарыс „побыту літоўскіх татар“. З па-

---

[1]) Аўтар піша, што Османскія туркі і крымцы называюць гэтых татар—Лупка-татар. Польскія пісьменьнікі называюць іх „Ліпкаўскія татары“.

[2]) Мухлинский А.—Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПБ. 1875.—У 1902 годзе ў Адэсе гэта праца была перадрукована. Стар. 59.

чатку спыняецца на статыстыцы татар „літоўскіх“ і лічыць, што іх цяпер каля 11 тыс. „Галоўная маса літоўскіх татар,—кажа аўтар,—па новым разьмежаваньні дзяржаў, жыве ў Польшчы (прыблізна, палова ўсёй колькасьці), затым у БССР—менш паловы і параўнальна невялічкая колькасьць у Літве і УССР.

Больш буйнымі асадамі аўтар лічыць: Менск, дзе налічыў 300 сямей, Наваградак—каля 30 сямей, Ляхавічы—50 сямей і г. д.

Заняткі татар—земляробства, гарбарства (кажав. рамяствы), фурманства. Гандаль яны лічаць зьняважлівым.

Звычайная мова—беларуская. Тюрскіх слоў засталося мала, але ў рэлігійным абыходзе ёсьць досыць значная колькасьць арабскіх слоў. Наогул-жа аўтар констатуе хуткі процэс асыміляцыі, чаму дапамагаюць зьмешаныя шлюбы.

Адносна нацыянальнага характару, аўтар, супроць Мухлінскага, заўважвае, што татары літоўска-беларускія маюць ухіл да драк і забойства. Погляд на адукацыюаднабокі: патрабуюць вывучэньня кур'ану, малітваў і кітабу (збор сьвятых паданьняў).

У заключэньні аўтар спыняецца на некаторых паданьнях, забабонах і лягендах, якія амаль што ўсе маюць рэлігійны зьмест, і на звычайных паміж татар забавах, прычым кажа, што моладзь больш за ўсё любіць эўропэйскія скокі, а дзеці „пілку“ і „кацелку“ (дыск).

На падставе ўсяго сказанага, трэба адзначыць, што энцыклёпэдычная па свіам зьмесьце праца гэта не дае якога-небудзь вялікага ўкладу ў літаратуру ведаў аб літоўска-беларускіх татарах, асабліва, калі падыйсьці да яе з пункту гледжаньня сучасных навуковых запатрабаваньняў. Аўтар абмежаваўся вельмі малым: ён ня здолеў даць распрацоўку крыніц, якія павінны быць прыцягнуты да ўсебаковага асьвятленьня татарскага пытаньня, і яно чакае дакладных досьледаў, грунтоўных і адпавядаючых запатрабаваньням гістарычнай навукі ў наш час, але ён выпукла падкрэсьліў значэньне татар для ўтварэньня Вялікага Княства Літоўска-Беларускага.

Зм. Даўгяла.

## Папраўка.

Просьба выправіць наступныя памылкі друку ў артыкуле „Дрэвастаны сярод палёў“, зьмешчаным у № 3 (18) „Нашага Краю“ (ст. 11).

| ДРАЎНІНЫ | Надрукавана | | Павінна быць | |
|---|---|---|---|---|
| | На пробе | На гэктары | На пробе | На гэктары |
| Дробнай . . . | 29.362 к. м. | 764.635 к. м. | 29,362 к. м. | 76,4635 к. м. |
| Сярэдняй . . | 1.309 „ „ | 340.885 „ „ | 1,309 „ „ | 34,0885 „ „ |
| Дрывяной . . | 0.396 „ „ | 10.312 „ „ | 0,396 „ „ | 1,0312 „ „ |
| Разам . . | 31.067 к. м. | 1.079.832 к. м. | 31,067 к. м. | 111,5832 к. м. |

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры.
Рэдактар—З. Бядуля.
Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.

# ЗЬМЕСТ.


Стар.

**І. В. Самцэвіч.** Вывучэньне вёскі—неадкладная задача краязнаўчых арганізацый . . . . . . . 3

**Магілеўчык.** Да пытаньня сучаснага стану гарадоў БССР . . 5

**Л. Цьвяткоў.** Некалькі слоў аб менскіх татарах . . . . 10

**П. Салаўёў.** Значэньне і сэнс фэнолёгічных назіраньняў . . 17

МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**А. Немцаў.** Замоскі сельсавет . . . . . . . . 19

**А. Немцаў.** Гураган 12 чэрвеня 1927 г. . . . . . . 48

**В. Самцэвіч.** Нарыс экономічнага становішча Барысаўскага раёну 53

**З. Даўгяла.** Сьвіслацкі замак у 1560 г. . . . . . . 60

Вывучэньне культурнага стану краю . . . . . . 65

**Д. Васілеўскі.** З гісторыі Аршанскага друку . . . . 76

АНКЕТЫ, ПРОГРАМЫ І ІНСТРУКЦЫІ.

**Цьвікевіч і Магілеўчык.** Схэма санітарна-бытавога дасьледваньня і апісаньня вёскі . . . . . . 81

**Зьбіткоўскі.** Настаўленьне да зьбіраньня расьлін і назіраньняў над імі . . . . . . . . . . 91

ХРОНІКА.

Менская конфэрэнцыя студэнцкіх краязнаўчых арганізацый . . 109

Год працы Смаленскага таварыства краязнаўства . . . 110

Праца краязнаўчага гуртка пры Магілеўскай савпартшколе . . 111

Краязнаўчае таварыства пры БДУ . . . . . . . —

Сеньненскае раённае т-ва краязнаўства . . . . . 112

Асьвейскае раённае т-ва краязнаўства . . . . . —

Краязнаўчы гурток пры Аршанскім рабфаку і пэдтэхнікуме . 113

У ЦБК РСФСР . . . . . . . . . . —

Новая этнографічная часопісь . . . . . . . —

Краязнаўства ў Пятрыкоўскім раёне Мазырскае акругі . . —

Праца беларускага нав.-дасьл. гуртка ў Ленінградзе . . . 114

БІБЛІОГРАФІЯ.

**З. Даўгяла.** Александровіч (Насыфи) Джемиль. Литовские татары 115

